


www.minkult.me

# ТОЛЬКІ ПРОЗА

Акудовіч
Арлоў
Балахонаў
Бахарэвіч
Брава
Вішнёў
Глобус
Календа
Каляда
Касцюкевіч
Марціновіч
Пістончык
Рублеўская
Сін
Шчур

«Мінкульт» створаны дзякуючы краўдфандынгавай платформе «Улей» і ўласна людзям, якія ахвяравалі грошы

Аляксандар І. Бацкель
Юлія Брызінская
Данііл Брызінскі
Алена Глекава
Людміла Пошва
Настасься Карнацкая
Бася Шыпат
Ганна Каржэнка
Аляксандар Рыбачонак
Міхаіл Міласерны
Віктар Сяргейчык
Міхаіл Сяргеенка
Кацярына Чырцік
Дзьмітрый Аленаў
Ганна Арэшнікава
Вольга Сабеніна
Канстанцін Мазурэнка
Уладзіслаў Мамотаў
Кацярына Гарніцкая
Максім Сьцепаненка
Аліна Калтачэнка
Каця Міхеева
Васіліса Паляніна
Андрэй Анро
Дзьмітрый Зязюльчык
Вольга Сінькевіч
Таня Арцімовіч
Georgy Roy
Сяргей Антановіч
Вольга Шахновіч
Севярын Квяткоўскі
Вадзім Алькенаў
Яніна Равяка
Сяргей Макрэнка
Настасься Бойка

Натальля Бойка
Ihnat
Галіна Сіўчанка
Еся
Ганна Дзягель
Anton T.
Алесь Карась
Марыя Мартысевіч
Алена Брава
Віктар Шніп
Анатоль Тамашаў
Віталь Аляшкевіч
Людміла Сімановіч
Ігар Гайдукевіч
Міхаіл Рубін
Уладзімір Садоўскі
Сяргей Енін
Мікіта Дзьмітраніца
Леся Пчолка
Ксенія Кошар
Віктар Жыбуль
Тацьцяна Дамарад
Вольга Дажанок
Марыя Скараход
Вераніка Казлова
Яўген Казарцаў
Ганна Лахоўская
Ірына Гарошка
Андрэй Дзічэнка
Кацярына Ермаловіч
Сяргей Доўгушаў
Уладзімір Габідулін
Ганна Бундзелева
Аляксандра Дзьмітранок
Сяргей Бокша

Наста Палтаржыцкая
Анатоль Паўлючэнка
Віка Біран
Серж Саланенка
Марына Яромка
Mr. Andrei Komau
і Mrs. Dharma Komau
Аляксандар Бугаеў
Ian
Сьвятлана Глухава
Наста Грышчук
Кацярына Пацёмкіна
Яўгенія Цюленева
Віталь Латыш
Андрэй Сушко
Наташа Яўлюшына
Яўген і Вера Філенкі
Алеся і Сяржук Лацінскія
Алесь Плотка
Ганна Трызьнюк
Сяргей Лісічонак
Дар'я Вашкевіч
Вольга Ляшчэвіч

Асобны паклон **Натальлі Бойка**, **Максіму Шапялевічу**, **Дзьмітрыю Аленаву**, **Уладзіміру Габідуліну** і **Ганьне Бундзелевай** – гэта былі самыя крутыя і актыўныя спонсары, бязь іх нічога б не атрымалася!

А таксама пілі за часопіс
у флэшмобе #замінкульт #zaminkult наступныя героі:

Алесь Бычкоўскі
Севярын Квяткоўскі
Зьміцер Вішнёў
Андрэй Дзічэнка
Ксенія Шталенкова
Тацьцяна Нядбай
Марыя Пушкіна
Андрэй Хадановіч
Людміла Рублеўская
Максім Махкамаў
Андрэй Гусараў
Жэня Цюленева
Сяргей Харэўскі
Юля і Даніїл Брызінскія
Альгерд Бахарэвіч
Сяргей Балахонаў
Саша Раманава
Леся Пчолка
Васіліса Паляніна
Аляксандра Макавік
Алесь Аркуш
Сяргей Прылуцкі
Валер Гапееў
Косьця Мазурэнка
Вольга Сабеніна
Алеся Лацінская
Ганна Дзягель
Люда Пошва
Алесь Емяльянаў-Шыловіч
Дзьмітрый Калейчык
Надзея Ясьмінска
Аляксандар І. Бацкель
Серж Мінскевіч
Максім Шапялевіч
Бася Шыпат
Адам Глобус
Дзьмітрый Аленаў
Віталь Латыш
Марына Шода
Сяргей Сакума
Таня Гарошка
Марына Буглак
Ільля Сін
Анхела Эспіноса
Марына Весялуха
Сяргей Шаматульскі
Жэня Клёцкін
Галіна Сіўчанка
Вераніка Ляўчук
Ганна Златкоўская
Мікола Адам
Рыгор Супастатаў
Алесь Паплаўскі
Вольга Якаўцава
Хрысьціна Шыянок
Вова Лазарчук
Ірына Ласіхіна

УСІХ ВАС АБДЫМАЮ – КАЛЕНДА С.

**Галоўны рэдактар і заснавальнік** Сяргей Календа

**Рэдактарка** Ліда Наліўка

**Вокладка** Андрэй Пакроўскі

**Вёрстка** Віталь Латыш

**Кантакт для аўтараў:** mimikriabel@gmail.com

# Мін.культ-уры-ра-ру...

Цытаваць, уяўляць і проста фантазаваць нікому ніколі не забаранялася, таму і вокладка першага нумару адразу прымушае пільна ўглядзецца, назва часопісу выклікае двaістае пачуцьцё, нібыта цябе спужалі падчас злачынства.

У сучасным культурным асяродзьдзі не хапае разнастайнай мастацкай прозы, дыскусіяў вакол літаратурнага працэсу, і таму нам усім вельмі неабходны новы, малады і амбітны праект – такі, як «Мінкульт».

Для кожнага такое простае і звыклае слова «мінкульт» загучала гэтак па-рознаму.

Хтосьці ўбачыў тут тролінг бюракратыі, хтосьці сьціпла вырашыў, што гэты часопіс будзе банальна зьнішчаць высокую культуру, хтосьці абураўся, што часопіс займаецца прапагандай, але не сказаў, прапагандай чаго, а некаму падалося гэта ўсё нават абмежаваньнем беларускай прозы сталіцай: «Мінская культура».

Няхай будзе як мага больш цытаваньняў, прачытаньняў, дыскусіяў і проста добрай прозы, якую варта было б разьмясьціць на старонках новага часопісу.

Усе памятаюць неверагодную «Макулатуру», і казаць, што гэта працяг таго самага часопісу беларускае прозы і мастацтва – немагчыма, але варта адзначыць, што і «Мінкульт» вырас не на пустым месцы, бо трэба было набрацца досьведу, навучыцца ствараць і ўладкоўваць пад адной вокладкай досыць розныя і спрэчныя тэксты ад аўтараў, якія часам адзін аднаго ня любяць і прамаўляюць гэта альбо ўголас, альбо ўпотай, дзесьці на рагу кнігарні й пункту прыёму шклатары. І ў нас атрымалася: каманда «Мінкульту» прафэсійна і аб'ектыўна выйшла на той узровень стварэньня часопісу, калі ніводнага слова ня выкінеш, ня тое што аўтара.

Зьмест і тэматыка «Мінкульту» – вольныя, у першым нумары мы пакуль што думаем толькі пра якасьць тэкстаў, але пазьней, з новымі выданьнямі, пачне зьяўляцца тэма, і гэта будзе цікава ўсім нам.

Наш фармат, прабачце – «Фармат!», абсалютна не фарматны, мы адкрытыя ўсяму ў сьвеце, свабодзе творчасьці і волі думкі, мастацкай непаўторнасьці ды яркасьці, для нас кожны тэкст – гэта спачатку акт мастацтва, а ўжо потым – фармальнасьці кшталту правапісу ды іншага, бо ўзроўню мастацкасьці не існуе ў прыродзе. Немагчыма знайсьці правілы, формулу або разьлічыць штосьці, што стварае чалавек, бо заўжды кожны тэкст, карціна, пэрформанс будуць вынікам сумы «π» у квадраце, са сваім доўгім хвастом хібнасьці... Бо ідэалу не існуе, а толькі межы, якія ствараюць самі людзі, асабліва тыя, што сьвята вераць у сваю праўду, якая можа быць усяго толькі прывідам, які падпарадкоўвае тых самых бязглуздых выконваць загад, працу: «Я рабіў сваю работу, свой арбайтэн».

Часопіс супраць цэнзуры, супраць любых камітэтаў, якія спрабуюць кантраляваць мастацтва.

Вашай увазе «Мінкульт»: вялікі, цёплы і духмяны, з процьмай старонак чыстай прозы, задавальненьня, інтэлектуальнай оргіі ды простага каханьня для душы.

*Сяргей Календа*
*Мінкульт*
*2018*

# ЗЬМЕСТ

# ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ

## СУМ НА ТЭМУ ВЯРТАННЯ

*Прыпавесць*

Чалавек доўга блукаў па свеце, а як прыстаў да берага айчыны, дык адразу спатыкнуўся аб свой цень.

– Хіба цябе не было са мной? – здзівіўся чалавек.

– Я тут чакаў.

– Можа, таму я і вярнуўся?

– Пайшлі, – адказаў цень.

Яны паволі падняліся на пясчаную выспу, адкуль пабачылі мястэчка, дзе ён нарадзіўся і асталеў.

Чалавек балюча пасміхнуўся і шморгнуў носам. Потым прамармытаў нешта з агідай да самога сябе, і яны рушылі далей. Цень бег паперадзе, як сабака.

ЦЕНЬ БЕГ ПАПЕРАДЗЕ, ЯК САБАКА

– А мо ўжо позна? – засумняваўся чалавек. – Можа, не трэба было вяртацца? Колькі тут засталося жыць!

– Жыць ніколі не позна, – запэўніў цень.

Там, дзе сцежка напрасткі скіравала да мястэчка, цень аббег чалавека і стаў ззаду.

– Цяпер ідзі сам, – сказаў.

І чалавек пайшоў.

Ён не запальваў святла. Сядзеў на зэдліку ля печы, марнаваў тытунь, цвіркаў слінай на вуголле і, падахвочваючы агонь трэскамі, думаў, што гады ў дарозе, як трэскі: зырка гараць, але хутка згараюць.

– Ты шкадуеш аб гэтым? – спытаў агонь.

– Чаго там шкадаваць, – сказаў чалавек і кавалкам сталёвага прэнта паварушыў прысак.

Гаючае святло пляснула ў сырыя куты хаты, загудзеў комін.

– Што згарэла, тое не згніло, – суцешыў агонь.

Чалавек нічога не адказаў, перакуліўся ў мінулае, спрабуючы ахапіць яго цалкам, але разбэрсаныя па свеце гады не збіраліся ў жыццё. Вусны чалавека пакутліва перасмыкнуліся, і ён зноў сплюнуў на вуглі.

– Я ўмею варыць бульбу і смажыць сала, – раптам нагадаў агонь.

– Што з таго, калі я на ўсё забыўся, – роспачна прамармытаў чалавек.

– Але ты навучыўся нечаму іншаму, – лагодна азваўся агонь.

– Я навучыўся швэндацца па свеце і не заўважаць, як ацярушваецца пад ногі жыццё...

На гэты раз прамаўчаў агонь.

Трохі пазней чалавек акрыяў і як бы запытаўся:

– Хіба крама яшчэ не зачынена? Можна было б купіць торбу бульбы і кавалак сала.

– Крама ўжо зачыненая, але побач спагадлівая суседка, – падказаў агонь.

Чалавек не пайшоў да суседкі, ён перастрэў яе на другі дзень ля студні. Клубы жанчыны калыхаліся, як вёдры, і ён запытаўся:

– Ці можна ў вас напіцца?

– Толькі трэба зайсці ў хату, я падам кубак.

– У вас прыгожыя фіранкі на вокнах, – пахваліў ён, трымаючы яе на ходніку.

– Напэўна, вы бачылі прыгажэйшыя.

– Увесь ранак яны чамусь калыхаліся.

– Гэта скразняк.

– Трэба шчыльней зачыняць дзверы.

– Я не баюся скразнякоў.

– У вас не знойдзецца голкі з ніткай? Я добра-такі абнасіўся ў дарозе.

– Чаму ж не. Я шыю і людзям, і анёлам.

– Я ўпраўлюся сам, мне б толькі начынне...

– Мы наглядалі за вашай хатай, але думалі, што яна абтрусіцца, пакуль вы вернецеся. Хата без гаспадара, як сабака, хутка дзічэе.

– Чалавек без хаты – таксама.

– Яе можна яшчэ паправіць.

– Хату паправіць можна...

– То хадзем, я дам напіцца.

– Дзякуй, я трохі пазней зайду.

– А вам не расхочацца?

– Піць, можа, і расхочацца, але голка з ніткай усё роўна будуць патрэбнымі.

Хлеў ад самых дзвярэй быў завалены ламаччам. Ён перакінуў сёетое з кута ў кут і выззваліў з-пад рыззя варштат.

– Чаго я сюды прыйшоў? – запытаўся чалавек.

– Я сам хацеў пра гэта запытацца, – сказаў варштат.

– Ну то пытайся.

– Твой бацька збудаваў жытло, выкапаў студню, змайстраваў варштат. А што зрабіў ты?

– Я бавіўся жыццём, як цацкай, пакуль не апрыкла. А цяпер вось думаю, якога яшчэ ражна мне трэба. Ты не ведаеш?

– Чалавеку нічога не трэба, абы было што рабіць. А работа ёсць заўсёды. Таму чалавеку нічога не трэба.

– Хіба чалавек – усяго толькі прылада?

– Чалавека выпраўляюць сюды не на пагулянку. Так лічыў твой бацька. І той, хто не лянуецца, будзе мець пасля ласку на тым свеце, а лайдака зноў вернуць, каб рабіў тут самую брудную работу.

– Мне хапіла аднаго разу, болей я не хачу.

– Тады бярыся за справу. Можа, яшчэ паспееш...

– Каб жа я ведаў, за што мне брацца...

– А чаму цябе навучылі?

– Хадзіць па дарогах і без дарог.

– Хада – гэта не работа, хада – гэта шлях да работы. А калі ты прыходзіў, дык што там рабіў?

– Калі я прыходзіў, то ішоў далей.

– Дык ты пасвіў вецер, – здагадаўся варштат.

На падворку суседа бязладна скакала сякера. Ён падумаў, што яму не абысціся без сякеры, і пайшоў праз дарогу да суседа.

Пасярод занядбанага двара стаяў маленькі вазок з брызентавымі крыламі. Дробны, як згублены грошык,

ХАТА
БЕЗ ГАСПАДАРА,
ЯК САБАКА,
ХУТКА ДЗІЧЭЭ

гаспадар кінуў абчэсваць бярозавы калок і з ахвотай патлумачыў:

– Раней я хацеў змайстраваць драбіну на неба, але пасля ўзважыў: ну, усцягнуся туды, і што? Буду сядзець на драбіне, як жаба на карчы.

– Калі паляціш, накінь кажух. На небе халадней, чым на зямлі.

– Я сена нацерушу і посцілкай падаткнуся.

– А куды табе трэба?

– Абы ад зямлі адарвацца. Каб ты адно ведаў, як яна мне апрыкла.

– Ці вернешся?

– Не ведаю. Дзяцей у мяне не было, а жонка памерла. Цяпер куды закарціць, туды і палячу. Ніхто за крысо не трымае.

– Сякеру з сабой возьмеш?

– На халеру яна здалася? Яшчэ зваліцца каму на галаву.

– Ну, тады ляці.

– Можа, дзе жонку сустрэну...

– Жанчыны на неба рэдка трапляюць.

– Хто ведае? Людзі чаго толькі не чаўпуць, а як яно на самай справе бывае, хто ведае?

Сонца было лагодным, а далеч – празрыстай. У накірунку выраю шуганула сціжма ластавак, і зноў запанаваў спакой.

«Каб восень была заўсёды, паміраць было б лёгка», – думаў ён, напрасткі прамінаючы пожню.

Ад хутара дзеда засталіся толькі састарэлая дзічка і мураваны склеп. Падчас вайны ў ім хаваліся людзі з суседніх вёсак, а ў мірную пару на доўгіх паліцах берагліся да вясны антонаўкі і каштэлі.

– Бомбы – гэта яшчэ не самае горшае, – сказаў склеп.

– Ці бывае што горшае за вайну?

Не дачакаўшыся адказу, ён па ацалелых сходах сышоў у нетры. У даўкай цемры пахла не яблыкамі, а неварасцю.

Ён запаліў сярнічку, каб агледзецца і прайсці аж да тыльнай сцяны, дзе звычайна клаліся каштэлі. Падшыванцам ён заўсёды чакаў зручнага моманту, каб крадком праслізнуць туды і з пахкай цемры выхапіць салодкі, як грэх, яблык.

– Не хадзі туды, – сказаў склеп.

І ён паслухаўся, ды і сярнічка ўжо згасла.

На сонцы назвоньвала цішыню срэбра павуты. Удзірванелая зямля была спрэс усланая драбнюткімі грушамі. Ён падумаў перапытацца пра вайну яшчэ ў дрэва, але адразу расхацеў. Калі восенню на гарышча не ссыпаюць дзічкі, а ў склеп яблыкі – дык што там у каго пытацца. Ён толькі назбіраў поўную торбу дзічак і пайшоў. Але ўжо не напрасткі праз пожню, а па ледзь прыкметнай сцежцы да гасцінца.

Яна карміла курэй, ён стаяў пад яблыняй і спадылба пазіраў на нізкае сонца. Неўзабаве сонца асела ў гушчар старых могілак, а куры разбрыліся па завуголлі. Трэба было развітвацца, аднак яны марудзілі. Жанчына азірнулася і знайшла сабе зграбаць бацвінне, а ён глядзеў на яе і думаў, што іхнія хаты амаль кранаюць адна адну стрэхамі і гэта, напэўна ж, не выпадкова.

– Вам трэба паставіць плот, – сказала яна. – Неабгароджаная хата – як голая дзеўка...

– Тады давядзецца хадзіць да вас праз вуліцу.

– Можна зрабіць брамку.

– Брамка будзе рыпець.

– У дбайнага гаспадара брамка не рыпіць.

Раптам зашумела неба, і над імі прыпыніўся вазок. Сусед схіліўся долу і радасна паведаміў:

– Цяпер я ведаю, чым ёсць вецер. Гэта такія дробненькія вусякі, мо ў сто разоў драбнейшыя за вош.

Яны збіраюцца натоўпамі і лётаюць абы-куды, а мы кажам, што гэта дзьме вецер. Раней я ўсё дзівіўся, як можа дзьмуць тое, чаго няма, бо калі вецер не дзьме, дык яго няма...

– Ты часам не бачыў там двух анёлкаў? – перапыніла яго жанчына. – Такія ружовенькія, з маркотнымі вачыма...

– Там шмат хто сноўдаецца, хіба ўсіх згадаеш? – сцепануў плячыма сусед і пакіраваў на свой падворак.

Над імі зноў расхінулася настылае шэрае неба, і яны доўга ўглядаліся ў гэтую шэрань, спрабуючы разгледзець прыкметы тамтэйшага жыцця. Але адсюль нічога не было відаць. Яны ўнурыліся кожны ў сваё і моўчкі разбрыліся па хатах.

Каторы дзень таўсматыя хмары наплывалі на мястэчка, каб тут апрастацца ад сцюдзёнага друзу. Гурбы снегу падымаліся на вачах і ў нейкі момант перапынілі ўсялякі рух. Нават трактары кінулі грукатаць, каб не захлынуцца снегам. Свет знерухомеў, і што ні рэч, што ні істота – усё апынулася самнасам, як быццам ужо выспела вечнасць. Быццё страціла свой пакрыёмы змест, які раней трымаўся на повязях усяго з усім, і прысутнасць кожнага цяпер высвятлялася адно яго ўласным сэнсам. «А калі ўва мне ніякага сэнсу няма, – сам у сябе запытаўся чалавек, – а яго напэўна няма, дык што можа акрэсліць мой змест? Хіба толькі вось гэтыя дзверы, гэтая лава, гэтая столь над галавой. Ці не таму чалавек выгароджвае сабе месца ў прасторы плотам, сценамі, фіранкай, што без хоць якой агароджы ён адно рухомая цень на пялёстках быцця?»

Чалавек глядзеў на засмечаную снегам шыбу і слухаў, як запавольваюць хаду ходзікі. Неўзабаве яны зусім спыніліся. У хаце запанавала цішыня. Сэрца таксама ўтаймавалася. Гэтай хвіліны ён чакаў шмат гадоў, на яе прышласць абапіраўся, прымаючы будучыню. І вось яна настала. Свет белы ад снегу, і ён у сваёй хаце лашчыцца спінай да выпаленай печы.

Вецер вымеў з нябёсаў увесь ледзяны хлуд, і жанчына з мужчынам зноў перастрэліся ля студні.

– Вы яшчэ тут? – як бы здзівілася яна.

– Бадай і няблага, што я вярнуўся на зіму. Пакуль растане снег і высахнуць дарогі, можа, абвыкнуся. Зімой хочацца быць там, дзе ты ёсць, а ўлетку – там, дзе цябе няма.

– У нас тут добра.

– Адзін чалавек раіў: ніколі не вяртайся туды, дзе табе некалі было добра. Цябе там сустрэне нуда.

– Я гэта таксама ведаю, бо змушаная хадзіць па сцежках маладосці. Але гэта калі ідзеш без клопату.

– Дзе прыдбаць такі клопат, ад якога чэзне нуда?

– Клопат прыдбаць лёгка. Спачатку трэба ўзяць сабаку, потым знайсці жанчыну, а па вясне пасадзіць бульбу і купіць парася. Але найперш вам след павесіць фіранкі на вокнах. Хто ні ідзе па ходніку, зазірае ў хату. Гэта як жыць на шашы.

– Мне звыкла жыць у дарозе.

– Я вам пашыю фіранкі.

– Дзякуй. Сёння чырвонае сонца, і падвячоркам мароз асядзе на вокнах. Вось і будзе мне заслона ад чужога вока.

– Маразы ў нас доўга не трымаюцца.

– А што на свеце доўга трымаецца?

– Вашая праўда. Але якраз таму і патрэбныя фіранкі. Яны, як запруда на рэчцы, затрымліваюць струменьчык часу, і тады яго збіраецца даволі, каб нарадзіць дзяцей і дачакацца ўнукаў.

Як быццам іх шпурлянулі, пападалі на сцежку вераб'і.

Ён стаяў на ганку, і ганку было прыемна, што на яго абапіраецца гаспадар.

– Пастой ля дзвярэй, – схітраваў ганак. – Дзверы любяць быць зачыненымі.

– Мы любім, каб нас зачынялі. А гэта зусім іншае.

З розных куткоў зімы вярталіся на ноч людзі і машыны. Ён глядзеў на людзей і машыны, слухаў галашэнне варон, якія чорным кропам засмецілі барву неба, і казаў ці то ганку, ці то дзвярам:

– Добра бярэцца на мароз. Не адзін верабей акалее да ранку, калі не ўваб'ецца ў застрэшша.

– Халера іх не возьме. Такая шкодная птушка, дзе крок зробіць, там і нагадзіць, – сварліва заўважыў ганак.

– Не ўсё адно, хто па табе топчацца, чалавек ці птушка? А дзверы – толькі для людзей.

– Ды хопіць вам сварыцца, разумнікі, – памяркоўна сказаў чалавек, аббіў боты ад снегу і ўвайшоў у хату.

У сенях зняў ватоўку, скінуў на цвік шапку і пасунуў твар да люстэрка.

– Здымі бараду, – параіла люстэрка. – Жанчыны любяць маладых.

– Жанчыны любяць тых, хто іх любіць, – запярэчыў ён і нахіліўся распаліць пліту.

– Ну, як табе сёння на радзіме? – адно ўсчаўшыся, запытаўся агонь.

– Так сабе, – адказаў ён і прычыніў засланку.

Як толькі ў вакне суседкі гасла святло, ён падсоўваў да ложка табурэтку, ставіў на яе попельніцу, кубак з моцнай гарбатай і залазіў пад коўдру.

Ён муляў бакі, паліў цыгарэты, зрэдку глытаў гарбату і думаў усё пра адно. Ён вярнуўся на бацькаўшчыну жыць ці паміраць? Калі жыць, дык трэба павесіць фіранкі на вокнах і шукаць сталую працу.

Аднак жыць не вельмі хацелася. Ён ужо раней перабраў усё, што ў жыцця было загатавана для чалавека, а паўтарацца, пэўна ж, не мела сэнсу.

Жыць не вельмі хацелася, паміраць таксама. Як ні круці, выходзіла зноў праставаць у дарогу. Там хутчэй стаптаць рэшткі гадоў.

Але перш чым звягнуць брамкай, трэба было ўспомніць, чаму ён вярнуўся дахаты.

Можа, ён проста стаміўся шукаць прытулак на ноч?

Дарога – гэта пошук прытулку на ноч. Вось і ўся яе немудрагелістая праўда. І нічога іншага ў дарогі няма. Як толькі знайшоў прытулак, дзень праміную. А назаўтра будзе ранейшы клопат. І гэтак да скону, які аднойчы выхапіць цябе з плыні часу і тым самым назаўжды прыбярэ ўсе твае турботы.

Ён раз-пораз перагортваў ацалелыя старонкі ўспамінаў, пакуль не зразумеў, што ўсё гэта дарма. Бо мінулае і будучае ходзяць рознымі сцежкамі. Таму няма сэнсу ні азірацца за спіну, ні пільнаваць далягляд. Без дай прычыны вярнуўся і гэтаксама пойдзе адсюль. Нішто нідзе не трымае чалавека, калі ўвесь ягоны набытак – адзінота.

**ЁН ВЯРНУЎСЯ НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ ЖЫЦЬ ЦІ ПАМІРАЦЬ?**

У сінім прадонні неба самотна кружляў вазок, а на выстылай зямлі некуды беглі хуткія сані. Ад чырвонага сонца і белага снегу жыццё здавалася прыгожым і завершаным, як велікоднае яйка. Ён ішоў з крамы і нёс у торбе віно, а ў кішэнях цыгарэты. Насустрач трапляліся месточкоўцы, але яны яго не цікавілі. У адрозненне ад дрэваў, снегу, гурта сініц на бэзавым кустоўі, людзі былі выпадковымі ў гэтай чырвонабелай стыні...

Абмінаючы могілкі, ён пачуў, як за каменным мурам дзяўбуць грунт сталёвыя ламы.

– Зайдзі, – сказаў цень.

Жалезная брама была расчыненая, і ён збочыў з ходніка.

– Бог у помач.

– Дзякуй на добрым слове.

– Птушка птушку не хавае, звер – таксама. Адно чалавек баіцца сябе мёртвага і засыпае зямлёй, – сказаў ён, абы сказаць.

– Калі летам, дык яшчэ нічога, – заўважылі яму.

– Па вялікіх гарадах зямлю не трэба дзяўбсці, бо там нябожчыкаў у печах паляць.

– Замест дроў?!

Ад такой навіны ўсе кінулі грукатаць.

## У ВЯЛІКІХ ГАРАДАХ СТОЛЬКІ НАРОДУ, ШТО КАЛІ КОЖНАМУ НЯБОЖЧЫКУ АДДАЦЬ ПА КАВАЛКУ ЗЯМЛІ, ДЫК НЕ БУДЗЕ ДЗЕ ЖЫЦЬ, АДНО ЯК НА МОГІЛКАХ

– У вялікіх гарадах столькі народу, што калі кожнаму нябожчыку аддаць па кавалку зямлі, дык не будзе дзе жыць, адно як на могілках, – растлумачыў ён.

– Скуль гэтулькі людзей узялося? Можа, іх на зямлю аднекуль прысылаюць, дзе няма месца хаваць? – загаварылі іншыя.

Але доўга гаманіць не выпадала.

– Неўзабаве нябожчыка прывязуць, – патлумачылі яму на развітанне.

На могілках зноў усчаўся грукат. Вароны адразу пападалі ў неба, а на гурбы снегу асыпалася дробнае веццe.І туды асыпалася, дзе пад зямлёй і снегам ляжалі яго бацька ды маці...

Цяпер у той бок нават сцежкі не было.

Апошнім часам людзі яго мала цікавілі, але жанчыны яшчэ вабілі, бо ў чэраве не скончылася хэнць. Таму аднойчы ён не вытрываў і пагрукаў у дзверы суседкі.

– Я не ведаю, чаго прыйшоў, – паспавядаўся ён.

– Суседзі ходзяць адзін да аднаго таму, што яны суседзі.

– Дзе вашыя дзеці? – запытаўся ён потым.

– Яны служаць анёламі.

– А гаспадар?

– Парукаўся з д’яблам.

– Я ніколі не бачыў яго на падворку.

– Нячысцікі не любяць прыходзіць туды, дзе бываюць анёлы.

Яна сядзела за швейнай машынкай, ён прыхаваўся ў засені фіранак і глядзеў, як яе рукі лашчаць ядваб.

Рукі рабілі сваю справу, а сэрца клапацілася аб нечым іншым, бо на вуснах трымцела ледзь прыкметная ўсмешка – і яму гэта падабалася. Але ўвесь час узірацца ў яе твар было няёмка, і ён агледзеўся па хаце.

– Адкуль у вас столькі цацак?

Цацкі былі на паліцах, ложку, падлозе... Не кожная крама мела столькі.

– Часам да мяне прылятаюць анёлы, – сказала яна, абсмактаўшы з вуснаў усмешку. – Два такія ружовенькія анёльчыкі. Яны яшчэ зусім дзеці і таму любяць бавіцца. Я ім не толькі цацкі купляю, але і адзенне шыю. Яны ж зусім голенькія.

Яна расхінула абедзве палавінкі шафы і стала перабіраць дзіцячыя сукенкі, спадніцы, кашулі, гарнітурчыкі...

Ён пахваліў яе ўмельства і сказаў:

– Ну, то я пайду, бо раптам яны прыляцяць.

Яна паглядзела на яго з дакорам у вачах і, апусціўшы галаву, сцішана вымавіла:

– Куды вам спяшацца? Яны пачакаюць, пакуль я застануся адна.

– Лепей вы да мяне заходзьце, – пашкадаваў ён яе і ўжо на ганку патлумачыў:

– Нячысцікам няма чаго рабіць там, дзе бываюць анёлы.

Неўзабаве маразы аціхлі і пачалася адліга. У голыя вокны хаты зноў пацяклі аблокі, машыны і людзі. Ён як быццам вярнуўся на дарогу, і нейкі час яго гэта цешыла... Але вечарам, калі запаліў святло, яму сталася ніякавата, і ён засланіў акно ад дарогі пажухлымі газетамі.

– Нарэшце, – з'едліва заўважыла акно. – Не хата, а гасцінец нейкі.

– Ты не любіш гасцей?

– Сапраўдныя госці ў хаце здымаюць шапку...

– І выціраюць ногі, – дадаў за сцяной ганак.

– А потым дастаюць з кішэні пляшку і сядаюць за стол. Ці не так? – усміхнуўся ён і паабяцаў: – Тады будзем чакаць выхаваных гасцей.

Прыбраў стол, падмёў падлогу, змяніў на чыстую бялізну і пераслаў ложак. Затым расклаў у пліце агонь і сеў абіраць бульбу.

Не паспела бульба зварыцца, як дзверы гукнулі:

– Ідзі адчыняць.

Жанчына выцерла ногі аб дыванок і ў сенях ссунула хустку на шыю.

– Я прынесла вам фіранкі, – сказала яна.

– А ў мяне ёсць сёе-тое да бульбы...

– Спачатку трэба павесіць фіранкі, – падказала яна.

Фіранкі былі квятастымі, як сонечны поплаў. Ад падваконня адразу пацягнула водарам кветак, і ў падпечча прачнуўся цвіркун.

– Ці не занадта рана пачалася вясна? – спытала яна потым. – Каб не пабілі яе замаразкі.

Ён пабраўся яе словамі, але змаўчаў у адказ.

Утульная ноч – адзінае багацце змардаванага жыццём чалавека.

Стынуць на холадзе дрэвы, патрэскваюць апошнія вугельчыкі ў печы, а жанчына яшчэ захінае цябе коўдрай і пытаецца:

– Ты бачыў мора?

– Я бачыў мора.

Агорнутыя цішынёй і жалем, яны маўчаць да наступнага пытання:

– Ты забіваў людзей?

– Я не ратаваў людзей.

Ёй карціць дазнацца пра ягоных жанчын, але яна стрымлівае сябе і адно сумна ўздыхае:

– Калісь я таксама была вабнай.

Ён запальвае цыгарэту і кажа:

– Для дваіх даволі адной хаты.

Яна радасна палохаецца і зноў пытае пра мінулае і далёкую старану.

– Усюды адно і тое самае, – распавядае ён. – І ў пустыні, і ў снягах. Ранкам узыходзіць сонца, ноччу мільгацяць зоры, днём людзі завіхаюцца, вечарам кладуцца адпачываць, і звер не лішне розніцца ад чалавека, а чалавек – ад прывіду. Аднойчы я зразумеў, што як той, так і гэты свет недзе страцілі свой сэнс, альбо яшчэ не набылі яго... І таму ніхто не мае іншай мэты, акрамя як агараць свой лапік жытва і потым назаўжды знікнуць у невараці.

– Удвох прамінаць жыццё хутчэй, а калі ёсць дзеці, дык яго нават не хапае, каб перарабіць усе справы, – кажа яна.

– Можа, яно і так, – пагаджаецца ён і высоўваецца з-пад коўдры, каб адхінуць фіранку ды зазірнуць у вочы халоднай беспрытульнасці.

Аднойчы ён адшукаў рыдлёўку і спыніўся ля гурбы ламачча, скіданай на падворку з кавалкаў дошак, шыферу, бітай цэглы і ўсялякага такога іншага...

Недзе тут была студня, якую ў сваю пару выкапаў яго бацька.

Вясна толькі пачыналася, і са споду друз быў прыхоплены лёдам.

«Затое ў мяне будзе свая вада, і сюды будзе хадзіць за вадой жанчына», – суцешыў сябе чалавек, каб не шкадаваць поту.

Выслабаніўшы ад непатрэбшчыны верхнюю кадку, ён апрастаў святлу шлях і зазірнуў у тхло прадоння.

Дно студні было забруджанае розным смеццем, паўзверх якога выцягнуўся мёртвы шчур.

– Ну, як ты там? – запытаўся чалавек у студні.

– Гібею! – рэхам, даўжынёй у пятнаццаць кадак, адгукнулася студня.

– Пачакай трохі, пацяплее, і я выкіну бруд.

– А ты не забудзешся?

– Калі запынюся тут, дык не забудуся.

– На халеру табе кудысьці цягнуцца. Хіба дзе знойдзеш саладзейшую ваду?

Ён нічога не адказаў. Усцягнуў дубовую накрыўку на кадку, але і праз накрыўку пачуў:

– Глядзі, ты абяцаўся.

«Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць», – раптам са злосцю падумаў ён і адкінуў рыдлёўку.

У дарозе ён прызвычаіўся быць нікому не патрэбным і пакрысе навучыўся жыць, каб і яму ніхто не быў патрэбны. А тут на яго кідаліся з усіх бакоў, як сабакі на голую лытку. І яму зайздросна ўспомнілася воля, зорная адзінота і яшчэ нешта, што не мела зграбнага слова, але было самым істотным у таямнічым пакліканні шляху. Той, хто збірае пыл дарог, ведае, што гэта такое.

Дарогі падсохлі, і аднойчы на золку ў адтуліну замка знаёмым посвістам паклікаў вецер. Чалавек ухапіўся за голае плячо жанчыны.

Тады вецер нахабна паляпаў у шыбу.

– Сціхні, прыблуда. Людзей пабудзіш, – злосна цыкнула акно.

Але хіба слова ўтаймуе вецер?

– Фіранкі хай застануцца, – папрасіў ён жанчыну, апрануўся і выйшаў на падворак.

– Вецер свішча, камяні маўчаць. Хто з табой будзе размаўляць? – запытаўся ганак.

– Ты абяцаўся, – папракнула студня.

Ён зайшоў у хлеў.

– Пайду, – сказаў варштату.

– Хада – гэта не работа, – паўтарыўся варштат.

На кухні, куды ён вярнуўся, каб прысесці на дарогу, жанчына сказала:

– Вецер умее задзіраць спадніцы дзяўчатам, але ці атуліць ён цябе на ноч?

– Навошта табе глытаць пыл? – ужо на вуліцы запытаўся сусед. – Сядай у вазок і паляцім разам. А на вячэру вернемся дахаты.

– Сапраўды, – падахвоціла жанчына. – Я нараблю галушак.

Мужчына даслухаў і выйшаў за брамку. Аднак далей ногі пачалі блытацца. Ён азірнуўся і ўбачыў, як цень ушчаперыўся ў штыкеціну.

ВЕЦЕР СВІШЧА, КАМНІ МАЎЧАЦЬ. ХТО З ТАБОЙ БУДЗЕ РАЗМАЎЛЯЦЬ?

– А табе якая справа?! – гыркнуў ён і пайшоў шпарчэй.

Цень выцягнуўся ляйчынай і яшчэ нейкі час марудзіў хаду, але потым у сярэдзіне пэнкнуў – і чалавек зваліўся тварам у першы веснавы пыл.

Ён хварэў нейкі час на беспрытомнасць, і жанчына даглядала яго, як скінутае бурай птушаня. Яна брала ў рукі шытво і днямі сядзела каля ложка. І анёлкі былі тут. Спачатку яны палохаліся чужога жытла і туліліся да яе ног, але потым абвыкліся і часам

ладзілі такі вэрхал, што жанчыне даводзілася кідаць працу, каб супакоіць неслухаў.

Праз нейкі тыдзень ён акрыяў, адшукаў рыдлёўку і пайшоў у сад. Следам пацягнулася валацужная зграя схуднелых за зіму катоў.

Бралася на ноч. Чорны строп неба ў адным месцы працёрся, і вецер зацыраваў дзірку поўняй.

Не было аніякага спеху, і ён мог адкласці справу, але яму гэтак закарцела. Той, каго выхавала адзінота, шануе свае парыванні.

Пад каштэляй ён спыніўся і ўтыркнуў рыдлёўку ў дзірван.

Каты паўскоквалі на рэшткі гнілога плота і пакрыўджана завуркаталі. Як толькі ён перарушыў акопваць суседняе дрэва, яны адштурхнуліся ад плота і паляцелі некуды ў бок поўні... А насустрач ім кіраваў вазок.

– Я знайшоў яе, – крыкнуў сусед і святочна азірнуўся на жонку. Нябожчыца паняй сядзела за яго спіной і сарамліва торгала рагі чорнай хусткі. – Хай трохі пабудзе, а потым назад вярну.

Сусед, акрэсліўшы круг над вуліцай, прыстаў на свой падворак, а ён яшчэ доўга туліўся пад дрэвам, стомлена абапіраючыся на рыдлёўку. Затым прысланіў яе да галамня і натруджана пасунуўся ў бок хаты.

Над комінам хістаўся бялёсы дым, у вокнах гарэла святло, і на фіранках адбіваўся цень жанчыны, якая чакала яго вячэраць.

Зрэшты, падумаў ён, куды б ні ішоў адзінокі чалавек, ён заўсёды ідзе да самога сябе.

# УЛАДЗІМІР АРЛОЎ

## Я МАРЫЎ СТАЦЬ ШПІЁНАМ

Сёння не будзем гаварыць ні пра паэта, якога амаль год трымаюць у турме за легкадумны вершык, ні пра чыесьці спаленыя партрэты, ні пра новыя арышты.

Давай уявім, што там, за вакном, звычайная для Еўропы прыпозненая вясна, і я раскажу табе якую-небудзь займальную гісторыю, штосьці такое, аб чым мужчына і жанчына, якія адчулі прыхільнасць адно да аднаго і ўжо не першы год адчуваюць яе да добрага чырвонага віна, могуць гутарыць зараз за столікам кавярні недзе там, дзе разлічваюцца кронамі альбо крэдытнымі карткамі.

Напрыклад?.. Напрыклад, калі пачынаць ab ovo*, паслухай, кім я марыў стаць у дзяцінстве.

Зрэшты, я выказаўся не зусім дакладна. Мары вырастаюць на падмурку хоць нейкага жыццёвага досведу, а я збіраюся казаць пра свае першыя гады, калі толькі пачынаў адасабляць сябе ад навакольнага свету, калі дарослыя ўжо бралі мяне з сабою ў кіно (тэлевізараў на нашай вуліцы ды, пэўна, і ва ўсім горадзе тады не было), але кніга яшчэ доўга заставалася таямніцаю за сямю пячаткамі. Тут, згадзіся, трэба весці гаворку не пра асэнсаваныя мары, а пра своеасаблівыя сны наяве...

Калі ласка, бутэлечку ламбрускі. Што яшчэ? Два келіхі і попелку.

Так, менавіта пра сны наяве, тлумачыць якія мы павінны зыходзячы не з іх літаральнага сэнсу, а паводле той самай методыкі, што і сны звычайныя, у якіх злоўленая рыба абяцае не рыбалку, а цяжарнасць, а пажар – грошы.

Калі ў такім узросце ў дзіцяці пытаюцца, кім яно хоча стаць, то вядуць дыялог з падсвядомасцю, а таму трохі дзіўна, што дзіцячым адказам на гэтае сакраментальнае пытанне не надавалі належнае ўвагі адэпты псіхааналізу.

Афіцыянт не спяшаецца, і з твайго дазволу я пачну з таго, што выдатна памятаю не толькі тое, кім хацеў быць, але і тое, кім ні ў якім разе не хацеў. Прычым гэты антывыбар, у адрозненне ад выбару са знакам плюс, нярэдка, як гэта здараецца і ў свеце дарослых, быў абгрунтаваны значна лепей. Вытлумачыць, чым той ці іншы чалавек табе не даспадобы, заўсёды, на мой погляд, прасцей, чым знайсці прычыны сваёй прыхільнасці.

Дык вось, гадоў з двух з паловай я быў перакананы, што ніякая сіла не змусіць мяне, як выраслу, зрабіцца следчым.

Следчым працаваў дзядзька Чаглей, які жыў у нашым драўляным доме праз сценку.

** Літаральна «ад яйка»; з самага пачатку (лац.).*

Дзядзька Чаглей прыехаў у Полацак з Сібіры, але ў той дзень, калі ён падхапіў мяне сваімі дужымі валасатымі рукамі пад пашкі і падкінуў над галавой, а я з гэтае верхатуры абсікаў яму бліскучы плех, у той дзень пра паходжанне нашага суседа, як і пра існаванне ягонай далёкае радзімы, я і не здагадваўся, а мой пругкі і трапны струменьчык нарадзіўся не ад нейкага перададзенага па генах асаблівага пачуцця да сібіракоў або да міліцэйскіх следчых, а ўсяго толькі ад лішку радасных пачуццяў, што перапаўнялі маю юную істоту.

Тым не меней пасля гэтага бясКрыўднага здарэння дзядзька Чаглей да скону дзён знелюбіў мяне. Ён ніколі – дарма што сваіх дзяцей яны з цёткай Клавай, якую ўсе звалі Чаглеіхай, не дачакаліся – не пачаставаў мяне ні цукеркаю, ні марозівам, наогул нічым, апрача нязменна насупленага калючага позірку, якім апошні раз адарыў з труны пасля сваёй ранняе смерці ад хваробы са смешнаю назваю «рак».

ПОТЫМ ТАТА РАЗАМ З «НАШЫМ» ПАТРУЛЁМ ЗНАЙШОЎ МЁРТВАГА СЯБРА Ў СПІЖАРНІ – НАД ТАЗАМ КРЫВІ І З ПЕРАРЭЗАНЫМ АД ВУХА ДА ВУХА ГОРЛАМ

Малюючы гэтую псіхалагічную сітуацыю, можна знайсці безліч іншых дэталяў, аднак галоўную ролю ў маім рашучым нежаданні рабіцца следчым адыгралі не Чаглеевы п’янкі і не абванітаваныя жоўтыя вяргіні пад нашымі вокнамі, а – грыбы лісічкі, якія мама смажыла з цыбуляй і якія наш сусед прынцыпова не еў, заяўляючы, што ў іх у Сібіры такую смакату ўважаюць за паганкі і ўвогуле збіраюць адны баравікі. Помсцячыся сібірскім дзікунам за лісічкі, я і паставіў на прафесіі следчага вечны крыж.

Наступнай непрымальнаю ні пры якіх умовах была прафесія цырульніка. Тут мая непахісная наважлівасць вынікала з бацькавых аповедаў пра франтавога сябра, які ў нейкім венгерскім гарадку, пакуль мой тата-лейтэнант пазіраваў перад фотаапаратам, зайшоў у цырульню пагаліцца і прапаў. Потым тата разам з «нашым» патрулём знайшоў мёртвага сябра ў спіжарні – над тазам крыві і з перарэзаным ад вуха да вуха горлам.

Да пятага класа я наадрэз адмаўляўся хадзіць у нашую цырульню «Ландыш», і бацькі мусілі купіць ручную машынку і карнаць мае шорсткія кудзеры каля кухоннае пліты. Напоўнены цёмнай крывёю таз, відаць, адклаўся ў самой геннай памяці, бо ў мяне ніколі не паўставала дылемы: насіць бараду альбо не, і ніводнага разу ў жыцці я так і не зведаў, што значыць пагаліцца ў цырульні.

Але найбольш зацята я не хацеў – не здзіўляйся – стаць кампазітарам. Я проста панічна баяўся гэтага, бо ў размовах бацькоў і іхніх знаёмых кампазітар быў нязменным пасмешышчам. На лавачцы каля дома ці ў нейкай застоліцы, паміж свежымі гарадскімі плёткамі і сакрэтамі марынавання гуркоў і памідораў, хтосьці абавязкова згадваў «нашага кампазітара», і хутка прысутныя клаліся ад рогату, зноў і зноў пераказваючы тую гісторыю і аздабляючы яе ўсё новымі маляўнічымі драбніцамі. Жанчыны паказвалі на дзяцей і трэслі на мужоў пальцамі, але засцярогі былі перастрахоўкаю: хоць малеча кшталту мяне і заходзілася ад смеху заадно з дарослымі, звязаць звесткі пра нейкую палюбоўніцу, пра пастаўленую ёй на адным месцы пячатку музычнай школы і пра мужаў пісталет,

ад кулі якога кампазітар мог загінуць, аднак яму хапіла спрыту ўцячы і схавацца дзесьці ў Менску, звязаць усё гэта ў адзін ланцужок мы былі яшчэ не здольныя.

Ну вось нарэшце і віно. Такое? Тады – за тваё ўменне слухаць.

Развіццё тых падзеяў ва ўсім іх ужо міфалагізаваным трагікамізме я ўявіў класе ў восьмым, калі ў музычнай радыёперадачы назвалі прозвішча даволі вядомага і цяпер кампазітара і праз незачыненыя дзверы я міжволі падслухаў, як пракаментаваў паведамленне мой бацька, чалавек наогул суровы і не надта гаваркі, але з несумнеўным талентам апавядальніка.

Той, каго называлі кампазітарам, у гады майго маленства працаваў дырэктарам гарадской музычнай школы, пісаў песні на вершы мясцовых паэтаў і круціў раман з афіцэрскаю жонкай. Як я зразумеў, звычайным месцам іх спатканняў быў дырэктарскі кабінет, у якім дзеля такіх выпадкаў стаяла, як выказаўся мой бацька, дзяжурная канапа. Аднойчы на гэтай канапе кампазітар і паставіў сваёй пасіі там, дзе спіна пераходзіць у больш спакуслівую частку цела, казённую пячатку.

Цяжка сказаць, якая логіка штурхнула яго на гэты неардынарны крок: ці то раптам разгуляліся ўласніцкія інстынкты, ці то пячатка, як тая знакамітая чэхаўская стрэльба, мусіла «стрэліць» ужо з прычыны адной сваёй прысутнасці на месцы дзеяння. Але што б там ні было, на тым самым адмысловым месцы ў кампазітаравай абранніцы з'явіўся фіялетавы адбітак з надпісам: «Полацкая дзіцячая музычная школа». Надпіс, бясспрэчна, атрымаўся добра чытэльны, іначай муж-афіцэр не схапіў бы ўначы пісталет і праштампаванай прыгажуні не трэба было б па тэлефоне папярэджваць каханка аб небяспецы, а таму – ратавацца ўцёкамі, каб урэшце пераехаць у Менск, скончыць кансерваторыю, сапраўды зрабіцца кампазітарам і доўгі час не выступаць перад публікаю, пабойваючыся, што ў зале можа апынуцца афіцэр з пісталетам.

ЯК Я ЗРАЗУМЕЎ, ЗВЫЧАЙНЫМ МЕСЦАМ ІХ СПАТКАННЯЎ БЫЎ ДЫРЭКТАРСКІ КАБІНЕТ, У ЯКІМ ДЗЕЛЯ ТАКІХ ВЫПАДКАЎ СТАЯЛА, ЯК ВЫКАЗАЎСЯ МОЙ БАЦЬКА, ДЗЯЖУРНАЯ КАНАПА

Карацей, кампазітарам у маленстве я не згадзіўся б стаць ні за якія грошы, нават за тыя, што бацькам ніколі не хапала, каб купіць мне ровар, на якім я, на свой сорам, так і не навучыўся ездзіць.

Затое мяне не трэба было ўгаворваць на вадалаза.

Згодны, давай вып'ем за маю першую мару.

Вадалазаў я ўпершыню ўбачыў, калі ў Дзвіне ўтапілася дзяўчына з суседняй вуліцы.

Яны прыязджалі ўранні на машыне-«казле» і марудліва, як на запаволеных кінакадрах, выгружалі на бераг сваё мудрагелістае прычындалле. Найбольшае захапленне ў маёй душы выклікалі боты з таўшчэзнымі алавянымі падэшваі, якія мы не маглі нават зрушыць з месца, і круглы шалом з вялізнымі вачыма-ілюмінатарамі.

На трэці дзень дзяўчыну выцягнулі з дна і, закруціўшы ў брызент, некуды павезлі.

Вартаўнік лодачнай станцыі дзядзька Мойша сцвярджаў, што за кожнага знойдзенага тапельца даюць вялікую прэмію. Прашамацела чутка, што дзеля гэтага вадалазы самі топяць людзей, чапляюць ім да ног камяні, а потым «знаходзяць» у прыкмечаным месцы.

Я не верыў. Я быў пэўны, што тапельцаў у Дзвіне не будзе бракаваць і без гэтага, і ўяўляў, як выраcту і буду гэтаксама абуваць цяжэзныя боты

і шалом з ілюмінатарамі, да якіх пад вадой будуць падплываць і – вочы ў вочы – глядзець на мяне дзвінскія шчупакі. Я буду добра шукаць тапельцаў і часта атрымліваць прэміі, а пасля – самавіта рассцілаць на траве газеціну, няспешна кроіць на ёй сала, не моршчачыся піць з пляшкі з малінавай галоўкаю гарэлку і мачаць зялёны цыбульны хвост у горбачку солі. Кульнуўшы апошнюю чарку і са смакам дажаваўшы цыбуліну, я буду закурваць і, як старэйшы вадалаз дзядзя Коля, напяваць загадкавую фразу: «Пара-па-бабам, пара-па-бабам...»

Апрача тапельцаў, я павінен быў знайсці на дне ракі яшчэ і жалезную скрынку грошай. Цікава, што тапельцы мне ўпарта не сніліся, а вось скрынку я бачыў у сне шмат разоў і дакладна ведаў, як яна будзе выглядаць: аброслая перлавіцамі і спавітая багавіннем, з пудовым іржавым замком і белым чэрапам са скрыжаванымі косткамі, акурат такім, які быў на трансфарматарных будках і які ў нас чамусьці называлі іванам іванавічам.

Тапельцы прысніцца мне так і не паспелі, бо пасля таго, як дзядзьку Чаглея завезлі на могілкі, у нас з'явіўся новы сусед, а з ім і мая новая мроя.

Суседа, які пасяліўся на кватэры ў жонкі следчага Чаглея, звалі дзядзькам Жэнем, і ён працаваў паталагаанатамам. Вымавіць гэткае складанае слова, як і не менш складаную першую літару ягонага імя, я, вядома, не мог і таму казаў, што, калі вырасту вялікі, буду, як «дзядзя Зеня».

У дзядзьку Жэню мне не падабалася толькі адно: абсалютна неспасцігальнае нежаданне хоць раз узяць мяне з сабою на працу.

Усё астатняе страшэнна падабалася.

Падабалася, што ад суседа заўсёды струменіў пах адэкалону, які наводзіў на думку, што там, дзе дзядзька працуе, якраз адэкалон і робяць.

Падабалася ягоная жонка, цётка Таня, якая ўлетку кожны дзень купляла мне марозіва.

Падабаліся нават і не надта прыхільныя размовы, што круціліся вакол іхняе сям'і.

Дарослых немаведама чаму абыходзіла, што дзядзька Жэня і цётка Таня нейкія «нераспісаныя».

На маю думку, не было нічога кепскага і ў тым, што яны «нераспісаныя», і ў тым, што, каб ехаць на адпачынак у купэ ўдваіх, дзядзька Жэня купіў у купэйны вагон не два, а чатыры білеты.

Яшчэ падабалася, што, калі на святы цётка Таня клікала маіх бацькоў да сябе пасядзець, на стале ў нашых суседзяў стаяла не гарэлка, а віно.

Ты ведаеш, я не забыў, як яны паміж сабою чокаліся. Кожны раз тройчы: спачатку звычайна, потым вось так, яе келіх зверху, а потым – зверху ягоны.

Яны абое былі высокія, станістыя і чарнявыя. Дзядзька Жэня насіў прыгожыя чорныя вусы, у цёткі Тані над верхняй вуснінай таксама прабіваўся цёмны пушок, які па часе абяцаўператварыцца ў акуратныя вусікі. Я думаў, што, можа, з гэтае прычыны Чаглеіха і казала пра кватарантаў за вочы – «мае жыды».

Аднаго разу бацькі, кудысьці з'ехаўшы, даручылі клопаты пра мяне дзядзіжэневай жонцы, і, калі мы пайшлі палуднаваць у сталоўку гарадскога Дома афіцэраў і цётка Таня замовіла несусветна смачную, як мне здавалася, страву з экзатычнаю назваю «шніцаль», а потым сустрэла сяброў і тыя запыталіся, ці не ейны я сын, а яна адказала, што так, ейны, і пацікавілася, ці падобны я да яе, тады, памятаю, мне было ніякавата зусім не таму, што такім чынам я сам таксама трапляў у лік «жыдоў». Я чуў лёгкі сорам, што гатовы адмовіцца ад родных бацькоў, але зрабіць з сабою нічога не мог: калі ў паталагаанатамы бяруць толькі «жыдоў», я згодны быў запісацца ў «жыды».

Усё на свеце канчаецца, прычым у дзяцінстве гэта адбываецца хутчэй.

Ці то паўплывала празмерная сакрэтнасць прапахлай адэкалонам дзядзіжэневай прафесіі, ці то прарасло пасеянае фільмамі пра «нашых» разведчыкаў зерне савецкага патрыятызму, але аднойчы я прачнуўся з цвёрдым намерам пайсці ў шпіёны. П'ем за нашых шпіёнаў!

Мяне вабіла не столькі рамантыка, як канкрэтнасць гэтага занятку.

У адрозненне ад духмяна-таямнічых сфераў дзейнасці паталагаанатамаў, тут усё выглядала ясна і проста, як яблык-антонаўка з нашага саду.

Мяне і маю радыстку павінны былі скінуць з самалёта над Амерыкай, каб мы прабраліся ў галоўны амерыканскі штаб і ўкралі галоўны план атамнай бамбёжкі Савецкага Саюза. Ваганняў наконт кандыдатуры напарніцы не існавала: радысткай будзе маё першае мужчынскае захапленне – дачка дырэктара мамінай школы Людачка, з якой я ўпершыню сустрэўся чатыры гады таму на навагодняй ёлцы. Наша ўзаемная сімпатыя аказалася такой моцнаю, што мы дружна намачылі штонікі і потым цэлы год я вымагаў ад мамы завязваць мне хустачку і абвяшчаў, што хачу быць Людачкай. (Гэты момант варта адцеміць: перш чым зрабіцца вадалазам, я імкнуўся пабыць жанчынай.)

Апусціўшыся на парашутах, мы з Людачкай пасяляемся ў маленькім брудным пакоі халоднага і змрочнага амерыканскага хмарачоса. Мы, як дарослыя, абняўшыся, спім у адным ложку і дзеля маскіроўкі гаворым выключна па-амерыканску, а таксама не купляем ананасаў, каб амерыканцы не падумалі, што іх у нас няма. З дапамогаю аднаго галоднага беспрацоўнага мурына я пракрадаюся ў штаб і, перастраляўшы з кулямёта чалавек васямнаццаць амерыканскіх палкоўнікаў, выкрадаю план бамбёжкі Масквы і ўсёй нашай вялікай і магутнай Радзімы, пасля чаго вяртаюся ў халодны пакойчык хмарачоса. Мая радыстка Людачка ляжыць у ложку з незнаёмым мурынам; я не ведаю, навошта яны ўдзень накрыліся коўдраю, але адчуваю, што, хоць амерыканскія мурыны і за нас, тут нешта нячыстае, і таму з асалодаю ўсаджваю ў незнаёмага мурына кулямётную чаргу. З ложка ляцяць чырвоныя пырскі, але Людачка не плача, а перавязвае мне раны і складвае рацыю, бо пасланы па нас самалёт ужо знаходзіцца ў паветры.

Медалі і ордэны нам уручаў сам галоўны «наш» Хрушчоў, якога дарослыя фамільярна называлі Мікітам і лаялі за нейкую кукурузу і за тое, што ў крамах няма хлеба. Я ж, наадварот, быў удзячны Хрушчову, бо дастаткова было выйсці з весніц на вуліцу, як ад чаргі, што вілася вакол хлебнае крамы, умомант кідалася некалькі цётак, якія ўзахапы ўгаворвалі пастаяць у чарзе разам з імі. У выніку гэтага нескладанага манеўру крамніца давала цётцы лішні бохан хлеба, а я атрымліваў дзвесце грамаў злепленых у камяк ірысак альбо падушачак.

Ты, вядома, разумееш, што мне праглася быць шпіёнам выключна і безварыянтна савецкім.

Пэўныя сумневы на гэты конт варухнуцца ў душы толькі праз шмат гадоў у зацішным кутку берлінскага прадмесця, на мастку цераз ручай на мяжы ўсходняга і заходняга сектараў,

У АДРОЗНЕННЕ АД ДУХМЯНА-ТАЯМНІЧЫХ СФЕРАЎ ДЗЕЙНАСЦІ ПАТОЛАГААНАТАМАЎ, ТУТ УСЁ ВЫГЛЯДАЛА ЯСНА І ПРОСТА, ЯК ЯБЛЫК-АНТОНАЎКА З НАШАГА САДУ

дзе дзве сістэмы мянялі сваіх выкрытых агентаў.

Вось, бадай, і ўсё. Тое лета, калі я марыў стаць савецкім шпіёнам, было апошнім перад школаю, у якой нашы летуценныя цнатлівыя душы мусілі канчаткова заблытацца ў шырока раскінутым нераце ўжо зацверджаных без нас ідэяў і募раў. Але тут пачынаецца зусім іншая гісторыя. Ты кажаш, у цябе хлопчык. У такім разе можаш лічыць, што, калі цяпер ён хоча быць вадалазам, паталагаанатамам альбо шпіёнам, у яго ёсць значныя шанцы зрабіцца беларускім пісьменнікам.

Урэшце, апошнім часам мне зноў заманулася падацца ў шпіёны. Як ты думаеш, да чаго б гэта?

*1997 г.*

*За апавяданне «Я марыў стаць шпіёнам» і аповесць «Ордэн Белай Мышы» ў 2016 г. Уладзімір Арлоў атрымаў міжнародную літаратурную прэмію «Алека» (Балгарыя).*

# СЯРГЕЙ БАЛАХОНАЎ

## КАЛІ КРЭВЕТАК ВОДАР РАЗАЛЬЕЦЦА

Танк з'явіўся неспадзявана і з ніадкуль. З'явіўся на піку бою. Тады, калі вынік змагання за чарговы даўно зруйнаваны квартал прадказаць было немагчыма. Каланізатары сустрэлі яго з'яўленне з адчувальнай палёгкай – люстраныя танкі меліся на ўзбраенні іх войска, і гэты можна было лічыць своечасовай дапамогай ад сваіх. Палёгка, аднак, пратрывала нядоўга. Люстраны танк не стаў падаўляць агнявыя пункты пачвар-тубыльцаў, а адкрыў агонь адразу ў некалькіх кірунках – дакладна па месцах, дзе знаходзіліся групкі каланізатараў. Дзве з іх адразу ж дасталіся знішчэнню. Астатнія ж мусілі паспешліва пакідаць ранейшыя схованкі і перабягаць праз задымленыя руіны ды ламачча да больш бяспечных мясцін. Перабягаць пад несціханую страляніну з танка і пазіцый тубыльцаў. Перабягаць паўз агонь, якому, здавалася, тут даўно не было чаго паглынаць, апроч гэтых ваеўнікоў у зыркіх скафандрах. Перабягаць і клясці тубыльцаў за тое, што тыя змаглі недзе на іншых участках фронту скрасці люстраны танк і цяпер так удала карыстаюцца трафеем, бязлітасна пляжачы ворагаў. Зрэшты, якая ўжо ж тут літасць! Ніводны з бакоў ад самага пачатку вайны літасцю не адрозніваўся. Палонных не бралі. На перамовы не ішлі.

Тубыльцы працягвалі абстрэл збянтэжаных каланізатараў і нават перайшлі ў атаку, быццам кантроль над гэтым полем руінаў, друзу і парэшткаў сваіх ды чужых сапраўды мог нешта змяніць у ходзе цэлай вайны. Дзіўнай вайны, калі адны прыляцелі захапіць планету другіх, але, як пакрысе выявілася, не здолелі разлічыць уласных сілаў і прадказаць магутнасць прагі аўтахтонаў да зацятага супраціву. Навукоўцы з планеты, адкуль прыбылі каланізатары, абгрунтоўвалі магчымасць захопу звесткамі пра тое, што атмасфера тут хоць і адрозніваецца ад звыклай ім, але не так фатальна, каб паўсюдна цягацца ў скафандры, не здымаючы шлема. У выніку ж скафандр з наглуха закрытым шлемам стаў неад'емным атрыбутам салдат каланізацыі. А іх перасоўныя станцыі з запасамі каштоўнай дыхальнай сумесі зрабіліся абавязковай мішэнню для тубыльскіх знішчальнікаў. Але адным гэтым клопаты са скафандрамі не абмежаваліся. Сцвярджалася, што колеры для іх падбіралі адмыслова, каб салдатам было лягчэй маскіравацца. Першыя ж баі з тутэйшымі пачварамі засведчылі, што ні ліловая,

ні пурпуровая, ні якая іншая з падабраных для скафандраў афарбовак не дазваляюць зліваціца з мясцовасцю. Між тым да пачатку ўварвання іх наштампавалі столькі, што хутка выправіць памылку з афарбоўкай не атрымлівалася. Прынамсі, так тлумачыла камандаванне аперацыяй, якое ад моманту ўварвання перабывала ў галоўным караблі паблізу на арбіце. У сваю чаргу, камандаванне атрымала гэтае тлумачэнне ад натхняльнікаў інвазіі – найвышэйшай гандлёвай рады, што цягам усёй аперацыі не спыняла сваіх *лёсавызначальных паседжанняў*, не пакідаючы не тое што роднае планеты, а нават бункераў, якія павінны былі абараніць у разе ўдару тубыльцаў у адказ.

Да простых салдатаў весткі з радзімы калі і даходзілі, то ў тройчы пераправерaным, а часам нават адрэдагаваным выглядзе. І калі нехта спрабаваў зразумець сапраўдную сутнасць таго, што адбываецца, яму выпадала аперaваць адно ўрыўкавай інфармацыяй, частка якой грунтавалася на чутках і ўласных назіраннях. Гэтым разам назіранні пацвярджалі ранейшыя дапушчэнні: тутэйшыя пачвары не такія ўжо і няздары, як па інерцыі працягвала трубіць прапаганда. Адна рэч – скрасці люстраны танк, іншая – кіраваць ім і весці з яго дапамогай удалы бой. Тое, што бой для тубыльцаў выходзіў удалым, сумневаў не выклікала. Сігналы датчыкаў, якімі былі злучаны між сабой групы салдат каланізатараў, паступова згасалі. Гэта азначала толькі адно – салдаты гінулі. Гуртам і паасобку. Ацалелым неўзабаве даводзілася спыніць агонь у адказ, каб дачасна не выдаваць сваіх пазіцый. Адступаючы, яны не столькі спрабавалі ратаваць свае жыцці, колькі шукалі магчымасці перад немінучай смерцю знішчыць хаця б некалькіх пачвараў. Знішчыць у спадзеве на тое, што па іншых неўтаймоўных тубыльцаў прыйдзе новы эшалон войскаў каланізатараў. У большай колькасці. З лепшай зброяй. Лепш скаардынаваных у сваіх дзеяннях.

АДНА РЭЧ – СКРАСЦІ ЛЮСТРАНЫ ТАНК, ІНШАЯ – КІРАВАЦЬ ІМ І ВЕСЦІ З ЯГО ДАПАМОГАЙ УДАЛЫ БОЙ

Многія салдаты хаваліся ў завалах сярод руінаў і чакалі, каб выпусціць зарад, калі якая пачвара сунецца да іх. Аднак у шум вакольнай страляніны і грукату танка зусім неспадзявана ўварваўся добра знаёмы абодвум бакам гул турбінаў каланізатарскага планалёта. Пакуль тубыльцы ў разгубленасці спрабавалі прыняць нейкае адпаведнае сітуацыі рашэнне, планалёт без аніякіх папярэджванняў пачаў засейваць руіны кліматычнымі бомбамі. Кожная такая бомба стварала непрацяглы, але вельмі адчувальны эфект чужога і невычэрпнага для тутэйшых клімату. Яны былі запраграмаваныя і на вялікія ваганні тэмпературы, і на розны склад газаў у атмасферы, і на зменлівы кшталт ападкаў, і на многае іншае. І якім бы чынам кожная асобная бомба ні спрацоўвала, тубыльцам яна несла смерць. У лепшым выпадку – цяжкія калецтвы, ад якіх без учаснай эвакуацыі ніводная пачварына агоўтацца не магла. На каланізатараў бомбы не ўздзейнічалі ніяк. Хіба што неслі радасць з нагоды нечаканай адтэрміноўкі гібелі.

Бамбардаванне трывала нядоўга, але змусіла тубыльцаў згарнуць атаку і адступіць. Скідваючы кантэйнеры з боезапасамі і капсуламі дыхальнай сумесі для ацалелых салдат, планалёт пэўны час яшчэ кружляў над руінамі. Потым ён узяў зваротны курс і неўзабаве знік з відавоку. Без дадатковых сеансаў сувязі ацалелым далі

зразумець, што ім давядзецца сваімі парадзелымі шэрагамі працягваць барацьбу за гэты неаднакроць спляжаны лапік тэрыторыі. Што праўда, у іх меўся некаторы час для адпачынку і давядзення да ладу рыштунку, бо пачвары на месцы скідвання кліматычных бомбаў ніколі занадта хутка не вярталіся.

Двое салдат з ліку тых, якім пашчасціла выжыць, жвава разабраліся з кантэйнерам. Пераразрадзілі, змазалі і параматалі адмысловымі бандажамі зброю. Пераматалі, каб тая не развалілася ад уздзеяння тутэйшай атмасферы – давалася ў знакі яшчэ адна недапрацоўка навукоўцаў. Адпрацаваныя – пустыя ўжо – капсулы «адстрэлілі» з адпаведных ячэек скафандраў, дадалі патрэбную колькасць новых, астатнія ж закінулі ў заплечнікі. З ежы ў кантэйнеры нічога не было. Не прадугледжвалася планам аперацыі. Седзячы спінамі да амаль ушчэнт разбуранай сцяны, яны ўзіраліся ў небакрай, за якім знік планалёт. Мутнае шкло шлемаў хавала за сабою твары. На адным салдаце скафандр быў ліловага колеру, а на плячы красаваў ромб. Скафандр другога адрозніваўся пурпуровай афарбоўкай і двума ромбамі на плячы. І тое, і тое ўказвала на іх адрознасць у вайсковых рангах, але не замінала сядзець амаль усутыч адзін да аднаго і гутарыць.

Іх галасоў не было чутно – шлемы валодалі выдатнай гукаізаляцыяй. Гутарылі яны, карыстаючыся ўбудаваным у скафандр прыстасаваннем, дзякуючы якому словы зашыфроўваліся і расшыфроўваліся кодам, які генераваўся толькі на час іх размовы. Вось гэта быў сапраўдны падарунак ад навукоўцаў з іхняй планеты! Баяцца, што змест гутаркі перахопяць тубыльцы, нагоды не было. Хадзіла пагалоска, што пачвары спрабавалі асвоіць мову каланізатараў і нават спрабавалі ставіць нейкія эксперыменты з захопленым абсталяваннем. Аднак у выніку нічога ў іх не атрымалася. А каб і атрымалася – большасць каланізатараў была перакананая, – пачварам не пад сілу было б перакласці правільна пераважную долю тэрмінаў і паняццяў, адпаведнікаў якім (зноў жа на думку каланізатараў) у тубыльцаў папросту не магло быць. Наяўнасць жа шыфравальнага прыстасавання цешыла салдат з той прычыны, што так яны маглі ўволю пабалбатаць на любыя тэмы, не асцерагаючыся «вушэй» камандавання. Папраўкамі, унесенымі ў вайсковыя статуты ўжо тут, пасля ўварвання, карыстацца гэтым прыстасаваннем не рэкамендавалася. Камандаванне жадала, каб усе размовы салдат у рэжыме рэальнага часу фіксаваліся і перадаваліся на серверы галоўнага карабля. Выняць «шыфравальню» са скафандраў было немагчыма, бо яна задумвалася навукоўцамі як арганічная частка цэлай сістэмы, на якой быў збудаваны ўвесь функцыянал абарончага касцюма. Без яе не стала б працаваць уся сістэма, і скафандр не меў бы ніякае карысці для салдат.

– А ты ўпэўнены, што гэтыя пачвары сапраўды хацелі пайсці супраць нас вайной? – спытаў у свайго напарніка Ліловы.

– Ты ж сам цудоўна ведаеш, – адказваў Пурпуровы, выразна выслаўляючы сваю ўпэўненасць. – Упершыню іх шпіёнскі карабель праляцеў паўз нашу планету колькі пакаленняў таму, пасля чаго іх з'яўленні сталі рэгулярнымі. Пачвары сачылі за намі, вывучалі наш лад жыцця, шукалі слабыя месцы, каб аднойчы нанесці па нас удар. І добра, што нашы кіраўнікі, а потым і гандлёвая рада пачалі падрыхтоўку апераджальнага ўдару.

– То-бок ты нават не дапускаеш, што пачвары маглі проста вывучаць нашу частку сусвету без мэты захопу? Ты ж бачыў адзін з тых, нібыта

шпіёнскіх, караблёў, які нашы адмыслоўцы здолелі зняць з арбіты. Ён такі прымітыўны…

– Вось у гэтым і заключаецца наша бяда! – выгукнуў Пурпуровы. – Мы ўвесь час трохі недаацэньвалі праціўніка. Але ж вайна добра паказала, з кім мы маем справу. Я не здзіўлюся, што яны наўмысна адпраўлялі да нас караблі прымітыўных мадэляў, каб выгадаць час. Так што агрэсію яны рыхтавалі здаўна. Ты ўспомні гісторыю з сігналам, які яны адправілі са сваёй планеты. У сігнале ўтрымліваўся вірус, які ледзьве не знішчыў усе нашы навігацыйныя сістэмы. А потым колькі такіх сігналаў было! Незлічоная колькасць. Добра, што навукоўцы своечасова знайшлі спосаб нейтралізаваць той вірус. Магчыма, гэтая вынаходка адтэрмінавала ўварванне пачвараў на нашу планету, а нам дала час падрыхтавацца да прэвентыўнага ўдару. Хіба не так?

ў нашай падрыхтаванасці да гэтай вайны. Ты бачыў іхнія лятаючыя апараты? Бальшыня з іх нават для палётаў у блізкі космас непрыдатная… – трымаўся сваёй думкі Ліловы.

– Але ж рэйд нашай выведкі яшчэ да пачатку ўварвання зафіксаваў наяўнасць тут шэрагу касмадромаў, – запярэчыў напарнік.

– І дзе ж іх касмічныя караблі? Калі пачвары сапраўды рыхтавалі інвазію на нашу планету, то такіх караблёў мусіла б быць як мінімум тысяч дзесяць.

– Можа, іх і было столькі. Але мы знішчылі іх проста ў падземных ангарах, не дазволіўшы ўзляцець. Выдатны апераджальны ўдар.

– Каб нанесці апераджальны ўдар, трэба ведаць дакладныя каардынаты аб'ектаў.

– Выведка ўсё… – спрабаваў патлумачыць Пурпуровы, але спрачальнік яго перабіў:

## ДАКЛАДНЕЙ, ДА ВЫСАДКІ НАС ПЕРАКОНВАЛІ, ШТО ЎСЁ ЦУДОЎНА, ШТО ЎСЁ ЎЛІЧАНА. А ПОТЫМ КІНУЛІ АДНУ З НАШЫХ АРМІЙ НА ЛЁД

– Цяжка сказаць, – Ліловы пацепнуў плячыма. – Афіцыйную пазіцыю ў гэтым пытанні я, як і ўсе, ведаю. Але мяне не перастаюць даймаць сумневы. І найперш яны тычацца зноў жа тэхнічнага боку. Калі пачвары сапраўды рыхтавалі ўварванне на нашу планету, то яны мусілі б валодаць адпаведным узроўнем тэхнікі. Дапусцім, твая праўда, і пачвары хітравалі, падсоўваючы нам на агляд прымітыўныя мадэлі караблёў. Але што мы ўбачылі тут пасля ўварвання? Нічога асаблівага.

– Ну, як жа нічога асаблівага! – абурыўся Пурпуровы. – Моцная абарона ў пачатку і жорсткі супраціў, якому і дагэтуль няма спыну!

– Так. Але гэта ўсё звязана не з высокім узроўнем іх тэхнікі, а з хібамі

– А ці была яна ўвогуле, тая выведка? Чаму нам кажуць, што выведка здабыла каардынаты касмадромаў, але маўчаць пра тое, што каардынатаў найлепшых месцаў для высадкі дэсанту здабыць не змагла? Дакладней, да высадкі нас пераконвалі, што ўсё цудоўна, што ўсё ўлічана. А потым кінулі адну з нашых армій на лёд. Сказалі, што ў пачвар там быць нічога не можа, бо неспрыяльныя для іх умовы. І што ж адбылося? Нашы караблі знізіліся, каб высадзіць дэсант, а з-пад лёду ў гэты самы час пачвары запусцілі свае ракеты… Колькі нашых тады загінула… А ўсё чаму? А ўсё таму, што паводле звестак выведкі там мусіў быць зледзянелы мацярык, але насамрэч там было ўкрытае лёдам мора, дзе пачвары трымалі сваю зброю.

Вось скажы мне, як можна было даведацца пра размяшчэнне касмадромаў і адначасова прыняць зледзянелае мора за мацярык? Мяркую, што ўсе звесткі грунтаваліся толькі на дыстанцыйным назіранні за гэтай планетай, што колькасць касмадромаў у выніковай зводцы перабольшана, што мы бамбілі тутэйшыя аб'екты наўгад, а ў рапартах камандзіры напісалі, што мы знішчылі менавіта касмадромы.

Пурпуровы павярнуўся да таварыша і пасля кароткай паўзы сказаў:

– Здаецца, ты сам перабольшваеш. Гэта наша першае ўварванне. Ніхто не меў падобнага досведу. Ясна, што першапраходцаў напаткалі цяжкасці. Памылак у ажыццяўленні такой складанай задумы пазбегчы немагчыма. Памылкі здараюцца на любой вайне. А што ўжо казаць пра міжпланетную!

– Але ці не занадта шмат памылак ужо дапушчана і дапускаецца штодня, каб лічыць іх выпадковымі? – Ліловы не жадаў прымаць ніякіх кіўкоў на акалічнасці. – Колькі нашых ужо загінула з-за гэтых памылак? Штодня тысячы такіх салдат, як мы з табой, выпраўляюцца ў смерць. А транспартныя караблі тым часам спраўна дастаўляюць навабранцаў. У такіх жа яркіх скафандрах. У шлемах, якія не прабіваюцца ад магутных стрэлаў з вялізнай адлегласці, але могуць раскалоцца ад удару выпадковага каменьчыка, выбітага выбухам. З гэтай зброяй, якую пастаянна трэба мець нашмараванай і трымаць у абмотках, каб яна не растала ў руках падчас бою. З мізэрным запасам кліматычных бомбаў, якія засведчылі сваю эфектыўнасць і пры дастатковай колькасці якіх можна было пераламаць ход вайны ў лічаныя дні. Дзеля чаго? Дзеля чаго, я пытаю, усё гэта?

Пурпуровы ўпершыню не меў чым запярэчыць.

– Маўчыш? – кінуў яму напарнік і тут жа выдаў: – А я табе скажу, дзеля чаго. Дзеля таго, каб навабранцы загінулі, а на іх месца даставілі чарговую партыю. А потым яшчэ і яшчэ…

– Ды што ты такое кажаш… – збянтэжана прамармытаў Пурпуровы, і шыфравальнае прыстасаванне запатрабавала паўтарыць, каб слушна перадаць прамоўленае.

– А тое і кажу. Нас усіх свядома кідаюць на бойню, – у роспачы прамовіў Ліловы. – Ты ніколі не задумваўся, што першае з'яўленне карабля пачвар каля нашай планеты адбылося амаль сінхронна з заявамі нашых кіраўнікоў аб нарастанні праблемы перанаселенасці? Я думаю, што яны выкарысталі прылёт бяскрыўднага даследчага апарата як нагоду для ўзняцця хвалі страху і раскручвання ідэі прэвентыўнага ўдару, а рэальна ж рыхтавалі спосаб законна аслабаніць нашу планету ад «лішніх насельнікаў». З цягам часу гэтую ідэю падхапіла гандлёвая рада. Пры цяперашніх тэхнічных магчымасцях гэта выходзіць і бяспечней для захавання ўлады, і ў цэлым танней, чым правакаваць новую ўсясветную вайну альбо пачынаць масавыя знішчэнні пад той ці іншай маркай. І вось мы ваюем, нібыта за свае новыя тэрыторыі. Гінем у змаганні з драпежным ворагам. А народ успрымае гэта як нешта само сабой зразумелае, бо ўсе ненавідзяць пачвараў. Калі колькасць насельніцтва стабілізуецца, гандляры згорнуць вайну. Магчыма, пакінуць тут дзеля прыліку якую-небудзь базу. Ці, хутчэй за ўсё, адвядуць рэшткі войскаў на радзіму без заключэння міру з тубыльцамі, ведаючы, што тыя

ГІНЕМ У ЗМАГАННІ З ДРАПЕЖНЫМ ВОРАГАМ. А НАРОД УСПРЫМАЕ ГЭТА ЯК НЕШТА САМО САБОЙ ЗРАЗУМЕЛАЕ, БО ЎСЕ НЕНАВІДЗЯЦЬ ПАЧВАРАЎ

на сваёй тэхніцы з ваеннымі мэтамі да нашай планеты яшчэ доўга не дабяруцца.

– І што ты прапануеш? – Пурпуровы быў агаломшаны пачутым. – Пачвары палонных не бяруць. Можна не спадзявацца, што яны цябе зразумеюць. Дый без дыхальных капсул доўга не працягнеш.

– Я не сказаў, што збіраюся да іх у палон. Я хачу дагрукацца да нашага ўласнага камандавання. Павінны ж быць сярод іх тыя, хто разумее сітуацыю правільна.

Гутарка раптоўна перарвалася. На сувязь выйшаў галоўны карабель – абодвум салдатам была выказана прэтэнзія за карыстанне забароненым сродкам лакальнай сувязі. Ліловы пачаў хітраваць, тлумачачы ўсё частковым збоем сістэмы функцыянавання скафандраў, а яго таварыш пацвярджаў, што гэта сапраўды так. Тым часам ззаду, за разбуранай сцяной, пачуўся выразны шоргат. Перш чым салдаты паспелі неяк адрэагаваць на шум, да іх падскочыла пара тубыльцаў, страляючы ва ўпор па шлемах. Праз колькі секунд шлемы каланізатараў з характэрным гукам лопнулі, пачулася шыпенне, а ў паветры разлёгся водар, падобны да паху гатаваных крэветак.

– Глядзі, малы, не запэцкайся ў юшку, бо могуць быць праблемы са здароўем, – старэйшы тубылец папярэдзіў маладзейшага.

– А пахне смачна, – усміхнуўся той. – Я толькі зараз зразумеў, чаму мы іх крэветкамі называем.

– Дзівак. Як вас там на той «вучэбцы» рыхтавалі…

– А так і рыхтавалі, – працягваючы ўсміхацца, прамовіў малады.

Зашыпела рацыя:

– Волат. Волат. Я – Ярыла. Як чуеце? Прыём.

– Ярыла. Ярыла. Я – Волат. Чую вас добра. Прыём, – адказаў старэйшы.

– Як справы? Чаму не дакладваеце?

– Ды акурат збіраліся. Мінус дзве крэветкі. Сяржант Іваноўскі пастараўся, – паведаміў старэйшы, па-змоўніцку падміргваючы навічку.

*2012–2015 гг.*

# АЛЬГЕРД БАХАРЭВІЧ

## КАРНАЯ ЭКСПЭДЫЦЫЯ

Аднойчы мы вырашылі ўсё ж сабрацца і пакараць Жэрдачку.

За што, мы і самі ўяўлялі даволі цьмяна. Але той Жэрдачка заслугоўваў пакараньня, я вам гавару. Можа, за свой чырвоны шалік – такіх шалікаў ва ўсім раёне ніхто не насіў. Калі Жэрдачка выходзіў у сваім шаліку, усім было ясна: ён яго не таму начапіў, што на дварэ сабачы холад і ў нас машыны не заводзяцца. А таму, што ён выгульвае гэты свой фацэтны шалік, рыхтык пудзеля. Я вам гавару, чырвоны і дужа мяккі шалік – такі, ведаеце, быццам голас у тэлефоне, які кажа, што табе націснуць: краткі або зорачку. Мы заўжды мацалі гэты шалік, калі сустракалі Жэрдачку, мацалі з розных канцоў, а ён стаяў і чакаў, пакуль мы нагуляемся.

А можа, яго трэба было пакараць за тое, што Жэрдачка меў чорныя зубы і ўсе яго любілі. Чалавека, у якога чорныя зубы, ніхто ня мусіць любіць, ён павінен пачувацца няшчасным, непаўнавартасным, насіць на шыі сваю адзіноту, а ня нейкія там яркія шалікі, – я вам гавару. А гэты гадамі хадзіў сабе з чорнымі зубамі – і хоць бы што. Яшчэ і ўсьміхаўся нам пры сустрэчы: ва ўвесь рот, з усёй вышыні свайго паліто, якое ён ніколі не зашпільваў.

Хаця што я вам кажу: мы ж не дурныя, каб караць дарослага мужчыну за паліто, чырвоны шалік або чорныя зубы. Усё гэта проста сымбалі, знакі чагосьці іншага. Я вам гавару. А мы ня тыя людзі, каб весьці барацьбу з сымбалічным. Проста мы за справядлівасьць. А справядлівасьць – гэта было не пра Жэрдачку. Проста было ў ім нешта такое… Ну, вы разумееце. Што немагчыма было далей трываць.

Карацей, з Жэрдачкам трэба было тэрмінова нешта рабіць.

І тады мы сабраліся на рагу вуліцы: я, Пень і Драпеза. Холад быў сабачы, і мы нацягнулі на сябе ўсё, што маглі, Пень нават калготкі пад штаны надзеў, хоць і не прызнаваўся, – але мы заўважылі, пасьмяяліся зь яго: «Пянёк у панчохах», але ўпотай, канешне, пазайздросьцілі. У Драпезы быў з сабой вялікі пісталет, і калі мы стаялі там, на рагу, ён пастрэльваў па мінаках: труп, труп, труп. Нейкая баба яму заўвагу зрабіла, але потым паглядзела на нашыя насупленыя твары, зразумела, што мы мужыкі сур'ёзныя, і пабегла ад бяды падалей.

«Ну што, – сказаў я, бо быў старэйшы ў нашай бандзе. – Я лічу, што трэба пакараць Жэрдачку. Каб надоўга запомніў, што так нельга».

Усе са мной пагадзіліся, бо мы ўжо месяц – я вам гавару! – не маглі ні пра што іншае думаць, толькі пра гэтага Жэрдачку і пра тое, як яго пакараць. Мы былі настроеныя так рашуча, што ў нас ажно сьліна пацякла па падбародзьдзях, асабліва ў Драпезы. Падумаць нам было пра што. Мы ведалі, што, каб кагосьці пакараць, трэба даведацца, што для яго самае дарагое. Толькі так можна зрабіць некаму па-сапраўднаму балюча. А нам хацелася, каб Жэрдачка адчуў праўдзівы, моцны, пякучы боль. Такі, каб ён заплакаў і сказаў: я няшчасны і адзінокі чарназубы гаўнюк. Але дзе ў людзей захоўваецца самае каштоўнае і дарагое? Вядома, дома. Там, дзе яго можна ў любы час пагладзіць, дзе ім можна палюбавацца ўдалечыні ад чужых вачэй.

І вось мы пайшлі грэцца і караць Жэрдачку. Мы ведалі, дзе яго дом, дзе жыве гэтая гнілазубая тварына. Прыйшлі да ягонага пад'езду і агледзеліся. Жэрдачка быў дома – мы бачылі, што ў ягоных вокнах на трэцім паверсе гарыць сьвятло, і ён там, напэўна, у цеплыні і спакоі любаваўся і гладзіў сваё самае дарагое. Мы пастаялі крыху, патупалі, пакідаліся адзін у аднаго камякамі замерзлай зямлі. Але з пад'езду ніхто не выходзіў. Тады Пень стаў каля дамафону, Драпеза залез яму на сьпіну, а я ўскараскаўся на Драпезу і пазваніў.

Спачатку ніхто не адгукаўся. Пень над намі жаласьліва крактаў, а ў Драпезы сьпіна была такая круглая, што я ўвесь час зь яе спаўзаў і хапаўся за ягоныя вушы, каб ня ўпасьці. Я зь нянавісьцю ўяўляў сабе Жэрдачку: чамусьці ў купальным халаце. Вось ён стаіць перад люстэркам, увесь разамлелы ад свайго самага дарагога, расчырванелы і чысты, як вымытая перад духоўкай курыца. І тут ён чуе званок дамафону, усьміхаецца, ён чакае гасьцей, ён наўмысна да іх прыходу памыўся, пагаліўся, валасы ў носе пастрыг, надушыўся пад пахамі чырвоным і мяккім водарам. Ён нясьпешна ідзе адчыняць праз усю сваю вялікую кватэру, праз усе свае прасторныя пакоі, ногі ўтапаюць у дыванах… (Хаця я ведаў, што ў гэтым доме адны двухпакаёўкі, аднак ня мог сабе ўявіць, каб Жэрдачка жыў у такой цеснаце.)

«Няма яго, – выцісьнуў зь сябе Пень. – Давайце заўтра? А?»

І тут у дамафоне пачуўся шоргат і тонкі голас Жэрдачкі спытаў:

«Гэта ты, мая Немінучасьць?»

«Так, ты ўгадаў, – адказаў я нарасьпеў. – Адчыняй».

«Які ў цябе дзіцячы голас», – прамовіў Жэрдачка зь нейкай дзіўнаватай інтанацыяй.

КАЛІ ЖЭРДАЧКА ВЫХОДЗІЎ У СВАІМ ШАЛІКУ, УСІМ БЫЛО ЯСНА: ЁН ЯГО НЕ ТАМУ НАЧАПІЎ, ШТО НА ДВАРЭ САБАЧЫ ХОЛАД І Ў НАС МАШЫНЫ НЕ ЗАВОДЗЯЦЦА. А ТАМУ, ШТО ЁН ВЫГУЛЬВАЕ ГЭТЫ СВОЙ ФАЦЭТНЫ ШАЛІК, РЫХТЫК ПУДЗЕЛЯ

Але адчыніў. Я вам гавару – ён спакойна адчыніў нам, ні пра што не падазраючы.

Мы падняліся на трэці паверх і патаргалі за ручку. «Іду, іду», – стомлена сказаў голас Жэрдачкі – і вось ён ужо стаяў на парозе. Зусім не ў купальным халаце, а ў агіднай кашулі і чорных штанах, зарослы шчэцьцю і з насмаркам, што няўлоўна ўгадваўся ў рысах ягонага чырвонага твару.

«Добры дзень, – сказаў ён зьдзіўлена. – Вы куды?»

Але мы не зьвярнулі на яго ўвагу і без усялякіх цырымоній прайшлі

ў кватэру, абмінуўшы гэтыя даўгія ногі і з пагардай зірнуўшы на паліто, якое зьвісала зь нізкай вешалкі амаль да падлогі. Пень нават плюнуў на гэтае паліто, і мы з надзеяй зірнулі Жэрдачку ў твар – але ён ніяк не адрэагаваў, толькі ўздыхнуў, выцер харкаціньне анучкай і рушыў за намі.

Мы не сьпяшаючыся разьмясьціліся ў ягонай цеснай залі, застаўленай кнігамі так, што – я вам гавару! – не зусім зразумела было, як тут можа сядзець сам Жэрдачка зь ягонымі бусьлінымі лапамі. Так, вакол былі кнігі і розныя скрынкі. Тут і для нас месца не хапала. Я ўладкаваўся на невялікай канапе, падклаўшы пад сябе падушку і злавесна закінуўшы нагу на нагу, Драпеза залез на пісьмовы стол, скінуўшы на падлогу паперкі, якія там ляжалі, а Пень загарадзіў сабой дзьверы, упёршыся ў іх локцямі. Жэрдачка так і застаўся стаяць пасярод пакоя, не наважваючыся прысесьці. Ён склаў на грудзях рукі і пакорліва чакаў нашага суду.

Мы маўчалі, грэліся і думалі, як жа яго пакараць.

«Можа, вам какавы зрабіць гарачай?» – прапанаваў Жэрдачка, мільгаючы сваімі чорнымі зубамі і з надзеяй паглядваючы ў бок кухні.

«Ну зрабі, – дазволіў я літасьціва пад запытальнымі позіркамі Пня і Драпезы. – Толькі цукру паболей. Холад сабачы, у мяне сёньня машына не завялася».

Жэрдачка паслужліва кінуўся на кухню, як афіцыянт.

«Глядзі, што я знайшоў, – сказаў Драпеза і выцягнуў аднекуль чырвоны шалік. – Можа, яго таго, а?..»

І ён шматзначна паглядзеў на нас. Я ўзяў у яго канец шаліка, мяккага, як валасы маёй маці, і чырвонага, як аксамітнае дно яе куфэрачкаў.

«Гэй, Жэрдачка! – паклікаў я ўладна, і ён вызірнуў з кухні. – Глядзі, што мы знайшлі!»

І я на ягоных вачах парэзаў гэтае дзіва нажніцамі для паперы, а потым засунуў кавалкі шаліка сабе ў штаны. Было прыемна і козытна. Жэрдачка зморшчыўся, заплюшчыў вочы, але паціснуў плячыма і зноў схаваўся на кухні, бразгаючы там лыжкамі. Я дастаў ашмецьце са штаноў і высмаркаўся ў яго, а потым кінуў на падлогу.

Значыць, усё ж ня шалік быў для Жэрдачкі самым дарагім. Але што? Я абводзіў вачыма цесны паўцёмны пакой, уключыў лямпу. Як жа нам пакараць Жэрдачку? Пень, быццам чытаючы мае думкі, пачаў нагой сшыбаць кнігі і скрынкі, накрыўкі зьляталі лёгка, як капелюшы, са скрынак сыпаліся нейкія фатаздымкі, капэрты, каменьчыкі, выцьвілыя каляровыя стужкі, старыя дыскеты, фенечкі, пігулкі… Шмат, шмат пігулак і каляровых флякончыкаў. Гэты Жэрдачка, напэўна, наркаман, падумаў я. Столькі лекаў – ды ў яго столькі ня ўлезе. Пень з задавальненьнем таптаў усё гэта, катаў па падлозе, яму заўжды падабалася рабіць гармідар дзе толькі можна. Жэрдачка пазіраў на ўсё гэта з кухні, адкуль смачна пахла какавай, і гнятліва ўздыхаў. А Драпеза тым часам страляў са свайго вялізнага пісталета па фатаграфіях у рамках, якімі былі завешаныя ўсе сьцены: труп, труп, труп!

Я ЎЛАДКАВАЎСЯ НА НЕВЯЛІКАЙ КАНАПЕ, ПАДКЛАЎШЫ ПАД СЯБЕ ПАДУШКУ І ЗЛАВЕСНА ЗАКІНУЎШЫ НАГУ НА НАГУ, ДРАПЕЗА ЗАЛЕЗ НА ПІСЬМОВЫ СТОЛ, СКІНУЎШЫ НА ПАДЛОГУ ПАПЕРКІ, ЯКІЯ ТАМ ЛЯЖАЛІ, А ПЕНЬ ЗАГАРАДЗІЎ САБОЙ ДЗЬВЕРЫ, УПЁРШЫСЯ Ў ІХ ЛОКЦЯМІ

Урэшце Жэрдачка вынес на падносе тры кубкі і падсунуў да канапы нізкі столік. Мы шматзначна пагляндзелі на яго – і ён уручыў кожнаму з нас какаву. Трымаць кубак было нязручна, такі ў Жэрдачкі дома быў вялікі посуд. Я дык сваю какаву ледзь не разьліў – але не таму, што ня мог яе ўтрымаць, а таму што дзьверы суседняга пакоя адчыніліся і адтуль выйшла незнаёмая нам жанчына. Такая прыгожая, як мая мама, – я вам гавару!

«Ад вас так кепска пахне, – сказала яна, уважліва агледзеўшы кожнага з нас. – Я ажно прачнулася ад гэтага смуроду. Вы што, ня мыецеся перад тым, як выходзіць з дому?»

Драпеза схаваўся за падушкамі, а Пень ажно папярхнуўся. А я зьняў з галавы вязаную шапачку, у якой з самага пачатку так і сядзеў, каб паказаць Жэрдачку сур'ёзнасьць нашых намераў, – сам ня ведаю, чаму я яе зьняў, але шапачка пякла мне макаўку, як быццам туды какавы налілі.

«Зрабі і мне какавы, – папрасіла жанчына Жэрдачку ўладным голасам, і ён зноў пашыбаваў на кухню. – Толькі бяз цукру. І тост з маслам і мёдам, вялікі, ну, ты ведаеш».

Яна пайшла на сярэдзіну пакоя і спынілася, строга і няўхвальна разглядваючы нас. Яна была зусім не такая высокая, як Жэрдачка, але падавалася, што ён быў ёй па плячо. У такой шалік на вуліцы не памацаеш, падумаў я, робячы вачыма адчайныя знакі Драпезу – ён быў адзіны з нас, хто меў зброю. Жанчыну трэба было загнаць назад, хай і пад дулам пісталета, бо яна замінала нам вяршыць справядлівы суд і наогул была тут зусім недарэчы.

«Калі ў мяне былі сыны, я ніколі не дазваляла ім выходзіць з дому непамытымі», – прамовіла жанчына, спыніўшы свой позірк на маіх пазногцях. Я засунуў далоні пад плед, робячы выгляд, што мерзну. Какава стаяла на століку і, напэўна, зусім ужо астыла. Пень сеў на падлогу і калупаў пальцам нейкую ракавінку. А Драпеза ніяк не хацеў заўважаць маіх знакаў, ён сядзеў і глядзеў на гэтую ўладную жанчыну, як загіпнатызаваны. І я яго разумеў: гэтыя доўгія валасы, гэтая сукенка, уся сшытая з тонкіх складак, гэтыя вусны, якія крывіліся ў горкай усьмешцы. І вочы, якія гарэлі спакойным і маркотным сьвятлом, ад якога мне рабілася ўсё больш няўтульна. Але я не зьбіраўся здавацца і з усяе моцы трымаў яе позірк. Нам няма чаго было саромецца, мы прыйшлі пакараць Жэрдачку, бо ён заслугоўваў пакараньня.

«Вы яго сябры? – спытала яна хутчэй у мяне, чым ва ўсіх. Здагадалася, што я тут старэйшы. – Ён пра вас ніколі не расказваў».

«Мы прыйшлі да Жэрдачкі, каб яго пакараць!» – раптам сказаў хрыпатым голасам Пень і пачырванеў.

«Пакараць? – выцягнула яна прыгожыя вусны, у тысячу разоў прыгажэйшыя, мякчэйшыя і лагоднейшыя, у тысячу разоў больш нахабныя за той чырвоны шалік, рэшткі якога валяліся на падлозе. – За што?»

Я пацінуў плячыма.

«І што вы тут нарабілі, у гэтым доме? – працягвала яна, абвёўшы рукой учынены намі беспарадак. – Я заўжды вучыла сваіх сыноў, каб яны самі прыбіралі свае рэчы. І яны запомнілі, што, калі гэтага не рабіць, усё ў жыцьці так і будзе: як раскіданыя па цёмным пакоі цацкі…»

Жэрдачка прынес ёй какаву і тост, любоўна намазаны маслам і мёдам, і цяпер яна ела ўсё гэта і піла, і Жэрдачка глядзеў на яе і любаваўся. І мы таксама сядзелі і ня рухаліся, заварожана гледзячы, як яна адкусвае залаты тост.

«Як жа вы хацелі яго пакараць? – спытала яна, даеўшы і аблізаўшы пальцы. – Вы такія маленькія і тоўстыя, ад вас так кепска пахне – хіба вам прыйшло ў галаву, што кагосьці

можна па-сапраўднаму пакараць, толькі дакладна ведаючы, што для яго самае дарагое?»

Яна абняла Жэрдачку за плечы, і ён распрастаў іх, і адразу стаў яшчэ вышэйшы. Горда і крыху тужліва ён глядзеў на яе валасы, на яе маленькае вуха, на яе голую шыю, дзе жыла блакітная жылка, і яны былі так далёка ад нас, што мы пачалі падскокваць на сваіх месцах, як мячыкі, якія ніяк ня могуць узьляцець, каб трапіць на той бок сеткі, або як пацучкі перад навальніцай. А наш малы недарэка Пень абняў жанчыну за нагу і соладка прымружыўся, быццам над ім гучала калыханка. Я вам гавару – Пень, наш дурнаваты Пянёк, самы малады з нас, абняў яе за тонкую нагу пад мяккай тканінай, а мы глядзелі на ўсё гэта і на душы ў нас быў такі неспакой, што хацелася схавацца пад пледам і жыць там, не выходзячы больш на сьвятло.

старэйшым і вяршыць суд. Цяжка быць справядлівым, калі з табой размаўляюць такім строгім голасам.

«Вы дапілі сваю какаву? – спытала жанчына, заклапочана агледзеўшы нас, быццам бачыла апошні раз. – Тады, я думаю, вам самы час сыходзіць. Мы чакаем гасьцей, і я ня думаю, што вам варта зь імі сустракацца».

«Па-твойму, яна прыйдзе не адна?» – спытаў у яе Жэрдачка і нахіліўся, расстаўляючы на месцы кнігі і зграбаючы ўвесь свой друз у скрынкі.

«Не палохай іх, – сказала яна Жэрдачку, кіўнуўшы ў наш бок. – Вядома, адна. Але ім ня варта тут заставацца, праўда?»

Ён разгублена і нецярпліва паглядзеў на нас. Жанчына падышла да канапы і насунула на маю галаву шапку, а Пню папраўіла калготкі.

«Вам трэба сьпяшацца, – сказала яна і лёганька падштурхнула мяне ў шыю, як самага старэйшага. –

## І АД ГЭТАГА СЛОВА НАМ СТАЛА НАСТОЛЬКІ НЕ ПА САБЕ, ШТО НЕ ХАЦЕЛАСЯ НІКУДЫ ВЫХОДЗІЦЬ, А ХАЦЕЛАСЯ ЗАЛЕЗЬЦІ ПАД КАНАПУ І СЯДЗЕЦЬ ТАМ ЦІХА, ЯК ПАЦУЧКАМ

Мы б, мабыць, так і зрабілі, але Жэрдачка і жанчына раптам расчапілі свае абдымкі, і Пень пакаціўся ў кут. А я ўспомніў, навошта мы сюды прыйшлі, і ў ва мне змагаліся сорам і страх. Сорам за сябе, за сваю няздольнасьць давесьці пачатае да канца, бо хто ж яшчэ пакарае Жэрдачку, як ня мы. І страх перад гэтай жанчынай, якая, як мне падавалася, спапяліць усё, што яе не паслухаецца. Хаця я адчуваў, што насамрэч яна толькі ўдае, што спакойная. Ва ўсялякім разе, мы былі ня самай важнай падзеяй ні ў яе жыцьці, ні ў яе сёньняшнім дні. Па-мойму, яна нават забылася на нашае існаваньне. Жэрдачка і яна часам беспакойна пазіралі ў калідор – і я быў адзіны з нашай банды, хто гэта заўважыў. Цяжка быць

Бяжыце ўніз і не азірайцеся, бо я адчуваю, што яна ўжо тут».

«Хто?» – спытаў Драпеза, і вусны яго задрыжалі. Жанчына схапіла пісталет і засунула яму за пояс курткі.

«Здаецца, гэта тваё. Не забудзь».

Мы пайшлі да дзьвярэй, але рухаліся зусім ня так хутка, як яна хацела. Пень зачапіўся рукавом за ручку і давялося яго вызваляць. А ў мяне, як назло, разьвязаўся матузок. Яна сказала, што іхная госьця ўжо тут. І ад гэтага слова нам стала настолькі не па сабе, што не хацелася нікуды выходзіць, а хацелася залезьці пад канапу і сядзець там ціха, як пацучкам. Але рэчы ня слухаліся, рэчы чапляліся за гэтую дзіўную кватэру ўсімі сваімі кутамі. Нашыя маленькія рэчы, маленькія рэчы маленькіх і злых людзей, якія хацелі

ведаць, так пакутліва хацелі ведаць толькі адно…

«…Хто? Пра каго вы кажаце? – крычалі мы нецярпліва, адчуваючы, як холадна робіцца ў нашых маленькіх жыватах, як жах пранікае ў нашыя кволыя храбты. – Хто ўжо тут? Чаму?»

«Хто? Немінучасьць, – коратка сказала жанчына, выпіхваючы нас з кватэры. – Так, яна ўжо тут. Чуеце? Вам нельга трапляцца ёй на вочы. Мой маленькі, мой сьмешны і злы народзец, дома вас чакаюць мамы і таты, вашыя машыны не заводзяцца на гэтым холадзе, вашыя пясочніцы зусім замяло, вашыя зубы такія белыя, у вас унутры адно паветра, але ёсьць іншы холад, іншы, той, які забівае вас. Хутчэй!»

І мы і праўда пачулі, як нехта ўнізе ўвайшоў у пад'езд, і ўдушлівая хваля жаху адразу ж паднялася да трэцяга паверху і прыціснула нас да сьценаў. Я вам гавару – прыціснула, быццам нехта сеў нам на грудзі. Крокі рабіліся ўсё гучней, крокі і роўнае, як таханьне гадзіньніка, дыханьне. Але мы не маглі заставацца тут. Я штурхнуў Драпезу, Драпеза тыцнуў пад бок Пня, і ўся нашая тройца кінулася да ліфта, але ён быў намертва заціснуты ў сваёй шахце, ён быў паралізаваны – і нам не заставалася нічога, як пабегчы ўніз па лесьвіцы. Прыкрываючы рукамі твары і моцна заплюшчыўшы вочы, мы беглі па сходах уніз, мы ведалі, што калі нам пашанцуе, мы праскочым міма гэтай белай постаці, якая мільгала між парэнчаў у сіняй аблупленай фарбе. Яна падымалася ўсё вышэй, але мы былі маленькія і злыя, мы не займалі шмат месца, мы былі малыя пацучкі і ведалі, што праскочым. Бо мы не жывем тут. Мы проста хацелі пакараць Жэрдачку, але мы не жывем тут. Так мы скажам Немінучасьці, калі яна нас спыніць. Раз, два, тры. Ніжэй, ніжэй, ніжэй. Патыхнула непрыветнай вуліцай, нашыя ногі знаходзілі прыступкі беспамылкова, як быццам пад імі круціліся пэдалі ровара. Яшчэ ніжэй. Вось ужо цягне холадам, сабачым холадам, белым холадам. Яна падымаецца, яна не трымаецца за парэнчы, яна ідзе проста пасярэдзіне сходаў. І мы бяжым ёй насустрач.

Мы ня бачылі, мы проста адчулі гэта.

Адчулі вейкамі і порамі скуры, адчулі ледзянымі кончыкамі пальцаў і хвастоў. Адчулі, што апынуліся перад самым яе тварам.

Яна спынілася, прапускаючы нас, і мы гурбаю кінуліся пад яе рукой у гэты літасьціва дадзены нам праход. Інакш і здарыцца не магло, бо мы былі ня з гэтага дому і ня з гэтага пад'езду. Мы беглі нахабна і апасьліва, як маленькія пацукі, тупаючы ножкамі, і кожны пасьпеў пачуць, як нехта за нашымі сьпінамі асуджальна і гучна зацокаў языком – мэлянхалічна, мерна і роўна, як вялікае белае сэрца.

# АЛЕНА БРАВА

## САДОМСКАЯ ЯБЛЫНЯ

*Фрагмент рамана*

**Любоў і кроў**

Паміж чацвёртым і пятым паверхамі (ліфт не працуе), паслізнуўшыся на памыях, якія выявіліся лужынкай сабачых экскрэментаў, я балюча выцялася лбом аб парэнчы.

– Ты ложку прылож і дзяржы, штоп шышкі не асталась, – па-сяброўску раіць суседка. З яе прыадчыненай кватэры тое самае гучным брэхам раіць сабачка, які, пэўна, і вінаваты ў здарэнні.

Уваходжу ў кватэру пад тэлефонныя трэлі (доктар?), бяру слухаўку – і ўплываю ў глеістую затоку, дзе тапельніца Алёнка ляжыць на дне з каменем традыцыйных каштоўнасцяў на грудзях, заклікаючы сясцёр падзяліць яе шчаслівую долю. Замест гуллівых лекарскіх сентэнцый у слухаўцы гукі, якія звычайна ўтварае статак нядоеных парнакапытных: гэта азначае, што палкоўнік Кувырчык адбыў на *палігоны* («сэксадромы»), а ў ягонай жоначкі фаза румзанняў, якую хутка зменіць фаза эйфарыі. *Дровы* цяпер у маёй уласнай кватэры!

Памяркоўная, жаноцкая сястрыца Алёнка, якой я калісьці была: сукеначка – начальству, чаравічкі – грамадскім інстытуцыям, грабеньчык – сямейнаму ачагу, фартух – «мудрым» прыяцелькам, а сабе самой дуля з макам, – зараз гэтая сястрыца прыгадвае лексічны мінімум свайго дзядзькі – інакш нахабная Яга не адчэпіцца! Але мне раптам робіцца цікава: колькі можна пратрымацца пасля такой дозы алкаголю. Кладу слухаўку на стол. Часам прыкладаю да вуха: раве, рагоча, віскоча і румзае д'ябальскае радыё – наўпроставая трансляцыя з Лысай гары! На шчасце, свае пяць капеек можна не ўстаўляць: маналог дырэктаркі «Вясны» не патрабуе каментарыяў. Гэтая Супер-Яга пачынае выклікаць у мяне захапленне. Яна здольная перакрычаць цэлы шабас, які вылецеў з архетыповых дымаходаў сярэдневяковай Еўропы!

Ну, што тут будзеш рабіць? Бутэрброд з каўбасой і яшчэ адзін, з сырам. Так, гарбатку не забудзь запарыць. Зялёную. З глогам, ад сэрца. Уладкоўваюся ў фатэлі з кубкам. Шумавы аркестр тут не чуваць, інакш сітуацыя нагадвала б мазгавое згвалтаванне ў асабліва цынічнай форме, прычым у вольны ад працы час.

На фатэлі валяецца раманчык з месца ДТЗ. Папіваючы гарбату, даю

ырца ў жыватворную крыніцу ўлюбёнага народнага чытва.

Мінерва Кувырчык пратрымалася паўтары гадзіны. За гэты час я паспела праглынуць алкагольна-наркатычны прадукт, дастаўлены на станцыю хуткай дапамогі фельчаркай Агатай. У маладосці я, на сваю бяду, пачытвала такія кніжачкі. Ажыццяўляла, так бы мовіць, люты downgrade свайго мозгу – у мэтах яго сумяшчальнасці з праграмнай версіяй жаночага шчасця. Калі б раман застаўся ляжаць у фае, не сумняюся, яго зачыталі б да дзірак санітаркі ды фельчаркі, а да плямкі крыві на вокладцы дадалося б многа-многа плямаў ад сентыментальных слёз.

Аўтараў такіх халтурак трэба судзіць па арт. 209 Крымінальнага кодэкса («Махлярства»). Замест гэтага раман прарэкламуюць у якой-небудзь перадачы махляры-тэлевядоўцы, да якіх і я належу.

ЗА ГЭТЫ ЧАС Я ПАСПЕЛА ПРАГЛЫНУЦЬ АЛКАГОЛЬНА-НАРКАТЫЧНЫ ПРАДУКТ, ДАСТАЎЛЕНЫ НА СТАНЦЫЮ ХУТКАЙ ДАПАМОГІ ФЕЛЬЧАРКАЙ АГАТАЙ

Тэкст, натуральна, пра любоў і кроў. Вельмі, ведаеце, міленькая штучка. Такія творы, безумоўна, дапамагаюць нам сыходзіць з жыцця маладымі. Зайдзіце ў любую кніжную краму – яны, усенародна выбраныя, заўжды на вітрыне. Аўтарка працалюбіва ўзбіла *яйкі з цукрам*, каб падсаладзіць жанчынам іх нецікавыя будні (цеста мовы імпартавана ў выглядзе сухога канцэнтрату з дзяржавы-пабраціма). «Шпітальер святога Іаана» – так называецца твор – проста асуджаны на поспех у чароўнага кантынгенту. Дзея развіваецца ў двух паралельных часах...

...У гэтым жыцці яна робіць у пральні гарадка, жыхары якога здаюць свае скамечаныя сараматныя таямніцы ёй, прыёмшчыцы бялізны (фрэйдысцкі акцэнт плюс бытавыя ўмовы развітага сацыялізму). Яна вяртае ім штабелі, роўныя, як дамавіны, што мусяць прыбываць у той райцэнтр з далёкіх азіяцкіх гор. З акна сваёй хрушчоўкі яна (у папярэднім жыцці – дачка іерусалімскага зяленіўшчыка часоў вайны за Труну Хрыстовую, і чамусьці пра гэта памятае) бачыць не праспект з партрэтамі чальцоў палітбюро, аднолькавымі, нібы шарыкі ртуці, а Іўдзейскія горы і яго, рыцара-шпітальера. Зразумела – на чыстакроўным арабскім скакуне. Адкуль ён, дарэчы, узяўся ў брэжнеўскім застоі? Ну, узяў ды выслізнуў, мабыць, з дзіркі ў часе, як сёе-тое з прарэхі, але важна не гэта, а тое, што яна закахалася: страсна, назаўжды. Ён на яе не глядзіць: класічны канфлікт. І як можа ён глядзець, калі існуе толькі ў ейным уяўленні? Аднак аўтарка не прадавалася б так паспяхова, калі б не задавальняла патрэбы сваёй мэтавай групы. Дык вось: шпітальер з гераіняй такі сустракаюцца! Прычым у абодвух жыццях – рэдкая ўдача. Папярэдняя інкарнацыя прыёмшчыцы бялізны, іерусалімская дама, робіцца прастытуткай, а працоўнае месца сабе выбірае не абы-дзе – ля гарадской брамы, дзе вялікі наплыў кліентаў: ёй жа трэба грошы зарабіць, каб падкупіць начную варту шпіталя і прабрацца ў спальню прыгожага рыцара-анахарэта. Угнеўлены ўварваннем, іааніт праганяе прыгажуню прэч, а потым, не здолеўшы перамагчы дэманаў пажадлівасці, адпраўляецца на яе пошукі. Гераіня тым часам паспявае даць зарок бясшлюбнасці, каб даглядаць пракажоных. Потым ад кахання кідаецца ў мора. Паралельнае жыццё ў часы Леаніда Жыватрупнага цячэ паралельна: там яе, прыёмшчыцу бялізны, гвалціць былы аднакласнік Саша на ягоных

праводзінах у армію, дапамагаюць Сашыны сябрукі з 10 «Б» (лепшы клас у школе, тры медалісты). Гэта нечакана вядзе гераіню да прасвятлення: вершнік у чырвоным плашчы працягвае ёй руку, яна рвецца да сапраўднага каханага (з вакна чацвёртага паверха), але амаль удала прызямляецца на куст чаромхі. Аднак паспявае заўважыць (седзячы на кані побач з іаанітам) свой былы клас на пахаванні Сашы (пахаванне насамрэч адбудзецца, праз год), яго фатаграфію на тле паўднёвых гор, падушачку з ордэнам і залітаваную труну, у якой Сашынай выявіцца толькі адрэзаная галава. Фантазія аўтаркі не ведае межаў – у тым ліку міжнародных: маджахед, які адрэзаў галаву савецкаму салдату, – чарговая інкарнацыя прыўкраснага шпітальера, які помсціць за вечную каханую, прыёмшчыцу бялізны і знатную распусніцу. Там яшчэ было пра паланенне галаварэза, які выявіўся важнай птушкай (яшчэ б!), яго дастаўку ў Маскву і сустрэчу з прыёмшчыцай бялізны: яна ачуняла пасля пералому нагі і завербаваная КДБ праз дар яснабачання, што ў яе адкрыўся.

На гэтым я адключылася.

Мне прысніліся дзве дамы, якія вялі высокаінтэлектуальную дыскусію пра літаратуру. «Што гэта за такое – каханне да прывіду, – добра пастаўленым у скандалах голасам вяшчала адна, – мужчына мусіць быць фізічна моцны, каб зарабляць – ну і каб кахацца, канешне! Возьмем раман, я нядаўна чытала: ён – доктар і паспяховы бізнесовец, яна аказвае інфармацыйныя паслугі насельніцтву. Там у героя яшчэ белы махровы халат, зараз модна, ён яго надзявае пасля сэксу, вельмі зручна каву ў ложак падаваць, але ён ёй не падаў. І яна пакрыўдзілася. Дарэчы, правільна зрабіла, я таксама пакрыўдзілася б. Таксама мне, фуфло: белы халат, падлога з падагрэвам, карціны, а каву не падаў...» – «Не, пры чым тут кава, тут трэба зусім па-іншаму канчаць, – уступіла другая дама кашэчым голасам Фрэі, дамы з такім голасам без рамантычных згрызотаў падымуць з халоднага постлюбоўнага ложка свой галоўны тавар – цела, яно ў іх добра адпаліравана. – Трэба, каб герой з вайны вярнуўся з ардэнамі, але інвалідам, лепш за ўсё – з галавой, але без ног, і каб яна, недачэпа гэтая, усё яму даравала, ну згвалціў, дык ён жа – ад кахання! Спецыяльна, каб дачакалася! Мой актуальны, калі пад мухай, і не такое вычварае, затое заўжды потым аддорваецца, аднойчы футра за тры штукі падарыў, вось гэта я разумею – жысссь!»

ТАМ У ГЕРОЯ ЯШЧЭ БЕЛЫ МАХРОВЫ ХАЛАТ, ЗАРАЗ МОДНА, ЁН ЯГО НАДЗЯВАЕ ПАСЛЯ СЭКСУ, ВЕЛЬМІ ЗРУЧНА КАВУ Ў ЛОЖАК ПАДАВАЦЬ, АЛЕ ЁН ЁЙ НЕ ПАДАЎ

**«Распавядзі марскім пехацінцам!»**

– Ну... значыць... пасля бутэлькі шампанскага... – голас даносіцца нібыта з каналізацыйнага люка: я абкруціла слухаўку вязаным шалікам, атрымалася немаўля, якое то клала на калені, то трымала «салдацікам» («каб зрыгнуў»). – ...кажу яму, дурню: Андрэіч, захочаце адпачыць – міласці прашу к нашэму шалашу: кавярня, саўна, дзеўкі па першым разрадзе...

Вяртацца ў дзівосны стары свет, дзе дырэктарка «Вясны» за пасаду гандлюе сваімі бязмоўнымі падначаленымі, бы рабынямі, у моладзевых камітэтчыкаў стабільна перавыконваецца план *па росту членов*, крывыя на графіках надоаў узыходзяць зваp'яцелай вясёлкай, а змрочныя хімеры прамінулых пакаленняў ніколі

не губляюць надзеі на ўвасабленне, мне не хочацца. А давядзецца. Пэўна, атруту ў мой мозг народны раманчык усё-такі ўпырснуў (далібог, на вокладках такіх кніг трэба штампаваць папярэджанне мінаховы здароўя: шкодна і небяспечна!), бо я нечакана для сябе пачынаю мямліць абы-што:

– Мінерва Іванаўна, вось вы жанчына мууудрая... адна мая сяброўка сустракаецца з муууужчынам...

*…рыцарь проезжал мимо Иерусалимских ворот, не глядя на страстно влюбленную жрицу любви...* – рэхам адгукаецца ў галаве праклятая кніжонка.

– Гэта ў цябе мужык, ці што? – нягледзячы на нецвярозасць мазгоў, у жыццёвую сітуацыю дырэктарка «Вясны» ўязджае маланкава. – Адкуль чувак? На якой пасадзе?

...*а явился он оттуда, где свет Луны страстно ласкает пышные смарагдовые груди олив...*

– Даўно зрохкаліся? – працягвае допыт генеральны – не, не пракурор: спонсар.

– Каля месяца.

– І што, яшчэ не трахнуў?!

– У яго прынцыпы, – ляпае першае, што прыйшло ў галаву, Інга-Радыстка-Кэт-якая-Спалілася. Абы хутчэй спыніць бязглуздую размову і кручэнне-вярчэнне перад вачыма (у мяне, як на злосць, ідэальная зрокавая памяць!) дэбільных цытатак.

*…в часовне Марии Магдалины красивый анахорет проводит долгие часы в молитвах и совсем не смотрит на женщин…*

– Ха-ха-ха-ха!!! Ну, ты, б....зь, даеш!!! – маё правае вуха глыхне ад сарданічнага рогату. – Распавядзі марскім пехацінцам!!! Не, вы паслухайце: «прынцыпы»! Калі ў іх х... не стаіць, тады прынцыпы з’яўляюцца!!!

– У яго сужыцелька, як бы жонка... нядаўна ад мужа сышла... у яе павышаны артэрыяльны ціск... – сама здзіўляюся таму глупству, што злятае з языка.

*…рыцари ордена Госпитальеров посвятили себя уходу за тяжелобольными пилигримами, дали обет безбрачия…*

– Вой, не смяшы, зараз памру... ціск, га?! І ты ў такія на...кі верыш?! Для таго і як бы жонка: ён пры ёй як бы мужык, дапёрла?! А яна, для іншых баб, як бы пры мужыку. На працу прышнарыцца і залівае, залівае, які ён афігенны ў ложку, каб усе бабы абзайздросціліся. І бяды ёй, што ў яго не стаіць?! – даходліва тлумачыць скарбніца жыццёвай мудрасці нашага гарадка.

– Можа, ён хоча, каб кабета сама яго заваявала... паказала смеласць, адкінула стэрэатыпы... – а што яшчэ я магу сказаць?

*…стала она проституткой у Иерусалимских ворот, где проезжает прекрасный всадник, – этого ей никто не мог посоветовать, кроме Луны, подруги и искусительницы…*

– І да бабкі не хадзі: не стаіць у чувака, – дакучлівая ідэя, ці што, у гэтай сяброўкі ды спакушальніцы? Якая «нябесным целам» дакладна не з’яўляецца. – Адвалі ад інваліда, горш будзе.

...*по ночам она беседовала со звездами. «Я пойду в госпиталь!» – «В келью рыцаря-анахорета?» – захихикала звезда. «Молчи!» – крикнула она, и звезда умолкла.*

– Не, ты на майго паглядзі: маркітун, як мая бабця казала. Яму прынцыпы патрэбныя, як вожыку кальсоны, – гэтую зорку так проста не заткнеш. – На ўвесь наш ваеншалман хапае...

– Можа, вам лепш развесціся? – спрабую перавесці стрэлкі на палкоўніка Кувырчыка.

– Ты што, дурная?! А кватэра?! Машына, дача зноў жа. Ну і сабаку на ланцуг саджаць – толькі псаваць. Ты лепш вось што скажы: ты бачыла, каб сабаку костку кінулі, з мясам... а ты ў нас тлу-у-устая костачка, у люстэрка зірні... каб сабаку костку мясную кінулі, а ён нават не панюхаў?

*…открыл ясные очи рыцарь, отвернулся во гневе, на тело ее белое, молодое, лишь волосами распущенными прикрытое, смотреть не захотел…*

– Ён жа не...

– Бачыла ці не?!

– Не.

– І не пабачыш! Бо сабака – ён што? Костку калі не згрызе, дык у пыле пакачае. А мужык той жа сабака, зроду новую бабу паспрабаваць не адмовіцца. Калі ён, канешне, не м....ак кончаны. І не хворы. У сэнсе, на галаву хворы. Ён у цябе часам не підар? Можа, яму не баба патрэбная, а здаравеееенны такі, як у неграў...

*…приказал миловидный рыцарь плечистому стражнику прогнать ее прочь из кельи…*

– Мінерва Іванаўна, праз два тыдні падвядзенне вынікаў конкурсу пазітыўных праектаў – вы не забыліся? А мы яшчэ прызы не выбралі! – Інгастратэг спрабуе прымяніць тактыку, якую выкарыстаў французскі імператар, пачаўшы ўзводзіць фальшывы мост наводдаль ад сапраўднага месца пераправы – за пару дзясяткаў кіламетраў адсюль, дарэчы.

не тое што адмірала Чычагова. – Бачыла, як на цябе сёння дырэктар «Ямабанка» зырыў? Ну, чувак, што шампанскае разліваў. Да цябе з візітам напрасіўся, рэкламу з парасём на паветраным шарыку нібыта паказаць, абмеркаваць эстэтычны складнік... ды не ён з паветраным шарыкам, б....зь, а парасё!!! Не ўпусці. Мужык што трэба. Круты. Пры тачцы. Пры бабках. Хош, устрою? Буш у шакаладзе.

– Не хачу.

– Ну і дурніца.

Мінерва кідае слухаўку.

Вось цяпер мой працоўны дзень дакладна скончаны.

Адпраўляюся ў лазенку. У люстэрку бачу: ландшафт ілба змяніўся ў бок узгоркаватасці. У змрочным задуменні разглядваю адбітак. Не твар, а піярапорная канструкцыя. Зморшчынкі каля губ – ад бадзёрых тэлеўсмешак. Позірк, з якога выкруцілі лямпачкі яшчэ ў мінулай пяцігодцы. На лбе накідам зморшчын запісаны бягучы парадак дня: актывізацыя ўсіх пунктаў старасці. Я прызвычаілася думаць пра твар з пункту гледжання нянавісці да маёй працы, нянавісці, якую даводзіцца хаваць, ад чаго скура асабліва хутка псуецца. Зняць выраз суворай заклапочанасці! Надзець цёплую, шчырую спагаду! Камера пайшла!

Я ПРЫЗВЫЧАІЛАСЯ ДУМАЦЬ ПРА ТВАР З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ НЯНАВІСЦІ ДА МАЁЙ ПРАЦЫ, НЯНАВІСЦІ, ЯКУЮ ДАВОДЗІЦЦА ХАВАЦЬ, АД ЧАГО СКУРА АСАБЛІВА ХУТКА ПСУЕЦЦА

– Ні халеры я не забылася... ээхх... – чуваць, як дырэктарка «Вясны» салодка пацягваецца. – Прыходзь заўтра, выбярэм табе цілівізар. Буду ў абед, паспаць трэба, а яшчэ да сукі Сямённы з’ездзіць, што адсмактала сабе пасаду намесніцы начальніка ўпраўлення, павіншаваць... строгая, дарэчы, цётка, ніяк не ўеду, *чыя*, хто паставіў... горш за ўсё – калі сама дабілася, з такой не дамовішся... Ну і запорхалася ж я, вось ты скажы, калі мне ўсё паспяваць, га?! А гэтага Дона Педрыла пасылай напрасткі ў дупу, – псеўдамост не падмануў маю псеўдарымлянку,

На гадзінніку без пяці поўнач. Ну што ж, можаш павесіць на кручок экіпіроўку, якую Папялушка напінае паводле распараджэння камандавання на свой рэгулярны баль. Прысутнічаць на ім штодзённа і звышурочна – твой святы абавязак перад грамадствам. Вось-вось карэта-*санач*кі знікне ў цемры. Суперцукровыя

ўсмешачкі, складзеныя на шкляной палічцы, за ноч будуць з'едзены рыжымі хатнімі мурашкамі. Не знікне толькі блазенскі каўпак – імітацыя крышталёвага пантофліка: да новага працоўнага дня будзе як новенькі.

Як выцерпець яшчэ месяц да заканчэння кантракта, пытаюся ў свайго адбітку. Адбітак, як заведзена, маўчыць. Узгадваю дыялог з Ярыкам, якому калісьці, вох і даўно ж гэта было, выказала надзею: Шалёны, асядлаўшы наменклатурнага канька, з'едзе ў сталіцу. Тэлеаператар астудзіў мяне пытаннем (а потым і тлумачэннем): «І ты радуешся, о дзева? У Еклезіясце сказана: што было, тое і будзе». Я з калегам тады паспрачалася, а цяпер не стала б.

Кладуся ў халодны ложак. Губка, напітаная цярпеннем, якое ўжо сочыцца праз поры, як сукравіца ў забітага нагамі.

О шчасце, нарэшце я засынаю.

Дзінь.

На мой мабільнік прыйшла sms-ка. Як заўсёды, пустая.

**Сцэнар пазітыўных конкурсаў**

А, каб яго трасца! Залётнік, блін! У шаленстве цісну на кнопку тэлефона, але дарагі доктар, зразумела, «часова недаступны».

Спаць больш не хочацца. Раззлаваная, іду на кухню: папаліць. Раманчык валяецца там, дзе я яго пакінула. Ілжывая шкодная лухта, якая заваблівае чытачак – узрост фертыльнасці падкраўся да іх незаўважна, з-за спіны, працягнуў рукі ды закрыў ім вочы, здагадайцеся, хто гэта? – заваблівае ў схаваную пад сунічнікам воўчую яму. Выкідваю кніжонку ў сметніцу. Усаджваюся ў любімы фатэль, гладжу аўтограф Басі на абіўцы – і адчуваю: на мяне сыходзіць натхненне.

Праз гадзіну мой тэкст гатовы. У ім няма шпітальераў і знатных дам-прастытутак. Мне не давялося дэсанціраваць герояў у эпоху войн за Труну Хрыстовую і прымушаць іх жыць паралельнымі жыццямі. Я ўявіла жанчыну, падобную да мяне – але не такую, якая я цяпер, то-бок не скептычную і цынічную, а закаханую: мо і ў... ну так, так, у Руслана Ігаравіча, доктара, чаму не? З энтузіязмам яна б *несла гару ў падоле*, можа, і ў падоле прынесла б, як жа, «адно дзіця – яшчэ не дзіця». Яна адпусціла б свае пачуцці на ўсе чатыры бакі, і ўсе чатыры дарогі прывялі б да гэтага мужчыны (а маглі б – да новай працы, іншага горада ці краіны... ды не, не маглі б). А Ён, натуральна, уцякаў бы ад Яе па ўсіх чатырох дарогах, толькі пяткі мільгалі б. Жанчына ж не павінна быць ініцыятыўнай, праўда? Гэта ўсё роўна як цэль ганялася б за стралой, выпушчанай з лука сынам банкіра – прама ў гародчык дачкі алігарха, якая яшчэ і гаспадыня добрая. Цэль мусіць сядзець ля акенца святліцы, чакаць прамога пападання. Ну а кагосьці страла, паводле чутак, прывяла да жабкі-лісталаза, якая адна здольная забіць двух сланоў, дык што цяпер – спаліць Чырвоную кнігу ў парку Чалюскінцаў?

Жыццё – штука сумная. Смех павышае болевы парог чуллівай асобы. Калі парог робіцца занадта высокім, чуллівая асоба бярэ сваю скрываўленую сякерку, счэсвае парог, а заадно і пальцы, прычым з адцяжкай.

Пакуль пісала, я жартавала – і *забывалася*. На тое, што заўтра на тэлестудыю. На тое, што я пакуль не знайшла іншай працы. На тое, што так і не пазваніла Марыне.

Мой сцэнар пазітыўных конкурсаў можна выкарыстоўваць для рухавых гульняў у дзіцячых дашкольных установах. Усе помняць такія заняткі: музычны кіраўнік іграе на піяніна, выхавацелькі балакаюць пра курс нацыянальнай валюты, які зноў упаў,

дзеці таксама падаюць, але, у адрозненне ад заробкаў іхніх бацькоў, устаюць, сапуць, штурхаюцца, губляюць чэшкі, падцягваюць гольфы – і бягуць за жаданым прызам, паспяхова *забываючыся*: на суіцыдальныя комплексы, экзістэнцыйныя фрустрацыі ды сацыяльны нігілізм.

### ПАЗІТЫЎНЫЯ КОНКУРСЫ Ў ДЗІЦЯЧЫМ САДКУ «ЯГАДКА»

*(сцэнар рухавых гульняў)*

*Умовы правядзення конкурсаў*

Удзельнікі: Ён (45 гадоў) – каманда «Ні кроку назад»; Яна (42 гады) – каманда «Лебядзіная песня».

Абсталяванне: мяхі для скачкоў да мары, надзіманыя мячы поспеху, каляровая крэйда для нанясення мяжы дазволенага, кольцакід надзей, паветраныя шарыкі ілюзій, ружовыя акуляры для разглядвання адно аднаго, вяроўка слушнасці, гімнастычныя палкі для нанясення ўдараў па самалюбстве, кошык для пераносу «Я»-Дзіцяці суперніка, насоўкі для слёз ад смеху (для гледачоў і чальцоў журы), ласты для склейвання (для ўдзельнікаў – на ўсякі выпадак, з-за ўзросту «дзяцей»).

Назвы конкурсаў: гл. ніжэй.

Музыка: «Вместе весело шагать».

Ацэнка вынікаў: прадузятае журы.

*Конкурс «Скачкі ў мяхах»*

*Удзельнікам выдаюцца мяхі альбо старыя навалачкі. Кожны павінен праскакаць патрэбную дыстанцыю, даганяючы суперніка. Можна ўскладніць заданне, надзеўшы ружовыя акуляры і перакідваючыся мячыкамі намёкаў і пікіровак. Выйграе той, хто хутчэй даскача ў мяху да мэты і ніводнага разу не ўпадзе.*

Яна, ягадка на другі тэрмін (хаця Сінкліт Мудрых кабет і называе для гэтай стадыі спеласці больш позні ўзрост. – *заўвага журы*), тэлефануе Яму лёгкім голасам. Дарэчы, Ён мусіць ацаніць, што птушка такога палёту звярнула ўвагу на Яго, нават не начмеда! Ён па-галубінаму буркуе ў слухаўку. Не пройдзе і тыдня, як галубок сам напросіцца на спатканне, вангуе Яна з некаторым расчараваннем, бо Ёй вядомы сацыяльны стандарт, аднолькавы як для аграгарадкоў і райцэнтраў, так і для мегаполісаў: у гэтай гульні ёсць свае правілы, і наступны ход за мужчынам. Дыстанцыю адно да аднаго яны пройдуць спартовай хадой, то-бок у паскораным тэмпе. Так вырашыла Яна (вырашыла? няўжо? – *заўвага журы*).

Аднак праходзіць тыдзень, другі. Яна зноў тэлефануе Яму, запрашае на каву, намякае на магчымасць развіцця іх адносін у далейшым. Нясмелым мужчынам звычайна падабаецца заахвочвальны тон! Аднак Ён хутчэй напалоханы, чым узрадаваны. Кінутыя Ёю *гарэзлівыя мячык*і зусім не ловіць, і тыя чыгунныя ядры, праляцеўшы над сталом журы, бясслаўна плюскаюцца ў кустоўе.

І вось – нарэшце Ён перасякае праспект Чырвонай рэвалюцыі. Угледзеўшы Яго ў акно, Яна кідаецца на пажарную лесвіцу, каб адтуль, нібыта незнарок, прадэфіліраваць па калідоры ва ўсім хараստве сваёй альтэрнатыўнай рэфармаванай фігуры (джынсы-стрэч, рэчавы рынак). Як быццам бы не Яна толькі што мітусілася па кабінеце, правяраючы, ці памытыя кубкі (і цудам ніводны не разбіўшы) і ці не застаўся на стале аркуш з загадзя напісанымі фразамі, з якіх трэба пачынаць «спантанную, нязмушаную размову». Чаго ты не глядзіш, мужык? Глядзі на мяне, глядзі! Мужык збянтэжана топчацца на месцы. Ну, ясная рэч: ад Яе прыгажосці Ён проста аслупянеў. Каву асмельваецца глынуць, толькі калі Яна адварочваецца. Са здзіўленнем утаропіўшыся на госця,

Яна заўважае новую дэталь: пярсцёнак. Ён надзеў заручальны пярсцёнак, хоць тысячу гадоў як скасаваў шлюб – пра гэта Ёй паведаміла інфармаваная крыніца – і жыве з маці ў двухпакаёўцы, крыніца паказала Ёй дом. І дадала, чамусьці з нядобрай усмешкай: не так даўно замужняя кабета, старэйшая за Яго, стала Ягонай сужыцелькай. І цяпер пахваляецца – крыніца летуценна закаціла вочы – неверагоднымі сэксуальнымі здольнасцямі каханка. Ах, вунь яно што! Адставіць пранырлівую самку, жонка не сцэнка! Тым больш гэта не Ягоная жонка. Аднак што здарылася з мужчынам Яе мары? Замест сэрцаеда перад Ёй апынуўся панылы мараліст. Я б увёў цэнзуру на тэлебачанні, зашмат распусты, – чаўпе Ён. Яна ў шоку; падрыхтаваныя фразы забытыя. Калі Ён рэцірусцца, так і не пакаштаваўшы хронікі дарожна-транспартных здарэнняў – легітымнай прынады, у Яе, за адсутнасцю іншых следчых версій (то-бок жадання іх убачыць. – *заўвага журы*), нараджаецца падазрэнне: Ён вырашыў – Ім *цікавяцца*, хутка Яна данясе свайму куратару, што Ён, маўляў, добранадзейны, раптам пасаду якую прапануюць. Ад злосці Яна ўсё ж разбівае кубак.

А можа, Яго ашаламіла каханне?

*Конкурс «Няўлоўны шарык»*

*Кожнаму ўдзельніку прывязваюць да нагі паветраны шарык мары. Трэба расціснуць чужы шарык, а свой захаваць цэлым.*

Праз тыдзень Яна ідзе па калідоры, трымаючы ў руках імбрык з кіпнем, і раптам бачыць перад кабінетам Яго. Яна зусім не чакала Яго сёння, але, тым не менш, Ён – тут! На Ім чорны касцюм, падобны да рытуальнага, доўгія валасы гладка прычасаныя, радок нагадвае месяцовую дарожку на мармуровым надмагільным помніку. Цяпер гэты пахавальны набор нікуды не ўцякае, наадварот, свідруе Яе жарсным позіркам. Яна бясстрашна адчыняе нагой дзверы ў кабінеты тых, каго даручана жэстачайшэ пакараць, але тут у Яе пачынаюць так дрыжаць калені (і пяткі! чаму менавіта пяткі?!), што Яна ледзь не перакульвае на сябе імбрык. Прычына Яе панікі простая: Ён, каб Яму ліха, з'явіўся без папярэдняга званка, а Яна, калі збіралася на працу, не стала мазаць твар крэмам, які купіла выключна дзеля Яго: навошта расходаваць прыгажосць дарма? Быць прыгожай проста так Ёй зусім не цікава! Цяпер крэм замест таго, каб ззяць на Яе твары, надаючы яму выгляд здаровага і дагледжанага, ляжыць у касметычцы, але ж не станеш пры мужчыну накладваць штучны тон «натурэль» на шчокі ды лоб (каб схаваць сляды свайго старажытнага ўзросту. – *заўвага журы*). У глыбіні душы ўпэўненая ў сваёй непрывабнасці, Яна адчувае вострае жаданне знікнуць з твару нашай планеты. Зачыняе перад Ім кабінет, пакінуўшы ключ унутры (магчыма, у імбрыку). Калі Ёй удаецца пранікнуць у памяшканне, Яна забывае прапанаваць госцю (ён усё яшчэ тут? – *заўвага журы*) гарбаты з ключыкам. Употай Яна чакае ад Яго пафасных прызнанняў, аднак з Ягонага роту не вывальваецца ніводнай лірычнай перліны, Ён іх праглынуў, пакуль стаяў пад дзвярыма. Каб Яна не ўявіла, што Ён прыехаў дабівацца Ейнай ўвагі, у Яго падрыхтавана нагода: у мінулы раз Ён не паспеў пазнаёміцца з падборкай крывавых сюжэтаў, неяк не дабраў іх у сябе на *працы, дык ці не пакажа Яна Яму іх цяпер*?

ЯНА БЯССТРАШНА АДЧЫНЯЕ НАГОЙ ДЗВЕРЫ Ў КАБІНЕТЫ ТЫХ, КАГО ДАРУЧАНА ЖЭСТАЧАЙШЭ ПАКАРАЦЬ

«Я вельмі занятая», – цэдзіць Яна, адвярнуўшы ад Яго свой стары выродлівы твар. У Яго складваецца ўражанне, што Яна адчувае да Яго гідлівасць, і Ён адвітваецца, вельмі грацыёзна.

Яна сядзіць агаломшаная і не можа зразумець, як здарылася, што Яна сама прагнала таго, каго так прадумана спакушала?!

*Конкурс «Кіданне кольцаў»*

*Усе ўдзельнікі дружна кідаюць кольцы надзеі на кольцакід. Можна ўскладніць заданне, выконваючы яго з завязанымі вачыма.*

Назаўтра Яна, не забыўшы нанесці на твар крэм для працяглага ззяння, ляціць на станцыю хуткай дапамогі, нібы ракета ў падзенні, праносіцца дзікім смерчам, пакідаючы на дзясяткі кіламетраў выпалены лес, асмаленую зямлю, кіпень у азёрах. Лядовыя палацы ды машынабудаўнічыя холдынгі, што ад здзіўлення прыпынілі бесперабойную працу. Уласна кажучы, Яна не ведае, як загладзіць учарашняе здарэнне, і ляпеча нешта жудаснае (прытым усведамляючы градацыю жудасці як максімальную): «Нам трэба бліжэй пазнаёміцца!» Ён помсліва інфармуе Яе пра напружанасць свайго рабочага графіка. Прапаноўвае Ёй расслабіцца ля акварыума з залатымі рыбінкамі: акварыум стаіць у фае, Ён часта там адпачывае пасля выклікаў. Яе не цікавяць чужыя псіхарэлаксацыйныя рыбінкі, у Яе ўнутры басейн, населены пачварамі з зубамі-іґламі ды касцянымі плаўнікамі, якія іншым разам – калі ў басейне няма вады – адпраўляюцца спакушаць св. Антонія. Яна патрабуе, каб Ён экстранна і неадкладна прыбыў да Яе на каву. «Я вельмі заняты», – парыруе Ён. Ён мае шмат чаго антыарытмічнага і антыгістамiннага ў куфэрку і можа поўнасцю спыніць вашую кроў, але спачатку адкрые кранік аорты і нацэдзіць сабе цудоўнае возера з чаротам, карасямі ды гумовымі лодкамі, вось дык будзе карпаратыў на прыродзе, яны туды ўсёй зменай выедуць, за выключэннем медсясцёр, якіх на «хуткай» у прынцыпе не бывае!

Ёй даводзіцца паднапружыць звіліны, каб прыдумаць нагоду для рэгулярных сустрэч. Замест балбатні пра гарбату ды каву – серыя відэа- і фотасюжэтаў, якую Ёй неабходна зняць. Нібыта па даручэнні куратаркі «сацыяльнай сферы», для навучальных семінараў. (Дарэчы, даволі праўдападобна: куратарка, у мінулым працатэрапеўт інтэрната для псіхахронікаў, любіць з трыбуны вучыць хірургаў рабіць аперацыі. – *заўвага журы*.) Ён ахвотна згаджаецца Ёй дапамагчы і чытае Ей услых – у мэтах хутчэйшага ўваходжання ў тэму – свой адказ пацыенту-скаржніку на прозвішча Ж.

## ЁН ПОМСЛІВА ІНФАРМУЕ ЯЕ ПРА НАПРУЖАНАСЦЬ СВАЙГО РАБОЧАГА ГРАФІКА. ПРАПАНОЎВАЕ ЁЙ РАССЛАБІЦЦА ЛЯ АКВАРЫУМА З ЗАЛАТЫМІ РЫБІНКАМІ

Дачытаўшы, доўгім позіркам глядзіць на Яе: ці расшыфравала Яна Ягонае пасланне? Яно зусім не ў кампетэнтнасці доктара, а ў пяшчотных-пяшчотных мадуляцыях Ягонага голасу! Пяшчотна-пяшчотна Яму ўсміхаючыся, Яна кажа сабе, што ў іх узросце кожны дзень трэба пражываць, як апошні, дык чаму б, халера, не кінуць гэтыя дзіцячыя гульні, не паехаць да Яе, у Яе ж асобная кватэра. Падобна, Яму, а не Ёй трэба пакідаць ідыёцкія кольцы на кольцакід!

Ці Яна Яго зусім не натхняе? У рэшце рэшт, гэта зняважліва. Цяпер, калі Яна набыла дарагі крэм і новыя строі,

на Яе абарочваюцца зусім маладыя калегі! Што Ён там, дарэчы, вярзе? Высвятляецца, Ён павінен стрымліваць сябе (лепей бы маўчаў), бо ў Яго ёсць недааформленая жонка, немаладая кабета, якая адарвала сябе ад мужа і ўнукаў дзеля дадзенага мужчыны. Законная палова бабулі, дзядуля, цяпер у некамплекце, нарад міліцыі ўжо выбываў на сямейны скандал, але міліцыя дзе села, там і злезла (у РАУС) – доктар першай катэгорыі ведае свае правы! Палова дзядулі, якая цяпер з'яўляецца паловай ужо іншага мужчыны (вось як мы ўмеем!), хуценька зняла пабоі, якія адносяцца да катэгорыі менш цяжкіх цялесных, можа, яшчэ і прыпісала пару сінякоў, у яе ў судмедэкспертызе ўсё праспіртавана. Пабоі ёй нанесла не кінутая ёю палова, а унук, якога ўразіла тое, што ён больш не зможа выклянчваць у бабулі на піва і цыгарэты. На знак пратэсту ўнук абвясціў – міліцыя занесла гэта ў пратакол, – што цяпер ён намераны курыць «траўку» (але гэта ўжо па іншым артыкуле КК). Спакушальніку бабулі не нанеслі ні лёгкіх, ані цяжкіх цялесных, абышлося парваным белым халатам (і цяпер Ён ганарыцца тым, што адбіў даму сэрца ў няроўнай барацьбе). Няхай Ён тэрмінова верне бабулю законнаму мужу, злосна думае Яна, бо вось жа перад табой ЯААААААААА!!! На трынаццаць год маладзейшая за суперніцу і нічыя, без штампа, бяры – не хачу. Не хоча. Няхай адумаецца, інакш унуку свеціць тэрмін за наркотыкі. Ён што думае – Яго за спакушэнне пенсіянеркі змесцяць на раённую Дошку гонару? За вялікі асабісты ўнёсак, так?! Вось калі б здарыўся пажар у доме састарэлых і Ён рэанімаваў іх з дзясятак, тады можна было б хадайнічаць нават аб ганаровай грамаце, Хун бы дакладна падпісаў! Тады Яна запрасіла б Яго ў тэлеперадачу «Учынак дня», але адабраць у беднага хлопца заначку дарагой бабулі – хіба гэта ўчынак?!

Але Ён стаіць побач увесь у мыле, косіць на Яе чорныя маслістыя вочы і кажа, што начарціў вакол сябе кола, каб абараніцца ад фемінных чарцей. Але кажа такім тонам, што і курыцы зразумела: Ён падштурхоўвае Яе да парушэння мяжы кола!

Каб набіць сабе цану, Яна распавядае пра свае знаёмствы і сувязі ў правінцыйным соцыуме. Да вялікіх людзей маленькага гарадка «хуткая» ездзіць рэдка, да іх спускаецца на белым парашуце сам галоўурач, парашут зацыраваны, але і машыны на «хуткай» такія ж. Ён глядзіць на Яе з дагодлівасцю, і Яна квітнее, як абрыкосавае дрэўца пад красавіцкім падманлівым сонцам, аднак Ён выстаўляе перад сабой калючкі сваіх кактусаў, у Ягоным кабінеце яны займаюць усё падвоканне. Я іх не збіраю, нявінна тлумачыць Ён, яны самі сюды прыходзяць. Куды ж ім яшчэ «прыходзіць», вечна натапыраным, саркастычна ўсміхаецца Яна. Ён просіць Яе не дакранацца да кактусаў. Яна згодна ківае, употай шчыпле тоўсты струк, радасна ўскрыквае і працягвае Яму далонь. «Нічога не бачу», – з непрабіўнай добразычлівасцю кажа Ён. Усё ты, гад, бачыш, у шаленстве думае Яна і чароўна Яму пасміхаецца.

Ясна, як ноч: гэты мужчына хоча, каб Яго заваявалі. Ён абуджае ў Ёй інстынкт паляўнічага, а Ёй даводзілася быць толькі ў ролі дзічыны. Ну што ж, Яна згодная паганяцца за сваім шакаладным зайчыкам, перш чым яго з'есці. Вось толькі права на ўласную прагу Яна не мае, Ёй трэба зрабіць так, каб Ён Яе захацеў. Кім давядзецца для гэтага прыкінуцца – скромніцай альбо сцервай? Якая Яна насамрэч, значэння не мае. Прадэманстраваць жарсць і не парушыць карцінку свету ў Ягонай галаве, бо ў адваротным выпадку Ён адхіліць Яе заляцанні, – немагчымая задача! І, д'ябал, як правільна заляцацца да мужчыны?! Ці не падарыць Яму кактус? А раптам Ён палічыць іголкі

дрэннай прыкметай? Замест кактуса Яна ўручае Яму юбілейны набор рэвалюцыянера: асадку, нататнік, бірульку, нож, пісталет, бранявік – усё з лагатыпам роднага тэлеканала. «Асадка і нататнік – падарункі карысныя, – важна зазначае Ён. – А вось сувеніры не магу прыняць: я і так зашмат сабе дазваляю». Яна губляе над сабой кантроль і з кашэчым пагрозлівым завываннем цікавіцца, што менавіта Ён сабе з Ёю дазваляе, *хацела б я ведаць*, але Ён, сеўшы ў браневічок, які Яна своечасова падкаціла, манёўрана пераводзіць гутарку на іншую тэму.

Ну і ну! Яна заўсёды лічыла, што мужчына можа дазволіць сабе ўсё – у межах здаровай пачуццёвасці, вядома. Трэба разумець: Ён ідзе на ўступкі сваім ідэалам, нават прымаючы ад Яе падарункі, бо сам нічога Ёй не дорыць (пяць балаў за ўпартасць і завязаныя вочы, мінус дзесяць балаў за тое, што ніводнага разу не трапіла ў цэль. – *заўвага журы*). Бадай, какецтвам тут не пахне, узрушана думае Яна. Пахне, бадай, чабурэкамі з сэрца, ныркамі ў мундзірах, крывавым мусам, усе інгрэдыенты – з Яе. Ён чароўна несапсаваны, мужчына (*заўвага журы: не для друку*). Чыстая істота. Верагодна, апошняя ў свеце сурагатнай гарэлкі, бескафеінавай кавы, соевых біфштэксаў. Шпітальер святога Іаана. У Яго сэрца проста глыбей знаходзіцца, чым у іншых, раптам здагадваецца Яна, – цудоўнае азарэнне №1 (можа, у раёне страўніка? – *заўвага журы*). Ёй якраз і падабаецца ў Ім тое, што Ён не падобны да іншых. Шчыра кажучы, цяжкасць пастаўленай задачы Яе распальвае яшчэ больш!

*Конкурс «Мяжа дазволенага»*

*Удзельніца спрабуе перасячы намаляваную каляровай крэйдай мяжу дазволенага. Удзельнік ёй перашкаджае і адначасова заахвочвае да працягу.*

На сумленным злодзеі шапка гарыць: пастаяў перад вітрынай, праглынуў сліну і пайшоў прэч, але па начах яшчэ доўга прачынаецца ад страху, што Яго хтосьці ля той вітрыны заўважыў, іранізуе Яна на адрас мужчыны, з якім цвёрда вырашыла заняцца сэксам. Мужчына ж не можа не хацець сэксу, хіба не так? Тым больш – чыйсьці жарсны палюбоўнік!

Зноў звярнуўшыся да інфармаванай крыніцы, Яна высветліла: галоўурач мае на кабінет медархіва ўласныя планы, якія ідуць пад кароценькі халацік адной маладой доктаркі: менавіта ёй плануецца перадаць памяшканне. Планы, якія выношвае Яна, вядуць пад халат доктара (іх не так многа – шляхоў, па якіх ходзяць жывыя, а мёртвыя ў архіўных тэчках адпраўляюцца ў сутарэнні). Для Яе важна, каб кабінет застаўся за Ім (бо дзе ж ім сустракацца?), але галоўурач уласную маліну, ясная рэч, без барацьбы не саступіць. Яна абяцае Яму падтрымку: тэлевядоўцы ў маленькім гарадку адкрыты вялікія дзверы. Аднак Яго фотапартрэты, якія Яна спрытна перад Ім тасуе (іх можна прыкладаць да язваў, нібы рэпрадукцыі святога Шарбеля. – *заўвага журы*), выклікаюць у Ім гнеў інквізітара, што ва ўласным адбітку ўбачыў д'ябла. Ён патрабуе ад Яе глядзець на Яго вачыма пабочнай асобы, чаго дадзеная жанчына зрабіць якраз і не можа, інакш даўно задумалася б, чаму Яна дагэтуль тут. Ён сарамліва, па-юнацку апускае вочы, і Яна задаецца пытаннем, ці няма ў Яе латэнтнай эфебафіліі.

Такія мужчыны Ёй раней не сустракаліся, дакладна. Яна не можа паверыць, што Ён гэта ўсё ўсур'ёз. Можа, Ён маньяк і стрымлівае сябе, і пасля ночы кахання Яна будзе знойдзена ва ўласным ложку толькі часткова: Ейныя вантробы будуць працалюбіва паразвешваны на польскай жырандолі

святочнымі гірляндамі, тады Ёй дакладна не давядзецца выходзіць на працу. Каб утрымаць Яе на адлегласці і пры тым не дазволіць Ёй сысці, Ён выкручваецца, як чарвяк у баразне, але дарэмна: ніводная жанчына не ў стане адпусціць тое, чаго ў яе няма. Ненадкушаная магчымасць – зляжалы сухафрукт (тэрмін захоўвання – вечнасць!), супраць якога і цяпер не можа ўстаяць ніводная з еваў.

Калісьці Ён здаваўся Ёй такім дасупным – вы хацелі сказаць: даступным? Не і не, мы хацелі сказаць менавіта тое, што сказалі: яшчэ да сямейнага супу (якога яны не зварацць, бо Ён жыве

БАДАЙ, КАКЕЦТВАМ ТУТ НЕ ПАХНЕ, УЗРУШАНА ДУМАЕ ЯНА. ПАХНЕ, БАДАЙ, ЧАБУРЭКАМІ З СЭРЦА, НЫРКАМІ Ў МУНДЗІРАХ, КРЫВАВЫМ МУСАМ

з іншай) мужчына быў гатовы галівудзіста кінуць сваё пругкае цела куды заўгодна, не абавязкова ў ложак. «Можна і ў ліфце», – летуценна ўздыхае Яна (ага, пакуль падымаюцца да пацыента на чарговую фотасесію. – *заўвага расзлаванага журы*). У прынцыпе, усе мужчыны дасупныя, але гендарныя ролі, як сведчаць СМІ, мяняюцца. Ён абраў асаблівую тактыку і да шлюбу не бярэ, але ж яны не плануюць жаніцца!

Праходзіць шмат часу, перш чым з Ёй здараецца цудоўнае азарэнне №2: Яму можна паспачуваць – сустрэў сваю мару і ад хвалявання згубіў грошы, ключы, мужчынскі гонар. Яна адчувае да Яго шкадаванне – і жаданне даказаць: Яе не варта баяцца. Іншых – так, Яе – ніколі! Яна клапатліва, за ўспацелую ручку перавядзе Яго цераз дарогу, Яна ператворыць сваё сэрца ў святлафор. Імаверна, раней Яму трапляліся адны сцервы, Яна выправіць абдрукоўкі іншых жанчын, Яна ўручную перапраціць увесь наклад! Няхай Ён толькі асмеліцца зрабіць да Яе крок, усяго адзін, гэта абавязкова, тады Яна пакажа Яму, якім шчасцем можа быць блізкасць паміж людзьмі, якія разумеюць адно аднаго. Як яны, напрыклад. Пакуль што ягня, якое Яна спрабуе прывабіць перапоўненым выменем пяшчоты, упіраецца ўсімі капыткамі, пры тым жаласна бляе ад голаду і кліча мамку. Нічога, разам з Ёй гэты дамскі доктар яшчэ адчуе смак – за вушы не адцягнеш!

Але замест жарсных любошчаў Яе ператвараюць у мячык для пінгпонга: варта Ёй наблізіцца да мяжы дазволенага, як дзіўны мужчына адшпурвае снарад і тут жа мчыцца на супрацьлеглы бок поля, каб новым ударам ракеткі вярнуць мячык на месца. Цяжка ўздыхае. Шматзначна глядзіць на Яе. Але варта Ёй пагрэбаваць методыкай рэанмацыі тапельцаў, якую Ён важна тлумачыць, і паспытаць босай нагой ваду ля *іншага* берага (як заўжды, халодная!), як ментар пагрозліва стукае ўказкай па парце: давайце накладзём табу на гэтую тэму! Палінезійскае слоўка не сыходзіць у Яго з языка!

«Мужчына і жанчына падобныя да магнітаў, – шэпча Ён і апускае вочы, ах, праклятыя! – Калі дазволіць ім падысці адно да аднаго занадта блізка, можна страціць кантроль над сітуацыяй!» Яна прагне пасласць да д'ябла ўсякі кантроль, але не можа перайсці сваю мяжу дазволенага: жанчыне належыць дабівацца мужчыны чырвонай бялізнай, лёгкім голасам, лёгкім дыханнем. А, яшчэ крэмам ад зморшчынаў, ледзь не забылася.

*Конкурс «Кіднепінг»*

*Удзельніца робіць падманныя рухі мячом поспеху, а потым кідае мяч у бок, супрацьлеглы таму, куды гатовы рынуцца супернік. Пакуль падманнуты імчыцца за мячом, удзельніца выкрадае і таемна пераносіць яго «Я»-Дзіцёнка ў патрэбнае месца.*

Пуцяводнай зоркай гарыць перад Ёй павучальная гісторыя адной падкаванай на папулярнай псіхапаталогіі Папялушкі, якая насмерць (то-бок да штампа ў пашпарце) зачаравала свайго прынца, нават не экіпіраваная феяй, што своечасова падаспела (калі не лічыць феяй Стыва Харві). На балі тая прасцячка, у адрозненне ад фанабэрыстых паненак, увесь вечар нашэптвала кавалеру, які ён неверагодна-грандыёзна-грацыёзны, ну існы Індра – валадар маланак, чым умела адцягвала ягоную ўвагу ад свайго непрэзентабельнага ўбора (шлюб стаў незапланаваным эфектам нашэптванняў). За тысячагоддзі рабства жанчыны выпрацавалі сваю патаемную зброю супраць мужчын – ліслівасць. Няма такой раскідзістай туфты, агучанай захопленым галаском паклонніцы, у якую тыя б не паверылі. Пры гэтым – супервАжна! – глядзіце на яго так, як дзіцёнак шматдзетнай алкагалічкі на калядны торт у вітрыне. Калі б Яна мела на мэце запісаць для нашчадкаў сваё высокае ўтапічнае трызненне, дык здолела б зрабіць гэта дзе заўгодна: стоячы ля канторкі, як «неіставый Вісарыён», лежачы ў ванне, як Марат, седзячы на пні, як Правадыр. У выніку намаганняў Яе падсцёбнутага аксітацынам уяўлення Ён ператвараецца ў нерухомую, недасягальную дасканаласць. Ён – Гіпакрат і Джузэпэ Маскаці, усё ў адным з керамідамі.

КАЛІ Б ЯНА МЕЛА НА МЭЦЕ ЗАПІСАЦЬ ДЛЯ НАШЧАДКАЎ СВАЁ ВЫСОКАЕ ЎТАПІЧНАЕ ТРЫЗНЕННЕ, ДЫК ЗДОЛЕЛА Б ЗРАБІЦЬ ГЭТА ДЗЕ ЗАЎГОДНА

Ах, калі б Ён толькі мог бачыць сябе Яе вачыма – дарэчы, гэта небяспечна, адзін вось так глядзеў-глядзеў у ваду, ды і каменем уніз, выратавальная станцыя на іншым беразе знаходзілася, не паспелі. Любы факт Яна здолее павярнуць на Ягоную карысць – дарма Яна, ці што, тэлевядоўца са стажам?

Люстэрка, у адрозненне ад калег і начальства, заўсёды прымае нас усур’ёз. Стаць Ягоным люстэркам – не бясстрасным, а чароўным, дзе Ён здолее ўбачыць свой галоўны раздзьмуты орган – себялюбства (а вы пра што падумалі? гэта ж сцэнар для дзяцей! – заўвага журы). Стаць капішчам, дзе Ён – адзіны ідал. Вось чаго дабіваецца Яна. Толькі Яна здольная разглядзець вартасці дадзенага мужчыны і пераканаць Яго ў тым, што астатнія жанчыны – з таварыства інвалідаў па зроку.

Але ў выніку – нуль.

Ды хто Ён такі, гэты рыбак?! Браканьер альбо зіц-старшыня рыбнагляду? Стрыгся б тады вожыкам, калі такі непахісны! На «Набор юнай рыбачкі» Яна даўно не спадзяецца, хоць і старанна саскрэбла з яго ржу вялікім манікюрным напільнікам. Галоўная Яе зброя, як Яна лічыць, – Яе аўтарытэт, знаёмствы і сувязі. Усім гэтым Яна, вядома, пагарджае і днямі хацела ўтылізаваць (паасобна, у строга падпісаныя смеццевыя кантэйнеры), але з’явіўся Ён, і ўсё спатрэбілася, так-так, не спяшайцеся выкідваць старыя рэчы. На жаль, Яна ўмее толькі лавіць рыбку ў каламутнай вадзе тэлеэфіру ды падчэпліваць на кручок дагодлівасці сваіх начальнікаў, якія даўно падчапілі Яе на кручок залежнасці (не, не прасіце журы ўявіць гэтую рыбалку, а то мне зробіцца блага, давядзецца тэлефанаваць «103», прыедзе той самы доктар, а я тут пра Яго

дзіцячы сцэнар пішу, ды Ён жа мне такое ўколе, што дзеткі ніколі не даведаюцца, чыя каманда перамагла).

*Конкурс «Скокі на вяроўцы»*

*Скача выключна каманда «Лебядзіная песня». Каманда «Ні кроку назад», скрыжаваўшы на грудзях рукі, назірае за працэсам. Удзельнікі месцамі не мяняюцца. Атракцыён выконваецца без страхоўкі.*

У праграме: спробы даказаць, што Яна не такая, а зусім іншая, але як дакажаш, калі лекар сядзіць, папівае каву, чысціць-змазвае свой механізм задушэння сэксуальнай цягі і ні за што не згаджаецца прызнаць сябе хворым; віспяткі самой сабе (не кожная здолее!) за памылкі ў абыходжанні з гэтым цудоўным мужчынам – *памятай, спакушэнне – мастацтва! лёгкае дыханне, лёгкае віно*! – мужчынам, які не чытаў пра *лёгкае дыханне*, не разумее лёгкага віна (у прыбіральні станцыі СНМД у асноўным пустыя бутэлькі з-пад мацаванага) і ўвесь час імкнецца апусціць Яе светлы вобраз ва ўласціваe Ёй бруднае становішча разведзенай жанчыны: пачынае размаўляць холадна і з'едліва пры згадванні Ёю любой асобы мужчынскага полу, так што Ёй даводзіцца наўмысна брыдка адзывацца аб іншых мужчынах, асабліва аб лекарах, у адносінах да калег Ён чамусьці дужа раўнівы і крыўдлівы, Яна не можа ўзгадаць, каб Ён хаця б пра каго-небудзь сказаў добрае слоўца, затое Яна падарыла Яму шмат карункавай лісліваcці ручной работы, а Ён не падаў Ёй на беднасць і запляснелага камплімента; піяр-акцыі ды акцыі па прыцягненні ўвагі грамадскасці да Ягонай непасільнай працы – калі на прамы эфір з галоўурачом патэлефанаваў Яраслаў, загадзя Ёю праінструктаваны, і вельмі натуральна (яшчэ б!) прыкідваўся п'яным, скардзіўся, што «хуткая» адмаўляецца ехаць яго адкачваць і як гэта яму на свае кроўныя, бля, ужо і не выпіць, галоўурач ажно пачырванеў ад абурэння, пачаў спрачацца, што было тактычнай памылкай, Ярык ужыўся ў ролю і дастаўляў знатна, тэлегледачы пэўна атрымалі задавальненне, чаго нельга сказаць пра галоўурача, – зрэшты, як і пра Яе скарб і цуд: Ён слухаў запісаны Ёю для Яго на дыктафон дыялог нават без усмешкі, дарэчы, гэта была яшчэ адна зачэпка, каб з'явіцца да Яго ўночы, не самая ўдалая, тым больш, што давялося насамрэч купляць тэлеаператару за клопат бутэльку «Чорнага доктара», які яго маладзенькая сяброўка, як высветлілася, проста абажае; строі, якія Яна выбірала тым больш нервова, чым больш вузкім рабіўся зазор, дзе Яна мітусілася паміж *спакушэннем як мастацтвам* і роллю фрыгіднага сухарыка, роллю, якая натуральна выцякала з Ягоных ненатуральных патрабаванняў да Яе «паводзіць сябе прыстойна» – выцякаць выцякала, але Яго зусім не ўзбуджала, што цалкам натуральна, таму амплітуда Ейных хістанняў мусіла непазбежна прывесці да самаўзгарання ўсіх Яе жаночых высокадакладных прыбораў, чаго Ён, здавалася, толькі й дабіваўся; канспекты размоў з Ім, якія Яна пісала, рвала, зноў пісала, нат падпіску афарміла на «Медыцынскі веснік», цяпер было нашмат лягчэй вяшчаць пра інфекцыйна-алергічны міякардыт, Яна ненавязліва паказвала, што жыве выключна Ягонымі інтарэсамі, але варта было ўбачыць Яго твар, як усе сцэнары распаўзаліся намоклымі газетамі, а Яна вярзла знямелым ад замілавання языком што-небудзь экстрасісталічнае.

*Конкурс «Даганялкі»*

*Удзельніца з завязанымі вачыма спрабуе злавіць суперніка, які спрытна ўхіляецца і падстаўляе ёй падножкі.*

Яна гарбее над даведнікамі, каб высветліць, ці не асэксуал гэты доктар, а Ён балбоча пра старога сябра, палкоўніка, сувязь з якім даўно згубіў, затое, на шчасце, знайшоў Яе, каб давяраць Ёй вайну-і-мір сваіх гісторый; Яна спявае Яму *ваенныя песні* пра сімволіку старажытных містэрый, пра Дрэва Жыцця, чыя крона, мужчынскі сімвал, заўсёды ўзнятая дагары, – а Ягонае «дрэва жыцця» пры Ёй нагадвае сасёнку, што ў лесе, вой, напалам зламаная, люлі, люлі, напалам зламаная; Яна апантана штудзіруе рубрыку «Дапамажы сабе сама» ў жаночых часопісах – а Ён перажывае жах першапачатковай траўмы нараджэння, бо менавіта гэта – Яна вычытала! – адчуваюць мужчыны, калі іх моцна кахаюць, і, каб не траўмавацца, абмяркоўвае з Ёй выключна экалогію і спакойную старасць; Яна ўцякае ад таго, хто за Ёй не гоніцца, з робленым зазыўным рогатам, а пры святле Месяца «дапамагае сабе сама» мастурбацыяй, каб суняць жаданне, што замыкае на сабе ўвесь Яе сонечны публічны арганізм, – а Ён адЁй з тэрмаса каньяку, які Яна, прыняўшы за гарбату, выпівае адным размашыстым глытком, чым Ён потым доўга Яе папракае; Яна скардзіцца на Яго экспертам па мужчынскай сэксуальнасці Яраславу і Мінерве, чуе ад першага, што вінаваты Яе старажытны ўзрост, ад другой – што не, але верыць першаму, бо калі ўжо давяраць чужым меркаванням больш, чым уласнаму, дык з двух супрацьлеглых трэба абавязкова выбраць тое, якое спрыяе тваёй пагардзе да сябе, – а Ён выпісвае Ёй рэцэпт на таблеткі снатворнага: калі прыняць іх у патрэбнай колькасці (усе адразу), вылечышся ад усяго і назаўжды.

*Конкурс «Хто хутчэй дабярэцца ў дзіцячы садок?»*

*Першы ўдзельнік скача на мячы, другі на скакалцы. Ускладняючы заданне, па дарозе яны спаборнічаюць у перацягванні вяроўкі слушнасці ды гімнастычнымі палкамі наносяць удары па самалюбстве адно аднаго.*

## ЯНА СКАРДЗІЦЦА ПРЫЯЦЕЛЬЦЫ-САБАКАРЦЫ НА ЯГОНУЮ АМБІВАЛЕНТНАСЦЬ, А ТАЯ СУЦЯШАЕ: НУ І ПАДУМАЕШ, НЕ ТРАХНУЎ, Я ВОСЬ СЁННЯ НАСІЛА ЛОРДЗІКА ДА ВЕТЭРЫНАРА

працоўвае тэхніку дыхання рот-у-рот на манекене мужчынскага полу, якога прывалок у кабінет; Яна скардзіцца прыяцельцы-сабакарцы на Ягоную *амбівалентнасць*, а тая суцяшае: ну і падумаеш, не трахнуў, я вось сёння насіла Лордзіка да ветэрынара, зуб у сабакі вырваць – вось гэта, я табе скажу, праблема! а як Лордзік на мяне глядзеў! якімі вачыма! – і прадказальна рэкамендуе Ёй завесці сабаку, – а Ён запрашае Яе на вучэнні па грамадзянскай абароне, дзе за Ёй са свежым сабачым спрытам прыўдарае пажарны чын, бадзёра налівае

Выключна з-за правалу ўсіх папярэдніх акцый Яна запрашае Яго да сябе дамоў «адрамантаваць камп'ютар» (Ён пахваліўся, што разбіраецца ў электроніцы). Ён ахвотна згаджаецца. Яна бадзяецца па парку ашалелая, натыкаецца на дрэвы і ліхтарныя слупы («Як высветлілася, усё так проста!»). Каханне ў сорак два – генеральная ўборка душы перад апошнім холадам і адзінотай, перад зімой, калі не гандлююць больш салодкай ватай ля кожнай лаўкі (на лаўкі Яна таксама натыкаецца). Жыццё на развітанне дало сябе яшчэ раз памацаць,

прыпасці да яго мокрай ад слёз правай шчакой. Падстаўляйце адразу ж і левую, бо каханне ў сорак два – па сутнасці, страшная рэч: калі вас растопчуць і выкінуць, шанцу адыграцца ўжо не будзе. Каханне ў сорак два – гэта яшчэ і генеральная ўборка кватэры з чысткай усіх яе вертыкаляў і гарызанталяў (Яна драіць сантэхніку, выцірае пыл з польскай жырандолі); генеральная ўборка ўласнага цела з чысткай усіх ягоных пласкагор'яў і ўзвышшаў. Камп'ютар, які насамрэч патрабуе рамонту, стаіць у спальні, і Яна, «каб Ён нічога не падумаў» (пяць балаў! – *заўвага журы*), перацягвае аргтэхніку ў залу, хаця Ёй забаронена падымаць больш за тры кіло (хранічнае захворванне ныркі). Назаўтра Ён тэлефануе Ёй брыдкім голасам і абвяшчае, што не прыйдзе, бо *да такіх жанчын дамоў не ходзіць*. Вось дык аплявуха грамадскаму густу! Яе, тэлевядоўцу, якая рачкуе на роўных з мужыкамі, утрымлівае сябе і сына, толькі што фактычна абазвалі самадайкай – правільна, за тое, што захацела сама выбраць сабе партнёра для інтыму («Тыжбаба, табе ніззззя! Шлюхай назваў? Нічо, у тваім узросце гэта камплімент!» – суцешыў «добры» Ярык). Відавочна: Яе актыўнасць, дрэнна завуаліраваная – тэлевядоўца з чырвоным вуаляхвостам у пятліцы! – дашчэнту запалохала беднага мужчыну. «Якіх *такіх жанчын*?!! Вы мяне няправільна зразумелі!!!» – «Я вас правільна зразумеў!» – адказвае хранічна беглы ёлупень, растаптаўшы ўсе сімвалічныя правілы флірту. Яна ў шаленстве кідае слухаўку, пакляўшыся сабе, што больш ніколі – вы чуеце, ніколі! – не стане размаўляць з гэтым клінічным тыпам. Пасля чаго – роўна праз пяць хвілін – Яму перазваньвае. Ён «у якасці кампенсацыі» (дзесяць балаў! – *заўвага журы*) прапаноўвае Ёй правесці ноч з Ім на дзяжурстве. Яна крытычна выказваецца пра хуткую дапамогу як рэзервнае фарміраванне медыцыны катастроф, раз'юшана кідае слухаўку (ні бала гэтым не зарабіўшы. – *заўвага журы*). Зацягвае камп'ютар назад у спальню. Купляе ў аптэцы ырачны збор. Рушыць на станцыю хуткай дапамогі.

*Пакуль журы падлічвае балы, з дзецьмі арганізуецца рытмічны танец «Восеньская ламбада». Вядома, перамагло сяброўства. Пад фанаграму песні «Пляскайце ў далоні» ўручаюцца прызы.*

# ЗМІЦЕР ВІШНЁЎ

## КАЛІ ПРЫГЛЕДЗЕЦЦА – МАРС СІНІ

*Гэта канец свету, і ўсе з'язджаюць з глузду,*
*альбо Цьмяная гісторыя пра беларускую шараговую кнігарню*

**Дагары нагамі**

Пашча разявілася, і туды запоўз цягнік.

Грукаталі колы і зубы, і было адчуванне, што знаходзішся на нейкім сталеліцейным заводзе.

Крывы са свістам выдыхнуў і здолеў устаяць на нагах, хаця яго так і цягнула да зямлі, нібыта магнітам. «Праклятая гарэлка», – працадзіў скрозь зубы Крывы.

– Зімой цюлені прымярзаюць да колаў аўтамабіляў, – сказаў Гарыныч.

– Гарыныч, – сказаў я. – Мне здаецца, што твой нос на марозе прымёрз да рыльца бутэлькі. Яшчэ трошкі – і сапраўды ў бутэльцы будуць плюхацца цюлені.

– Я – тваё сумленне! – раптоўна зароў Гарыныч і моцна ўчапіўся ў мяне. Здавалася, што ён хоча вытрасці з мяне словы прабачэння.

– Я сам сусам! – адказаў я. – Яшчэ ўчора я быў перакананы, што мне жывецца горш за гномаў! Цяпер я ўпэўнены, што я абраны герой! Мой лоб – ціхая гавань для караблёў!

– Я ем свой хлеб не дарма! – праравеў Гарыныч і з усяе моцы штурхануў мяне.

Я не ўтрымаўся на нагах і паваліўся на бетонныя пліты.

Крывы п'яна зарагатаў.

– Вы – дурні! – крычаў ён. – Я самы сумленны баклажан на свеце!

– Вы тут што, траўкай забаўляецеся? – раптам перапытаў невядомы барадач. Ад барадача падымалася пара, нібыта ён выслізнуў з парыльні. Ягоны чырвоны твар перасякалі жоўтыя шнары. Ён нечым нагадваў чалавека з іншай планеты.

– Вы, пэўна, іншапланетнік, – сказаў я і паспрабаваў устаць. Ногі ледзь слухаліся.

Міма пракатаў трамвай.

Невядомы нават не ўсміхнуўся і паведаміў:

– Усіх вас.

– У сэнсе? – не зразумеў я.

– І не шкадуючы, – дадаў невядомы.

Крывому гэты дыялог не спадабаўся:

– Валі адсюль, дзядзя, – упэўнена пажадаў Крывы.

– Я люблю футбольныя гульні, – падключыўся Гарыныч.

– Думаю, што сябры маюць рацыю. Валі адсюль, барадач. Мы цябе не ведаем, і нам не падабаюцца таемныя пажаданні.

– Ніякіх таемнасцяў. На свеце скончылася свята. Цяпер толькі адрыжкі і сумныя пацалункі на развітанне. Верыш не верыш, але мусіш жыць па законах гэтай тэрыторыі. Мы – першыя.

– Ы-ы-ы-ы-ы!!! – зароў раззлаваны Гарыныч. – Я магу балюча ўдарыць!

– Я і кажу, сонца закацілася на захад. Выратавання няма. Гучыць гонг лёсу. Грып скасіў сёлета лепшых. Мы паміраем.

– Прыбярыце гэта ідыёта! – заляментаваў Крывы. – Я зараз яго прыдушу!

– Здохла, – адказаў барадач. – Здохла. І выплюнула. Засохла. Ляжыць непрыкметна і смярдзіць. Немагчыма трываць.

Мы, не згаворваючыся, кінуліся на барадача. Крывы ўчапіўся ў бараду, Гарыныч – у валасы, я – за куртку.

Хрып, крык, слёзы і пляўкі.

І раптам барадач паведамляе:

– Я – за восень!

Мы аслупянелі і выпусцілі дзіўнага барадача. Нібыта экзатычную рыбіну. А ён гэтага толькі і чакаў. Фыррр! І хутчэй ад нас да трамвайных рэек. І – хлоп! Заскочыў у нару трамвая. І махае нам адтуль жоўтай далоннюплаўніком. Сядзіць за шклом быццам не барадач, а ягоны прывід. І гэты прывід махае рукой. І паказвае нам непрыстойныя жэсты. Ах ты, сволач!

НА СВЕЦЕ СКОНЧЫЛАСЯ СВЯТА. ЦЯПЕР ТОЛЬКІ АДРЫЖКІ І СУМНЫЯ ПАЦАЛУНКІ НА РАЗВІТАННЕ

Трамвай паведаміў:

– Учора падаражэў праезд! Зайцаў ловім на салодкае і потым пускаем на каўбасу! Так што не жартуйце са мной, хлопчыкі!

Калі ў гэтай краіне напаткае цябе шчасце? Ніколі! Дык мо хоць некалі? Не-а, і не спадзявайся. Паглядзі, паглядзі, расшпілі фіранкі, высуні нос за дзверы кватэры! Магчыма, нешта і здарыцца станоўчае. Пустая бутэлька праляціць над галавой і цябе, так і быць, не зачэпіць. Мент, нібыта пералётная птушка, таксама праляціць над галавой і нешта пракурлыкае і памахае добразычліва агромністай рукой. Галоўнае своечасова адпаўзці, вывернуцца. Каб цябе не аглушылі і не зачапілі. Не дай божа – не ўзнагародзілі дзяржаўнай прэміяй!.. Па прыступках, па прыступках – выпаўзці змяюкай на паветра, агледзецца і хутчэй да мяжы!.. Да мяжы нашай з вамі свядомасці. Дзе няма гэтай рэчаіснасці. Так-так. Туды, дзе гэты дзікабраз не тыркаецца сваімі голкамі і не нюхае вашы кеды.

* * *

Я паглядзеў фільм «Любоў і нянавісць у Лас-Вегасе». І задумаўся пра сваё жыццё.

Выпіў. Тады на наступны дзень ты абавязаны напісаць некалькі старонак тэксту. А калі гэтага не зрабіў, значыць не апраўдаў давер. Мне складана ўявіць пісьменніка цвярознікам. Нейкі ён не сапраўдны тады. Быццам ненатуральны. Сумнае жыццё і сумныя кнігі. Жыць трэба напоўніцу і пісаць гэтаксама. Гэта не аксіёма правільнасці, не дай божа, але тым не менш.

– Дык мо наогул пасадзіць цябе ў бутэльку? Сядзі там і булькай. Мне часам здаецца, што ў цябе замест крыві плёскаецца каньяк. Твае недасканалыя формулы – усяго толькі няўдалае апраўданне сваіх учынкаў.

* * *

Калі я напіваюся, я раблю неверагодныя рэчы. Мяне не пазнаць.

Па-першае, я выцягваю з шафы агромністую валізу і хаваю туды галаву капітана Барады. Далей я выбягаю з дома, бяру таксоўку і еду ў казіно. Па дарозе я яшчэ даганяюся каньяком. Я магу і не даехаць. У кожнага пакалення ёсць свае культавыя месцы. Да такіх месцаў прыглядаюся і я. Так можна заруліць і на Зыбіцкую і спусціцца ў нетры бара «Дно».

Але спачатку пра казіно. Вы ўяўляеце, як я сядаю граць у рулетку? Бо пад сталом ляжыць валіза з галавой Барады. І адбываецца наступны дыялог:

– Ну што, колькі паставім на суседзяў?

– Анічога не паставім! Дапівай свой каньяк, даядай цытрыны і валі дахаты! Да жонкі! Да дзіцяці! Валі, кажу! Усё роўна ты банкрут. Яшчэ некалькі ставак – і ты ў пралёце!

– А ты такі-разгэтакі спецыяліст дзяўбаны. Куды ж ты падзеў сваё цела, недароблены?

Валіза пачынае падскокваць і нецэнзурна лаяцца. Круп’е падазрона на мяне паглядае. Я б’ю нагой па валізцы.

– Калі ты зараз не супакоішся, я цябе з капустай замарыную, – абяцаю я.

ЧАСТКА НУЛЯВАЯ, ЯКАЯ ВЫТЫРКНУЛАСЯ З БОТА П’ЯНАГА ШПІЁНА

– Лашара, ты ж затэрыразаваў жыхароў гэтага дома!

– Стараюся! Гы-гы.

Я ўсміхнуўся. Потым прыбраў з твару ўсмешку і схаваў у кішэні. Дзень быў пахмурны. Не доўга думаючы, я адкруціў і пару пальцаў, потым ногі і папоўз да шафы. Забраўся ў яе. І з палёгкай уздыхнуў. Дробнагабарытны. Заснуў.

Сон накаціўся. Нібыта шторм. Ён чакаў мяне, гэты сон. П’яны і цяжкі. Здавалася, што я ў сюррэалістычным сіропе. Цікава, як можа выглядаць сюррэалістычны сіроп? Неба было цьмяным, амаль чорным. У вялікіх навальнічных хмарах. Гмахі нахіляліся над галавой, валіліся. І здавалася, што жыццё беспрасветнае. Я пачаў разважаць пра каштоўнасці. І тут жа сябе спыніў. Ну якія могуць быць у мяне каштоўнасці? Нават смешна. Мая каштоўнасць – гэта бясконцая дарога, якая зліваецца са змрочным небам. Гмахі і бетонныя пірагі гарманіруюць з маім светаўспрыманнем.

паміж радкамі, запісанымі падчас кашлю лектара, я вылоўліваў птушак, якія хаваліся ў каве. Даводзілася браць лыжку і бразгаць у кубачку. Птушкі, нібыта мініяцюрныя цюлені, выскоквалі ў суседскі кубачак, дзе плюхаліся, фыркалі і палохалі калег. Па стале качаўся бублік. Зрэшты, зрэдчас адпіваючы кавы, ты разумеў, што не ўсе птушкі паспелі збегчы, бо яны казыталі горла, пішчалі і, верагодна, патрабавалі свабоды. Адрыгваючы, ты прызнаваўся ў тым, што паглынальнік музыкі, і дэманстраваў пуза, якое гудзела, нібы вулей, бо там, апроч кавы і птушак, магчыма, былі і жабкі, саранча і пэўна шмат якія інсекты…

цягнік грукоча і хочацца спаць, але нельга.

– Ты ўжо мусіш піць гарбату, – сказаў праваднік. Выглядаў праваднік на капыл цацачнага салдаціка, выплаўленага з волава. І ён быў з адной нагой. Неверагодна! Першы раз у жыцці мне сустрэўся праваднік без нагі! Але што гэта быў за праваднік?!! Ён круціўся ваўчком. Быў нейкім гнуткім і ўчэпістым, нібыта малпа. Здавалася, што гэтаму чалавеку хапіла б і адной рукі – настолькі ён быў рухавым і спрытным. Было і нешта яшчэ, што ўражвала пры поглядзе на праваднікa. На ягоным твары трое ў фуфайках пілі гарэлку і гралі на гармоніку.

Прычым тут жа яшчэ двое ў піжамах пілавалі дровы. А яшчэ побач тлустая баба гатавала яечню. Калі пачало падгараць… я не вытрымаў і паспрабаваў спыніць гэтую жыццёвую какафонію:

– Гарыць! – залямантаваў я. – Гані гэтых сябрукоў прэч!

– На заводзе людзі плавяць руду, – адказаў праваднік. – А вы тут п'яце гарбату і робіце недарэчныя заўвагі!

У гарбаце варушыўся руды мураш, і ён таксама крыкнуў:

– Вы тут п'яце гарбату і не заўважаеце простых дальнабойшчыкаў! Трэба асцярожна ўжываць гарбату! Асабліва ў вагонах! Гэта вельмі небяспечная справа.

цягнік ператварыўся ў вусеня. Я хацеў злавіць яго ротам. Адчуваў сябе карпам. Згадваў пра тое, што люблю лавіць рыбу голымі рукамі. Гы. Цягнік растаптаў мае рэбры.

я адступіў і ўпаў.

«Усё – каюк», – пранеслася ў галаве. Але я ўсё ляцеў і ляцеў ды ніяк не мог упасці. «Дзіўна, – думаў я. – Здаецца, я не ем галюцынагенных грыбоў».

– Затое яны ядуць цябе, – сказаў мухамор.

Я прыгледзеўся. Побач са мной ляцеў Майкл Крывы, і ягоны твар быў чырвоны і ў плямах. Мухамор!

Я заплюшчыў вочы і сказаў: «Мухамор-мухамор, я дыму не ем! Адпусці маю душу – вярні рэальнасць». «Гы-гы, – засмяялася рэальнасць. – Я тут лячу побач – трымай мацней, каб не збегла».

І праўда, побач з Майклам ляцеў кебаб – такі вялікі і рэальны. «Зараз-зараз», – пагадзіўся я і паспрабаваў злавіць таямнічы кебаб. А ён, сволач, добра запёкся, выслізгвае, не даецца. Плюецца гарчычным соусам.

Голас соуса: «Я – соус. Я хачу быць самастойным! Жалься мне – і, можа, я табе дарую!»

Я прыглядаюся, а там, у соусе, сядзіць мой закляты вораг

Я ПАЧАЎ РАЗВАЖАЦЬ ПРА КАШТОЎНАСЦІ. І ТУТ ЖА СЯБЕ СПЫНІЎ. НУ ЯКІЯ МОГУЦЬ БЫЦЬ У МЯНЕ КАШТОЎНАСЦІ? НАВАТ СМЕШНА. МАЯ КАШТОЎНАСЦЬ – ГЭТА БЯСКОНЦАЯ ДАРОГА, ЯКАЯ ЗЛІВАЕЦЦА СА ЗМРОЧНЫМ НЕБАМ

– Бельгон Белагонны, ці папросту ў народзе – Пельпень Пышнабровы!

* * *

Менск заціхае даволі рана. Горад, чый подых атручаны паліцэйскімі мігалкамі, кадэбэшным шэптам, п'янымі позехамі рабочых са шматлікіх заводаў. Горад з цьмяным мінулым і з цьмянай будучыняй. Горад-прывід. Горад-інвалід. Ужо няма веры ў гэтыя шырокія праспекты, ужо няма той гераічнай песні ў гэтых каменных шыротах. Здаецца, паветра тут атручанае і працятае няўлоўным паралітычным газам.

– Пі не пі – лепшым не станеш, – сказаў Крывы і ўсміхнуўся.

– Я ведаю цудоўнае казіно – можа, зазірнем? – прапанаваў я.

– Не веру я ў гульню з аўтаматамі.

– Ну чаму з аўтаматамі? Я якраз прапаноўваю згуляць у рулетку.

– Рулетка можа быць электроннай.

Рулетка круцілася, і разам з ёй замест шарыка бегала штучнае вока. Нешта было жудаснае ў гэтым відовішчы. Лічбы перабягалі, нібыта адлічваўся старт ядзернай ракеты.

Першая мазгавая атака:

У сераду я выйшаў з хаты і падумаў, што сэнсу існавання няма аніякага. Усё брыдка. І мне надакучыла.

НЕДЗЕ ТРЫЦЦАЦІГАДОВАГА ЎЗРОСТУ. ГЭТЫ ДЗЯДЗЬКА Ў ГАРНІТУРЧЫКУ, У ГАЛЬШТУКУ. ТВАР – ПЫРСКІ ДАЖДЖУ

Прычым не істотна, п'еш ты ці не п'еш.Колешся ці валяешся абдзяўбаны пад лесвіцай. Жыццё ідзе дзіўнымі зігзагамі. І самае прыкрае, што мы заангажаваныя на побыце. Ён для большасці – арыенцір жыцця. Я не здзіўлены. Абываццелі калі не галасна, дык шэптам заяўляюць, што іх культурныя каштоўнасці – гэта каўбаса і ўнітаз.

бярэш малаток і прыбіваеш да падлогі гэты партрэт

вусы вытыркаюцца з партрэта, нібыта жывыя. Ты выцягваеш з кішэні грабеньчык і спрабуеш расчасаць гэтае чорнае валоссе. Потым яго прылізваеш. Ні халеры не атрымоўваецца. Тырчаць, нібы калючы дрот.

Аднекуль выпаўзае дзядзька. У вас узніклі правільныя асацыяцыі; сядзіш у пакоі адзін, а тут, нібыта змяюка, – нейкі выпаўзень. Такі яшчэ досыць малады выпаўзень. Недзе трыццацігадовага ўзросту. Гэты дзядзька ў гарнітурчыку, у гальштуку. Твар – пырскі даждж. Складаецца адчуванне, што пратрэш яго ашмёткам – і ўсё змыецца незваротна. Будзе страчаны чалавек назаўсёды. Гэта як забруджанае шкло ці люстэрка – дыхаеш, плюеш і сціраеш рукавом. Дык вось. Гэны выпаўзень вузіць вочы і кажа:

– Ну і якога хрэна ты расчэсваў яму вусы?

Здавалася, што жонка лобзікам выпільвае ў галаве дзіркі.

– Ыгы-ыгы, – кажаш ты.

Ты ўяўляеш, як Галава танчыць на чырвоных вуглях. Пішчыць і хныкае.

– Ну, не плакай, вушастая… Выратуем.

Потым галава цяжка ўздыхае.

Сэнс пытання ў тым, што калі. А калі невядома. Магчыма, у панядзелак ці аўторак. Чаму? Ды таму, што варта. Бо ветру няма і сонца свеціць. Вось так і адбываюцца зрухі ў нашым жыцці. Без наплываў магмы. Кропкава. Змеяў павыкідалі ў сметніцу.

Другая мазгавая атака:

– І колькі можна? – я ўжо стаміўся чакаць.

Я паглядзеў на медузу – нешта мне не падабалася ў ейным колеры.

– Бл., – сказаў. – Якая бл. гэтая ваша заліўная рыбіна!

Я сеў у машыну. Так. Счапленне, тормаз, здымаем з ручніка, уключаем першую перадачу. Счапленне… Газ!.. інакш заглухне. Анічога не пераблытаў? Бл. Бл. Бл. Не – здаецца анічога не пераблытаў.

Машына была яшчэ тая звяруга. Трыццацігадовай даўніны. Матор без газу быў не маторам

Ззаду захіхікаў брыдкі

Барада задумаўся і запісаў: «Я – кубік-рубік. Мой настрой – у залежнасці ад надвор'я – сіні, чорны, чырвоны, белы. Трушчу цела і ягоныя квадрацікі складаю ў шкатулку. Я – біг-мак. Я жару сябе і пукаю глуха і непрыгожа. Гэта як жыццё з маім

любімым лысым дыктатарам. Я – бігмак. Я – кубік-рубік. Я – вадасцёкавая труба для блявоціны. Я – сусвет і я – пустэча. Кубік-рубік і біг-мак грукочуць музыкай каменных прэрый. Музыкай чыстай смерці».

Пстрыкнуў пальцамі. І з неба апусціўся чалавек з вялікім шарам.

– Што трэба? Добры настрой? Няма праблем – вось табе марозіва, вось табе шатландскі віскі, вось табе карона і вось табе спартовы аўтамабіль. Чаго яшчэ жадаеце?

– Жадаю танцы ў адзіноце, каля вогнішча на бязлюднай выспе.

– Жадаеце? Калі ласка – атрымайце!

І вось ужо чалавецтва ператварылася ў далёкі міф. Вакол – зорнае неба, вогнішча, крыкі начных і нябачных птахаў. І ты – танчыш і равеш на ўвесь свет. Равеш, і аніхто цябе не спыняе. Бо няма каму! Гэтая свабода. Дык чаго вы жадаеце? Аўтамабіль, залатую карону, віскі, марозіва, шакаладу ці проста маленькі глыток паветра свабоды на бязлюднай выспе?!! Га?!!

* * *

– Гары, ён здаў! – крычаў нехта зверху. – Гэта неверагодна, але гэта факт!

Голас напаўняўся п'янай сілай. Гучалі ноткі цёплага віскі і летняй ліпкай газіроўкі. Голас аплятаў усё сваім павуціннем.

– Гары, ён здаў! Гэта неверагодна! Як ён будзе кіраваць?!! Гэта ж самазабойца. Ён жа пацалуе першае дрэва! Гары, я не веру ў ягоныя здольнасці! Мо ён сапраўды прыдбаў тыя дакументы?!! Га? Гары? Паглядзі, у ягоных вачах свецяцца купюры! Ён жа хабарнік! Гары! Гары! Дрэвы са мной салідарныя – яны махаюць галінамі, яны скідваюць ад злосці сваё лісце!

* * *

Уверх – уніз. Паралельна. Уздоўж і ўпоперак. Назаўжды. Прыбяры! Рыбамеч – наперад! Зрэзаць гальштукі! Зрэзаць сосны і дубы! Бы кабы – грыбы! Грабі!

* * *

Я – дырыжор. Лес – гнуткія і пругкія струны. Дакранаюся да верхавін – чую грук дзятла і гудзенне мачтавых соснаў. «Учора мы забілі пчаляра!» – крычыць пугач. Рэхам: «Забілі! Забілі!» Зноўку дакранаюся да верхавін – здаецца, тысячы гітар раздзіраюць цішыню. «Навошта мы забілі пчаляра?!!» Рэхам: «Навошта?!! Навошта?..»

* * *

Запыленыя нетры навальваюцца на плечы. Няхай тут растуць ананасы і бананы. Запальваю святло на гары і разумею галасы цацак. Галасы гучаць як свідравальнай машынкі. Пацалункі атрымліваюцца мёртвымі і патыхаюць рыбай. Я надзьмуваю вялікі жоўты шар і праціраю акуляры. У гэтых акулярах свет выглядае ружовым. І я не магу зразумець, падабаецца мне гэта ці не? Фары асвятляюць квадратных людзей. І здаецца, што на небе распускаюцца кветкамі ракеты.

* * *

Не хочацца пра тэракты, не хочацца пра крэматорыі. Тут пахаваная дзяржава, тут – золата ў трунах, не патрэбнае нават пацукам. Не хочацца ламаць зубы.

Маленькія прэзідэнты, канцлеры, дыктатары, дэпутаты і ўсялякая чынавенская шушамець – усё гэта плюхаецца ў катле. Ты падліваеш смалы. Ярка гарыць агонь. Спёка. Ты п'еш. Усміхаюцца два буслы. Ты п'еш, ты цэдзіш гаркавыя кроплі. Глядзіш на чырвоныя языкі. На журавінавыя галовы, якія тырчаць са смалы. У гэтым клёкаце. У гэтую спёку. У гэтым настроі ты чытаеш кнігу. Кнігу пра менеджмент.

Першы чытач быў хударлявы і бледны, з прычоскай а-ля «меч вікінга»,

з залатымі зубамі, з сярэбранай завушніцай у вуху, у тыльняху, і ён бясконца напяваў песеньку: «Першай справай самалёты… ну а дзеўчыны… а дзеўчыны потым…» Першы чытач выйшаў у вакно і пераўтварыўся ў дырыжабль. Гэта было паласатае паветранае судна.

Другі чытач быў жоўтым і са шматлікімі кропкамі па твары – з рабаціннем. Ён прыкідваўся дэндзі – на ім быў чорны гарнітурчык і чорны матылёк, пантофлі бліскалі, нібыта халадзец. Калі ён запальваў цыгару, з'яўлялася белая аблачына дыму. Калі ён размаўляў, здавалася, што побач не чалавек – завадная лялька. Ягоныя паліраваныя зубы выдавалі штучнасць і ненатуральнасць усяго існага. Хацелася ўзяць рашпіль і дапрацаваць робата.

Чацвёрты чытач распрануўся да майткоў і пачаў танчыць.

Пяты чытач уехаў на бульдозеры. Ягоны твар свяціўся радасным семафорам. Чытач быў у сіняй форме. З неба падалі не зоркі – светлякі. Чытач заспяваў, нібыта оперны саліст. Птушкі заціхлі, людзі спалохана азіраліся, здавалася, што нават бульдозер заглух.

Шосты чытач бесперапынна грыз булачку. Ягоная доўгая шыя нагадвала белую калону. Казліная бародка сцвярджала, што ейны ўладальнік прэтэндуе на інтэлігентнасць. У перапынках паміж жаваннем ён галасіў і ўздыхаў. На чытачы быў спартовы гарнітур і тапачкі, падобныя да янотаў. Калі пачуліся параходныя гудкі, чытач узышоў на карабель і памахаў на развітанне рукой.

КАЛІ ЁН ЗАПАЛЬВАЎ ЦЫГАРУ, З'ЯЎЛЯЛАСЯ БЕЛАЯ АБЛАЧЫНА ДЫМУ. КАЛІ ЁН РАЗМАЎЛЯЎ, ЗДАВАЛАСЯ, ШТО ПОБАЧ НЕ ЧАЛАВЕК – ЗАВАДНАЯ ЛЯЛЬКА

Другі чытач выйшаў праз дзверы і стаў гаўкаць.

Трэці чытач нагадваў малпу. Здавалася, што на твары няма вольнага месца ад валасоў. І ён быў надзвычай нервовым; махаў бесперапынна рукамі. Вочы былі падобныя да секундамераў – круціліся, нібыта шалёныя. Апрануты ён быў вельмі дзіўна – нейкі руды камбінезон і сіняя пластыкавая каска.

Трэці чытач узяў цясак і расшастаў паветра сваёй злосцю. І цясак блішчэў быццам люстэрка.

Чацвёрты чытач – у валасах матылькі. Нос моркаўкай. Бровы – драпежніцкія нажніцы. Рукі – хвасты рыбіны – плывуць. Усмешка падобная да бетоннага моста. І вопратка як у медбрата – шапачка і белая піжама.

Сёмы чытач у шаленстве разарваў кнігу зубамі. Я прыгледзеўся. Нешта было нязвыклае ў гэтым сёмым. Ну, радзімкі і шнары не здзіўлялі. А вось кідалася і гіпнатызавала адзінокае вока, якое было ў цэнтры твару, над носам. Так! Гэта быў цыклоп!.. Жоўтае вока пазірала на мяне не злосна – у ім было пытанне даследчыка. Гэты сёмы быў не простым чытачом – ён хацеў прэпараваць, ён меў вялікае жаданне да вывучэння.

Я люблю кожнага з вышэйпералічаных – усе індывідуальныя. Усе неверагодныя! І вас значна больш за лічбу сем! Прынамсі я ў гэта веру! Веру – у сто першага чытача!

– І што, дзе кульмінацыя? – запытаў мяне сто першы чытач. Чытач быў грузным, часта дыхаў і хапаўся пухлымі

рукамі са сэрца. Па ўсім было бачна, што яму кепска.

– Я пытаюся: дзе кульмінацыя?!! – ужо крычаў ці хрыпеў таўстун. – Што так паэтычна ўсе і распаўзуцца па сваіх норах?!!

– Не! – узравеў раззлавана я. – Не паспеюць!!!

* * *

Генерал атрутна заўсміхаўся, падышоў да пульта і, доўга не думаючы, націснуў на вялікую чырвоную кнопку. Загрымела, заклекатала. «Першая пайшла», – працадзіў скрозь зубы генерал і зняў фуражку. Першая ракета накрыла адзін з гарадоў Заходняй Еўропы. «Другая пайшла», – паведаміў генерал, зноўку націскаючы на кнопку. «Трэцяя пайшла»…

НУ, РАДЗІМКІ
І ШНАРЫ
НЕ ЗДЗІЎЛЯЛІ.
А ВОСЬ КІДАЛАСЯ
І ГІПНАТЫЗАВАЛА
АДЗІНОКАЕ ВОКА,
ЯКОЕ БЫЛО
Ў ЦЭНТРЫ ТВАРУ,
НАД НОСАМ

# АДАМ ГЛОБУС

## СТРАЛЬЦОЎ

*Словы пра пісьменніка Міхася Стральцова*

### Ілюзіі

У большасці людзей, хто першы раз сутыкаўся з пісьменнікам Міхасём Стральцовым, узнікала ілюзія, што яны бачаць зусім простага чалавека. Такога сабе прасцячка, якога вельмі лёгка зразумець і зусім не складана падмануць. Нешта падобнае адбываецца і з чытачамі стральцоўскай літаратурнай спадчыны. Наіўным чытачам падаецца, што ў лірычных тэкстах Стральцова ўсё навідавоку, усё зразумела з першага прачытання і нішто не вымагае ўважлівага шматразовага перачытвання. Гэтыя дзве ілюзіі хутка разбураюцца.

Стральцоў быў нэндзам, за яго ўсмешлівасцю і ветлівасцю часта ішлі ныццё і бурчанне. У побыце Міхась Стральцоў быў цяжкім і наравістым. Што да яго тэкстаў, дык усе яны шматпланавыя, напоўненыя таямніцамі і вымагаюць напругі для разумення. Вось чаму вакол Стральцова было шмат самападманутых і шмат тых, хто хутка расчароўваўся ў пісьменніку. Як на мой розум, гэтыя расчараванні – доказ вялікага стральцоўскага літаратурнага таленту.

### Чурлёніс

Ёсць шмат згадак пра тое, як у часы майго дзяцінства суседзі хадзілі адзін да аднаго «на тэлевізар». У больш багатых кватэрах гэтыя прыборы з'явіліся крыху раней, і ўладальнікі першых тэлевізараў не адмаўлялі сваякам і суседзям у радасці паглядзець вечарам кіно ці спартыўныя спаборніцтвы. Паходы «на тэлевізар» былі гэткай жа нормай, як і разгляданне чужых бібліятэк з просьбай: «Можна я гэтую кнігу вазьму пачытаць?» Адмовіць гледачам тэлевізара і чытачам кніжак было няёмка, бо падобныя адмовы лічыліся дурнымі мяшчанскімі паводзінамі.

Існавалі і выключэнні... Альбомы з рэпрадукцыямі карцін гаспадары не давалі выносіць з кватэры, але дазвалялі іх разглядаць: гэта нейкім чынам прыраўноўвалася да прагляду тэлевізара. У нашым пад'ездзе самы цікавы альбом быў у дзядзькі Мішы Стральцова. Вялікая папка з творамі Мікалая Чурлёніса мяне вабіла. Асабліва падабаўся стралец з лука, які стаяў на гары пад зялёным зорным небам. Кароль з невялікім сонцам у руках

мяне таксама радаваў. Карціны Чурлёніса я разглядаў разам з дочкамі Стральцова, Вікай ды Нікай. Мы выдумлялі сабе і нейкія казкі пра герояў карцін Чурлёніса. Змест іх я ўжо не прыгадаю, але сам казачны настрой помніцца дагэтуль.

**Кніга**

Бывае, што ў адной кнізе шмат чаго важнага супадзе, праявіцца і пазначыцца. Так было з першай кнігай Міхася Стральцова «Блакітны вецер». На першы погляд – звычайная брашурка з досыць сціплым аздабленнем. Прыглядаешся – і бачыш: густоўная вокладка выканана таленавітым кніжным графікам Барысам Заборавым. Пачынаеш чытаць тэксты, а яны ўсе як адзін выдатныя. Назвы апавяданняў лаканічныя і класічныя: «Дома», «Мацеевы дровы», «Восеньскі ўспамін», «Блакітны вецер», «Двое ў лесе», «Суседзі», «Перад дарогай». Меладычная і празрыстая проза Міхася Стральцова не толькі напісана геніяльнай рукою, але і адрэдагавана рукой дасціпнага і ўважлівага да дэталяў рэдактара – Вячаслава Адамчыка, майго таты. Яшчэ ў першай кнізе Стральцова важная дата яе выхаду ў свет – 1962 год. У той час аслабла імперская цэнзура і шмат хто паспеў сказаць, напісаць і надрукаваць праўдзівыя словы. Такіх узорных кніжак, як «Блакітны вецер», у нашай літаратуры мала. Іх і не можа быць шмат, гэта першыя кнігі нашых класікаў.

**Пеньюар**

Быў час, калі пісьменнікі з пакалення майго таты сябравалі. Цяжка паверыць, але я сведка таго, што Чыгрынаў, Сачанка, Пташнікаў, Караткевіч, Быкаў, Дамашэвіч, Адамчык, Кудравец, Стральцоў, Наўроцкі сябравалі.

Іван Чыгрынаў часта рабіўся аб'ектам розыгрышаў, кпінаў і жартаў. З Чыгрынава было прыемна жартаваць, бо ён заўсёды бурна рэагаваў. Можна было па некалькі разоў паўтараць адзін і той жа прыкол і атрымліваць чыгрынаўскі крык абурэння. Усе ў студэнцкім інтэрнаце ведалі, што ложак у Чыгрынава прадаўлены. Каб спаць на ім, Іван засоўваў пад расцягнутую сетку ложка свой вялікі дыктавы чамадан. Уласна кажучы, на чамадане і спаў студэнт Чыгрынаў. Раз на месяц нехта з суседзяў па пакоі Івана (а іх было блізу дзесяці) выцягваў з-пад ложка чамадан. Іван сядаў на свой ложак і правальваўся да падлогі. Тут і пачынаўся бясплатны канцэрт з абяцаннямі ўсіх пазатоптваць, пазабіваць і павыкідаць на сметнік.

Жарт з чамаданам быў прымітыўным, а вось розыгрыш з пеньюарам – вытанчаным і шматхадовым. Неяк жонка Міхася Стральцова набыла сабе напаўпразрысты чырвоны пеньюар. Пад яго Галіна апранула чорны станік і чорныя майткі. Абулася яна ў чырвоныя туфлікі на высокіх шпільках. Усе былі ў захапленні ад спакушальнага выгляду Галіны Стральцовай. Нехта (ці не Караткевіч?) сказаў, што Люда Чыгрынава паехала з дзецьмі на вёску, Іван сядзіць дома адзін, таму яго можна разыграць. Пачалося хуткае прыдумлянне сцэнарыя…

МЕЛАДЫЧНАЯ І ПРАЗРЫСТАЯ ПРОЗА МІХАСЯ СТРАЛЬЦОВА НЕ ТОЛЬКІ НАПІСАНА ГЕНІЯЛЬНАЙ РУКОЮ, АЛЕ І АДРЭДАГАВАНА РУКОЙ ДАСЦІПНАГА І ЎВАЖЛІВАГА ДА ДЭТАЛЯЎ РЭДАКТАРА – ВЯЧАСЛАВА АДАМЧЫКА, МАЙГО ТАТЫ

Галя ў напаўпразрыстым пеньюары прыйшла да самотнага Івана і сказала, што Мішэль пабіў, абразіў і выгнаў яе з дому: яна набыла для мужа гэты шыкоўны пеньюар, а ён, стыляга і бабнік, выгнаў адданую жонку з дому. Расчулены Чыгрынаў пачаў шчыра шкадаваць Галю і накрываць па-святочнаму на стол. Калі стол быў накрыты, Стральцова падышла да акна і запрашальна махнула рукою. Праз хвіліну ў кватэры зніякавелага Вані Чыгрынава ўжо смяяліся сябры: Валодзя Караткевіч, Мішэль Стральцоў, Чэсь Адамчык і Ніна Глобус. Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў роў, абяцаў усіх пазатоптваць, пазабіваць і павыкідаць на сметнік разам з пеньюарам.

**Багдановіч**

Міхась Стральцоў у кнізе «Загадка Багдановіча» разважае пра паэзію класікаў беларускай літаратуры, і ў яго атрымліваецца апісаць узаемаадносіны беларускага з агульначалавечым. Пэўна, у эсэ Стральцова самае каштоўнае – агульналюдское, якога заўсёды не стае размежаванаму і паразрыванаму на кавалкі свету.

**П'янства**

Міхася Стральцова ўсе любілі. Было зроблена ўсё, каб ён стаў прызнаным пісьменнікам. Ён стаў ім і… спіўся. Часам я думаю, што Стральцоў спіўся ад шчасця.

**Лячэбна-працоўны прафілакторый – ЛПП**

У Барыса Сачанкі ёсць успамін пра Міхася Стральцова «Конь гуляў на волі…». Там апісваецца, як Стральцоў патрапіў у ЛПП і выйшаў з яго:

«Новая яго жонка доўга не важдалася з Міхасём. Як толькі атрымала кватэру, здала яго ў ЛПП.

Я тады працаваў ужо ў Саюзе пісьменнікаў. І шчыра, па-чалавечы хацеў дапамагчы Міхасю – выпусціць з ЛПП як найхутчэй. Дзеля гэтага патрэбна была заява ад таго, хто прасіў туды забраць. Выклікалі жонку, папрасілі напісаць такую заяву. Але яна адмовілася гэта зрабіць. Тады мы паслалі ў ЛПП кагосьці з нашых пісьменнікаў, здаецца, Л. Прокшу, ён дамовіўся з начальствам, каб Міхася перавялі на лягчэйшую працу (яго прызначылі бібліятэкарам), а потым праз нейкі час дамагліся, каб і зусім выпусцілі».

Ні са Стральцовым, ні з Сачанкам я ніколі не гаварыў пра ЛПП – турму для хворых на алкагалізм. З іншымі гаварыў шматразова, а з імі – ніколі.

Перад тым як патрапіць у ЛПП, дзядзька Міша спіўся так, што яго нават цяжка было пазнаць. Многія і не пазнавалі. Аднойчы ён пазваніў да нас у дзверы, я адчыніў. Ён папрасіў паклікаць бацьку ці маці. Я гукнуў тату. Пазней спытаў у яго: «Хто гэта да нас заходзіў?» Тата сказаў, што гэта Стральцоў прасіў на бутэльку. Я страшэнна захваляваўся, бо ў зморaным і худым чалавеку не пазнаў дзядзьку Мішу. Не пазнаў, бо ён выглядаў не проста іншым, ён нібыта нават стаў ніжэйшым за сябе ранейшага сантыметраў на дзесяць.

Калі я пачуў, што Стральцоў у ЛПП, не здзівіўся.

Жыццё падобнай установы я назіраў зблізку ў Слабодцы, што пад Браславам. Чалавеку, які туды трапляе, амаль немагчыма дапамагчы. Ён трывае цяжар зняволення, а ты мусіш змірыцца з яго адсутнасцю. Тое, што дзядзька Міша там пакутаваў, зразумела. Шмат хто спрабаваў яму дапамагчы і дапамагаў, гэта вядома. На мой розум, шмат што з той дапамогі толькі ўскладняла бытаванне паэта ў ЛПП.

Крыху суцяшала тое, што Стральцоў дасылаў у Мінск вершы і ў штотыднёвіку «ЛіМ» можна было прачытаць:

*Шматок паперы, карандаш,*
*Яшчэ – цыгарка.*
*Вось гэты дзень – ён будзе наш,*
*Навошта сварка?*

**Начытанасць**

Не адзін раз Стральцоў выказваў сваё здзіўленне начытанасцю графаманаў... «Сам не можа просты верш скласці, а разважае пра літаратуру так, нібыта збор твораў выдаў. І гэта ён прачытаў, і тое ён ведае, і гэткае ён прагартаў. Дзіву даешся...» Мяне начытанасць графаманаў здзіўляла значна меней. Міхась Стральцоў усё жыццё прапрацаваў у рэдакцыях, дзе за ворага лічыўся нахабны графаман. Таму нават глыбокія веды пра літаратуру не ўратоўвалі такіх пісак ад жорсткай стральцоўскай крытыкі.

Мяне графаманы не раздражнялі, як не раздражнялі і начытаныя людзі. З дзяцінства я сядзеў у маміных бібліятэках, напоўненых самымі рознымі чытачамі. Найбольш начытанымі з тых, каго ведаў я, былі школьныя настаўнікі. Яны разважалі пра паэзію і прозу так, нібыта ўчора елі дранікі разам з Купалам і Коласам, а Багдановіч з Багушэвічам ім тыя дранікі падносілі на срэбных сподках. Калі школьны настаўнік загаворвае са мной пра Кальдэрона ці Фогельвайдэ, я адразу згадваю Міхася Стральцова з яго буркатлівым абурэннем начытанасцю – і на душы цяплее.

МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ УСЁ ЖЫЦЦЁ ПРАПРАЦАВАЎ У РЭДАКЦЫЯХ, ДЗЕ ЗА ВОРАГА ЛІЧЫЎСЯ НАХАБНЫ ГРАФАМАН

**Акудовіч**

Працуючы ў часопісе «Нёман», Стральцоў не аднойчы друкаваў там матэрыялы, напісаныя маладым Валянцінам Акудовічам. Той вярнуўся з Масквы і шукаў у Мінску працу ды заробкі. Стральцоў даведаўся, што ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» вызваляецца месца загадчыка аддзела крытыкі. На пасяджэнні ў Саюзе пісьменнікаў Міхась Стральцоў прапанаваў узяць у ЛіМ Валянціна. Не ўзялі, бо Янка Брыль выступіў за тое, каб у «ЛіМе» крытыкай загадвалі беларусы, а не яўрэі. Зразумела, што ўсе мы галасуем абедзвюма рукамі за разумных і за беларусаў, толькі не такім чынам, як гэта зрабіў Брыль, паставіўшы Стральцова і ўсіх тых, хто спрабаваў дапамагчы Акудовічу, у малапрыемнае, мякка кажучы, становішча. Стральцоў заперажываў. Выглядала, нібыта заперажываў значна больш за Акудовіча.

**Непераборлівасць**

Міхась Стральцоў быў непераборлівым у сяброўстве. Вакол яго заўсёды круціліся нейкія ліслівыя Рыгоркі ды зайздрослівыя Лявоны. Яны яму налівалі лішні куфель піва. Яны яму і падносілі тую чарачку, што абавязкова зашкодзіць. Яны прасілі правіць і перапісваць свае графаманскія вершы. Яны выдурвалі ў яго розныя рэкамендацыі, заступніцтвы, гешэфты. Міхась перапісваў графаманію, правіў бяздарныя рукапісы, перакладаў дзеля заробку. Ліслівіцы і зайздроснікі абдурвалі і падманвалі Стральцова. Абяцалі вялікія ганарары, а плацілі майстру, як пачаткоўцу. Казалі пра ўзнагароды ды прэміі, а медалі ды ордэны вешалі на грудзі іншых, нібыта больш вартых людзей. Стральцоў незадаволена бурчэў і наконт малых ганарараў, і наконт графаманаў, і наконт чужых прэмій. Ён бурчэў, але так да канца жыцця і застаўся непераборлівым у сяброўствах ды мяккім у чалавечых узаемаадносінах.

Ці былі ў Міхася Стральцова сапраўдныя сябры? Мусіць, не было. Прыхільнікі яго літаратурнага таленту былі. Такіх не шмат, але яны былі і ёсць. Моднасці сярод чытачоў Стральцоў ніколі не меў. Нават такой беларускай моднасці, якую спазналі Наўроцкі ці Караткевіч. Усё вакол Стральцова было досыць сціплым, нават зайздроснікі і ліслівыя былі невялікія.

**Партрэт**

Малады журналіст Сяргей Дубавец пайшоў працаваць у рускамоўны часопіс «Нёман» пад кіраўніцтва Анатоля Кудраўца. Сяргея ўзялі ў аддзел крытыкі, дзе некалі працаваў Міхась Стральцоў. Дубавец, седзячы якраз пад партрэтам Стральцова, заказаў мне эсэ. Я напісаў тэкст пра куміраў, пра тое як, хто і нашто іх сабе стварае. Дубаўцу эсэ спадабалася, але яно не глянулася намесніку Кудраўца – Генадзю Бубнаву. Сяргей заказаў мне яшчэ адно эсэ пра беларускіх авангардыстаў 60-х, 70-х і 80-х гадоў. Я напісаў «Беларускі авангард»: пра Караткевіча, Стральцова і Семашкевіча, пра Заборава, Паўлоўскага і Хацкевіча. Змагар з Карлам Марксам Генадзь Бубнаў і авангардыстаў не прапусціў. Дубавец угаварыў мяне зрабіць трэцюю спробу і напісаць пра беларускіх ар'ергардыстаў у манументальным мастацтве. Я напісаў пра халтуршчыкаў, што малявалі і ляпілі Леніна. Ар'ергардысты зусім не спадабаліся пільнаму Бубнаву.

Так бывае, што ў нейкай рэдакцыі цябе не вельмі любяць. Гэта нармальна. Проста не трэба было рабіць тры спробы, каб пераскочыць антымарксіста Бубнава. З падобных рэдакцый варта сыходзіць пасля першай адмовы. Я і сышоў бы, каб не фотапартрэт Міхася Стральцова; цяпер я перакананы, што гэтыя тры эсэ я напісаў для яго.

**Літаратуразнаўчыя лішкі**

Здараецца, што надыходзіць час, калі архітэктура пазбаўляецца ад лішкаў. З пыхлівага ампіру аблятаюць капітэлі, сандрыкі і пінаклі. Агаляецца і радуе вока чыстая і функцыянальная канструкцыя. У часы суровага стылю, на які прыпала маладосць Міхася Стральцова, так і здарылася. У свеце запанавалі простасць і светласць. Зараз зноў канструкцыі і формы аздабляюцца малапатрэбнымі і малапрыгожымі лішкамі. Кнігі ў гэтых працэсах не з'яўляюцца выключэннем.

Новы том Стральцова ў серыі «Беларускі кнігазбор» аблямаваны літаратуразнаўчымі лішкамі. Ёсць у кнізе прадмова Анатоля Сідарэвіча, з якой больш новага даведваешся пра Сідарэвіча, чым пра класіка Стральцова. Ёсць каментары Міхася Скоблы, у якіх можна дазнацца, што Марк Твэн – англійскі пісьменнік. Ён і сапраўды пісаў па-англійску і можа залічвацца ў пісьменнікі англійскія. Толькі Скобла англамоўнага Стывенсана чамусьці залічвае ў шэрагі шатландскіх пісьменнікаў.

Каб лішкі, напісаныя Сідарэвічам і Скоблам, былі найгоршымі ў новым зборніку Стральцова, я і не засмучаўся б. Ці мала хто пра каго піша і друкуе пустых і недакладных слоў! Самае горшае ў кнізе Стральцова – падборка лістоў. Калі ў прозе і вершах, змешчаных у томе, Міхась Стральцоў геніяльны, дык у лістах ён прагматычны, сухі і не зусім шчыры. Нават злосць, выказаная пісьменнікам у лістах, не выглядае пераканаўча.

«Вунь бабы, Іпатава і іншыя, гвалтам з нашых празаікаў порткі рвуць і падэшвы здзіраюць, а на якога-небудзь Брыля дык ужо нават і не зважаюць: і для пасцелі, маўляў, ужо стары, і пісаць не ўмее, і на хвалу скупы. А папускацца бабам, бадай, не трэба: мала ім таўчы нас у жыцці, дык яшчэ і ў літаратуры», – чытаеш падобнае

і не пазнаеш Стральцова. Вядома, я не сумняваюся, што ён такое мог сказаць і напісаць, але ці трэба падобнае ставіць у кнігу з падзагалоўкам «Выбраныя творы»? Зрэшты, які ўкладальнік – такое і выбранае.

**Выпіўка**

Ёсць людзі, з якімі хочацца выпіць, а ёсць і такія, з якімі выпіць трэба. З кім я толькі не выпіваў!.. Шмат выпіваў, але піць па-чалавечы так і не навучыўся... Злоўжываў. Перабіраў. Напіваўся. Самога сябе не любіў за нястрыманасць у п'янстве. Кідаў піць і кінуў. Згадваючы свае п'янства, цяпер шкадую, што не выпіў з Міхасём Стральцовым. Калі ён прапаноўваў, я адмаўляўся. Калі мне хацелася прапанаваць чарку яму, Стральцоў ужо завязаў. Нашы п'яныя часы не супалі. Можа, яно і добра, што з Міхасём Стральцовым я ніколі нічога не выпіў мацнейшага за гарачую гарбату. Усе нашы размовы былі крыштальна цвярозымі.

**Вальтэр**

Разглядаў фотаздымкі і маляваў партрэт Міхася Стральцова. На паперы вымалявалася вальтэраўская саркастычная ўсмешка. На твары Міхася я шмат разоў бачыў іранічную стыльную парыжскую ўсмешку, але стральцоўскі сарказм я пабачыў толькі з вялікай трыццацігадовай адлегласці.

**Быкаў**

Нельга адначасова любіць творчасць Міхася Стральцова і Васіля Быкава. Можна быць аднолькава раўнадушным да іх літаратурнай спадчыны, гэта цалкам магчыма. Можна імітаваць роўнае стаўленне да абодвух, такое таксама рэальна; але любіць і захапляцца можна толькі адным з іх. Мілітарызм Быкава і асацыяльнасць Стральцова – рэчы несумяшчальныя. Кантрасны, плакатны, дзяржаўны Быкаў і вытанчаны, самотны, жывапісны Стральцоў знаходзяцца на розных літаратурных кантынентах. Калі ты на кантыненце разам з Міхасём Стральцовым, дык паміж вамі і Васілём Быкавым ляжыць акіян. Так што або твой Быкаў і мой Стральцоў, або наадварот; або-або і трэцяга няма.

**Стральцоў і Сыс**

Лукашэнка ў чарговы раз сустрэўся з тутэйшымі пісьменнікамі і калялітаратурнымі дзеячамі. Зноў вялася гутарка пра нашу беларускую і мясцовую рускую літаратуру. З матэрыялаў, што я прачытаў пра гэты эпізод у жыцці літаратурнай Беларусі, стала зразумелым: кананізацыя творчасці Быкава і Караткевіча завершана. Цяпер надыходзіць час дадаваць новых класікаў у беларускі літаратурны пантэон. На ролю найноўшых класікаў найбольш падыходзяць Міхась Стральцоў і Анатоль Сыс. У іх паводзінах заўсёды была такая актуальная сягоння антыдзяржаўнасць.

**Ратаванне**

У часы роспачы мяне ратавала легкакрылая проза Стральцова… Ратаваць ратавала, але ніколі не натхняла так, як дзённік Сэй Сёнагон ці занатоўкі Брыля.

**Наступнікі**

Некалькі разоў, бачачы, што творчасцю Міхася Стральцова зацікавіліся маладзейшыя за мяне літаратары, я з радасцю казаў: «Вось і ўсё! Вось і не трэба мне займацца Стральцовым. Ёсць каму займацца і без мяне…» Праходзіў час, я вяртаўся да спадчыны Міхася Стральцова, яна зноўку прыцягвала мяне…

# СЯРГЕЙ КАЛЕНДА

## МОРА-АКІЯН

Я валодаю барам ужо трыццаць гадоў, але такіх наведнікаў, як той, што завітаў да мяне мінулым вечарам, ніколі не сустракаў. Мужчына быў сівы, і здавалася, ён перажыў нейкую бяду, па якой ніяк ня можа ачуняць. Нібыта хтосьці моцна яго напужаў, і ён такі і застаўся – з вырачанымі вачыма, з вуснамі, скрыўленымі, нібыта ён працягвае бязгучна крычаць.

Цені над барнай стойкай рабілі госьцеў твар самотным, сумным, страшным і адначасова прыцягальным, яго хацелася разглядаць, дзівіцца на зморшчыны на ілбе і пад вачыма.

Мужчына сеў за барную стойку і папрасіў грогу.

На вуліцы гула завея, некаторыя дарогі былі ўжо заваленыя сьнегам, на вуліцах анікога, крамы пазамыканыя.

Я пачаў разаграваць кардамон і перац, каб дадаць у ром.

– Я вось што скажу, шаноўны, – пачаў размову мужчына. – Вы ж памятаеце, быў тут у нас на гары жылы комплекс пабудаваны, гадоў сорак таму?

– Так. Ці не, ня памятаю, быў замалады. На гары? Велізарны дом...

– Ага, велізарны ня тое слова, яго абзывалі чалавейнікам, бо кватэраў было, як у сотах, а калідораў, як хадоў у мурашніку. Я тады займаўся гэтым домам, я валодаў ім, і будаваў яго таксама я. І назву яму прыдумаў я – «Мора-Акіян», бо дом гэты ўсімі вокнамі, як ні павярні, глядзеў на мора, на сьвітанак і заход сонца, прадзімаўся салёнымі вятрамі з захаду на ўсход і з поўначы на поўдзень. Фантастычная ўгода была ў мяне – зямлю пад будоўлю горад аддаваў амаль за так, разумееце?

– Не, ня вельмі.

– Ну, пустка гэтая на гары аддавалася чыноўнікамі амаль за бесцань, а я быў жвавы, малады, хацеў хутка разбагацець.

– А, усё, я зразумеў, пра якую вы пустэчу на гары, гэта ж тое месца, дзе ў сярэднявечны былі шыбеніцы, на якіх вешалі бандытаў. І там цяпер звалка нейкая.

– Ня звалка, а тое, што засталося ад дамоў.

– І гэтую пустку аддалі для пакараньняў, каб увесь горад бачыў на гары, каго караюць, зь любога месца кожны жыхар мог падняць галаву і на верхатуры ўбачыць, ці гайдаецца там цела вядзьмаркі альбо забойцы. Кепскае месца, бо шыбенікаў там адразу і закопвалі.

– Ведаю-ведаю, але для бізнэсу і будоўлі гэта ня мела аніякага значэньня,

людзям толькі давай сьмерць, ды яшчэ цёпленькую, і на талерцы з прыборамі. Паглядзіце, як у ахвотку людзі ходзяць на могілкі, як там часта ў сьвяты ядуць і выпіваюць яны са сваімі, а ў некаторых культурах нябожчыкаў і па рэках сплаўляюць, і ядуць іх згарэлыя парэшткі, і муміфікуюць розных манахаў. Вось я і думаў ператварыць месца трох шыбеніц у новы спальны раён «Мора-Акіян», зарабіць на страшным месцы.

Ведаеце, шаноўны, для бізнэсу часта няма межаў, ёсьць толькі фінансавыя абмежаваньні. Чалавек на ўсё згодзіцца, пытаньне толькі ў коштах. І вось я такі шчасьлівы, прадаў бацькаву хату і вырашыў далёка грошай не адкладаць, звольніўся з будаўнічай кампаніі і пачаў езьдзіць па ваколіцах, думаць, як і што б такое пачаць будаваць, каб выйшаў пасьпяховы праект.

Пасьля некалькіх месяцаў блуканьняў я і знайшоў сабе гэтую гару. Адразу пайшоў у мэрыю, дамаўляцца, а мне там і сказалі: бяры гэтую гару з гушчаром хоць за так, толькі крыжы і шыбеніцы прыбяры, гара ніколі нікому не была патрэбная, акрамя вернікаў і фанатыкаў, бо вось разьвіваецца турыстычны бізнэс уздоўж узьбярэжжа, а ў горы мала хто прагне падымацца. Я запэўніў, што калі інфраструктура хутка разьвіваецца, будзе і ў майго праекту добры прыбытак.

Я знайшоў памочніка, добрага хлопца, акуратнага, які паўсюль пасьпяваў з маімі наказамі.

Літаральна за год праект «Мора-Акіян» стартаваў, усе каштарысы былі падпісаныя, і мая будаўнічая кампанія ўзялася за працы над новым жылым комплексам, складзеным з трох дваццаціпавярховых дамоў, аб'яднаных адным унутраным дваром, паркінгам на першым паверсе – утульна заяжджаць, і пэнтгаўсамі на апошніх.

Пачаўся пошук патэнцыйных кліентаў.

Сур'ёзна, я быў сьведкам, як мая рыэлтарка ўзяла тэлефон, каб абзваньваць мясцовых бізнэсоўцаў, заводзіць знаёмствы, ажно тэлефон сам зазваніў у яе руках – нумар быў схаваны, і гэта быў добры знак, бо свае тэлефонныя нумары часта хавалі людзі, якія займаліся сур'ёзнымі справамі.

– Альбо пад нумарамі плішчацца рэклямнікі ды розныя тэлефонныя боты апэратараў… – дадаў я.

– Я не спрачаюся, але тое ня так істотна. Званіла жанчына, якая хацела набыць кватэру ў маім комплексе. Разумееце, вось у мяне на стале ляжаць яшчэ не разасланыя поштай рэклямныя флаеры, ніякіх нідзе банэраў аб продажы кватэраў, рыэлтары толькі пачыналі працу, а нам ужо тэлефануюць, каб набыць кватэру.

Суразмоўніца сказала, што прыедзе хутка і што гатовая засяліцца і аплаціць кватэру адразу на месцы. Мы яе папярэдзілі, што пакуль ідзе аздабленьне, трэба падпісваць паперы і рабіць першы ўнёсак, каб засяліцца праз тры месяцы. На што жанчына адказала, што прыедзе, калі ўсё будзе гатова, і ўмовы яе такія: на месцы адразу ўсё падпісаць, заплаціць яна гатоўкаю і засяліцца адразу ж.

Мы ўсе ў офісе падумалі, што тэлефануе хворая. І забыліся на яе амаль адразу.

У нас закіпела праца… але радасьці тое кіпеньне не прынесла, выявілася, што жыхары гораду нават

ПАГЛЯДЗІЦЕ, ЯК У АХВОТКУ ЛЮДЗІ ХОДЗЯЦЬ НА МОГІЛКІ, ЯК ТАМ ЧАСТА Ў СЬВЯТЫ ЯДУЦЬ І ВЫПІВАЮЦЬ ЯНЫ СА СВАІМІ, А Ў НЕКАТОРЫХ КУЛЬТУРАХ НЯБОЖЧЫКАЎ І ПА РЭКАХ СПЛАЎЛЯЮЦЬ, І ЯДУЦЬ ІХ ЗГАРЭЛЫЯ ПАРЭШТКІ, І МУМІФІКУЮЦЬ РОЗНЫХ МАНАХАЎ

слухаць не хацелі ні пра якія гарачыя прапановы ў новым комплексе «Мора-Акіян». Усе кідалі слухаўкі, альбо яшчэ горш – маглі аблаяць маладых і руплівых агентаў.

Быў час, я ажно страціў веру ў тое, што знайду пакупнікоў. Бо ня толькі тутэйшыя, а нават з суседніх гарадоў людзі адмаўляліся слухаць, і ўсе на адзін голас казалі, што побач з шыбенікамі жыць ня будуць, бо зямля там насычаная сьлязьмі ды іншымі вывяржэньнямі зь целаў павешаных. Да ўсяго, пайшлі плёткі, што там, побач з шыбеніцамі, у лясным гушчары пакараных і закопвалі, і быў такі цёмны час у нашай гісторыі, што нават расстралялі мясцовую інтэлігенцыю ў чорныя гады жыцьця пад акупацыяй.

Спачатку я думаў, што быў жа добры знак: пазваніла жанчына, няхай і здавалася вар’яткай, яшчэ да пачатку рэклямнай кампаніі, – але ўсе нашыя тэлефоны ў офісе пачалі пакрывацца пылам, ніводны не азываўся, толькі мы назвоньвалі з мабільных кліентам. Шчыра скажу, я і ня памятаю, хто працаваў у маім офісе, але мой памагаты Януш выконваў працу за пецярых, і ўсё адно пад канец будаўніцтва, калі здалі гатовыя дамы, я выдыхнуў з палёгкай, бо яшчэ пара месяцаў – і варта было б хвалявацца наконт фінансаваньня. А цяпер заставаўся час сабраць усе сілы і шукаць кліентаў, я нават падумваў, каб заахвоціць Януша паехаць у Галівуд і пагутарыць пэрсанальна зь Людвігам пра нечуваныя пэрспэктывы – займець маёмасьць каля мора, на гары, вокнамі на чатыры бакі сьвету, такіх дамоў ніхто ніколі не будаваў, і да ўсяго, тут можа ўсё вырасьці ў залаты зімовы курорт, у параўнаньні зь якім той жа Аспэн будзе глядзецца недарэчнай вёскай…

І не пасьпеў я дадумаць, як мне патэлефанаваў мужчына і сказаў, што хоча зараз прыехаць і набыць кватэру. На месцы падпіша ўсе дамовы, заплаціць наяўнымі.

– Хм, дзіўна неяк. Здаецца, я чуў пра гэты дом, але ў маладосьці жыў у іншай краіне, мне бацькі распавядалі, што нехта тут распачаў будоўлю стагодзьдзя, але я ня надта слухаў, што там бацькі распавядалі, прыяжджаў рэдка, дый тое, калі вымушаны быў, а цяпер… Бачыце, амаль трыццаць гадоў даглядаў бацькаў бар, сям’ёй аброс, варта было толькі на пахаваньне маці прыехаць і ўбачыць, які хворы зрабіўся мой стары.

– Вось таму вам будзе цікава пачуць гэтую гісторыю зь першакрыніцы, а не з газэтаў, якія пісалі розную лухту і нават пачалі праводзіць незалежныя расьсьледаваньні якасьці і хімічнага складу будматэрыялаў. Але я забег наперад.

– Я, шчыра, даволі доўга зусім не цікавіўся жыцьцём сваёй правінцыі, бо марыў скончыць школу і адразу паляцець мясцовым кукурузьнікам у сталіцу, бо там было шмат пэрспэктываў.

– А ў выніку… – і мужчына разьвёў рукамі.

– Так, у выніку я працягваю бацькаву справу і жанаты са сваёй аднаклясьніцай. Каб мне сказалі пра гэта ў мае дзёрзкія дваццаць тры, калі я быў безразважным шаленцам, змагаўся зь дзяржавай і лічыў, што ўхапіў удачу за хвост…

– Во-во, і я лічыў, што ўхапіў удачу за хвост з гэтай неверагоднай гарой шыбенікаў.

І вось уявіце, праз гадзіну да нас у офіс, а мы перавезьлі яго з падгор’я на першы паверх аднаго з корпусаў навабуду, заходзіць мужчына – выглядае ён, нібыта яго білі на баксёрскім рынгу, а потым не далі нават душ прыняць і гэткага сіняга, змалочанага і сьмярдзючага выправілі да нас.

Ён рухаўся нібыта ў сьне, павольна. Зайшоў, павітаўся і спытаў, хто прадасьць яму жытло.

Я паказаў яму на фатэль, хітнуў сакратарцы, і тая ўзялася рыхтаваць паперы.

Я зьбіраюся зь першым пакупніком кватэры працаваць асабіста – так бы мовіць, сам запушчу машыну продажу.

Мужчына сеў і на імгненьне быццам прыснуў, потым заківаў галавой, нібы пагадзіўшыся са сваім унутраным голасам, паклаў на мой стол старую валізку, раскрыў яе, і я ўбачыў купу наяўных грошай, банкноты былі неахайна спакаваныя, некаторыя пакамечаныя… Я адразу падумаў, што мужчына ці абрабаваў банк, ці разьбіў велічэзную скарбонку, куды зьбіраў грошы не адзін дзясятак гадоў.

Я папрасіў Януша ўзяць валізку, пералічыць грошы і трымаць пры сабе, пакуль мы не падпішам дамовы.

Праз гадзіну я ўжо перадаваў ключы першаму ўладальніку кватэры. І ведаеце, што мяне зьдзівіла? Мужчына зайшоў у новае жытло безь нічога, без валізаў, торбаў, і машыны не было з рэчамі для пераезду.

Я – Адам. Адам Тарасаў.

Ну дык вось, мінае роўна тры дні, і я магу прысягнуць, што роўна а дзявятай гадзіне раніцы мне тэлефануюць. Цяпер ужо жанчына па тэлефоне, нібыта з далёкай краіны, голас зь іншага канца сьвету, глыбокай ямы, і распавядае, што хутка прыедзе набыць кватэру, на апошнім паверсе, з сабою вязе гатоўку.

Разумееш, Томас, усё як дэжавю, паўтараецца: званок, візыт, валізка скамечаных грошай, толькі гэта была жанчына, і выглядала яна гэтак, быццам толькі што перанесла апэрацыю на страўніку, і яе адразу з бальніцы пасланлі сюды: яна няспынна ікала і трымалася за жывот, і гэтая яеікаўка (нібыта перад вачыма ўсё тое) сьмярдзела скіслым халадцом. Яна падпісвае паперы, а выглядае, нібыта яе званітуе.

МУЖЧЫНА СЕЎ І НА ІМГНЕНЬНЕ БЫЦЦАМ ПРЫСНУЎ, ПОТЫМ ЗАКІВАЎ ГАЛАВОЙ, НІБЫ ПАГАДЗІЎШЫСЯ СА СВАІМ УНУТРАНЫМ ГОЛАСАМ, ПАКЛАЎ НА МОЙ СТОЛ СТАРУЮ ВАЛІЗКУ, РАСКРЫЎ ЯЕ, І Я ЎБАЧЫЎ КУПУ НАЯЎНЫХ ГРОШАЙ, БАНКНОТЫ БЫЛІ НЕАХАЙНА СПАКАВАНЫЯ, НЕКАТОРЫЯ ПАКАМЕЧАНЫЯ…

Я тады падумаў, што яму ўсё прывязуць яшчэ… і папрасіў Януша зноў пералічыць грошы.

Можна мне запаліць тут?

– Добра, курыце, сёньня пусты вечар, сьнег мяце гэтак, што на двор хіба вар'ят выйдзе, – сказаўшы гэта, я пашкадаваў, бо мужчына пільна на мяне паглядзеў, але не было відаць па ягоным твары, што я яго пакрыўдзіў. – Вам наліць яшчэ?

– Давай, налі, мы ж на ты, добра?

– Ага. Тады пазнаёмімся: Томас.

– Зрабі мне двайны грог, то-бок вялікі куфаль, можна нават літровы, піўны. Калоціць мяне.

– Ох, фу, брыдота.

– І вось, Томас, усе тэлефоны ў офісе маўчаць, замоваў няма, але кожныя тры дні я атрымліваю кліента праз мабільны тэлефон. Усе кліенты далёка ня ў лепшым фізычным стане. Нягледзячы ні на што, на розны ўзрост і стыль адзеньня, усе гэтыя людзі выглядалі, нібыта яны адной нагой у труне. Стандартная схема: за гадзіну ўсё аформіць – грошы ў валізцы – ключы ад кватэры.

Некаторыя ўдваіх прыходзілі, і ўтраіх, але ніводнай сям'і зь дзецьмі я не засяліў. Усе выглядалі самотнымі парамі, сужыцелямі, сябрамі…

А цяпер, Томас, давай займемся матэматыкай.

– Добра, Адам, ты ня супраць, калі я і сабе налью?

– Ды рабі што хочаш! Мне трэба пра ўсё распавесьці, бо я нават дзецям нічога не казаў, а жонка ўвогуле думае, што я на старасьці гадоў паехаў урэшце адведаць бацькоўскія магілы. Разумееш, я занадта доўга трымаў гэта ў сабе.

– Так, разумею, – адказаў я, змаўчаўшы, што ва ўсіх разьвязваецца язык з бармэнам.

– Глядзі, ёсьць тры будынкі на дваццаць паверхаў, аднапад'ездавыя будынкі, квадратныя з чатырма кватэрамі на паверсе, каб кожная кватэра выходзіла на іншы бок сьвету, – атрымліваецца роўны крыж. Потым у нас першыя паверхі ў дамах – паркінг, і ў адным доме мы забралі другі паверх цалкам пад офіс. А, ну і апошні паверх – гэта пэнтгаўс, адзін пэнтгаўс на паверх – разам тры пэнтгаўсы. Палічым, колькі кватэраў агулам з пэнтгаўсамі: дзьвесьце пятнаццаць.

І як павялося, кожны трэці дзень я прадаваў кватэру. Два гады запар, нікуды не зьяжджаючы, я прадаваў кватэры. Супрацоўнікаў усіх звольніў, бо яны ня мелі працы, толькі Януша пакінуў, які на самым пачатку, калі я афармляў трэцяга паводле ліку кліента, паклаў мне ў рукі ляльку.

– Якую ляльку? У сэнсе? Праз гэта вы Януша пакінулі? Ці што? – Відавочна, мой госьць ужо добра сагрэўся, і нават разагрэўся грогам – пра гэта сьведчыла няроўнае апавяданьне.

– Не. Слухай. Прыносіць мне Януш ляльку, я гляджу – апранутая, як я, і нават у прышытых гузіках я знайшоў падабенства да сваіх вачэй.

Януш мне кажа, што лялька – абярэг. Што не падабаюцца яму гэтыя паўжывыя кліенты. І што я адзін атрымліваю іхныя званкі і замовы – нячыста гэта. Кажа мне, каб ляльку я насіў у кішэні, што зрабіў яе з маіх шкарпэтак, якія днямі падабраў у душавой.

А я яшчэ бегаў шукаў тыя шкарпэткі.

– Гэта што, Адам, лялька вуду нейкая?

– Я ня ведаю, сур'ёзна, але пачаў яе насіць у кішэні швэдра, назваў яе Джэкам, бо спадабалася, як гучыць, ну й верш такі, помню, мне ў дзяцінстве маці чытала: «Дом, які пабудаваў Джэк», так што ўсё супала. Я таксама дом пабудаваў. І не адзін.

І вось мінаюць тыдні, павольна, але непахісна я прадаю кватэры разам зь Янушам і Джэкам, і вось што дзіўна – паркінг пусты. Ніхто з жыхароў ня езьдзіць аўтамабілем? Немагчыма. У двары ніхто не гуляе з сабакам, не выходзіць на шпацыр, дзяцей на пляцоўцы няма.

Мой праект «Мора-Акіян» ператварыўся ў жах і без шыбеніцаў. А іх мы, дарэчы, вырашылі ня зносіць, бо хто ведае, што пад імі ў зямлі ляжыць… Проста перарабілі іх у аркі ды абсадзілі плюшчом, каб усё гэта схавалася з вачэй, бо напраўду ніхто не наважыўся выкопваць іх.

У вокнах дамоў вечарамі зрэдку запальвалася сьвятло.

Я суцяшаў сябе думкаю, што, відаць, гэтак спрацавала рэклама, і сюды багатыя сваякі выправілі нямоглых, старых і ссохлых родных – дыхаць паветрам, бо мора побач, і лавіць промні сонца ў кожнае імгненьне дня.

– Разумею вас, цяжка было назіраць, як руйнуецца мара.

– І не кажыце, я ж спадзяваўся на іншае, але першыя два гады можна было назваць самымі прыўкраснымі, пакуль прадаваліся кватэры. А пазьней, калі да мяне прыйшла маладая пара, нечакана маладая, я нават зьдзівіўся, што хлопец і дзяўчына выглядалі звычайна, ня кепска і ня хвора, акрамя, можа, шнараў – шырокіх і чырвоных, на руках у абодвух. Яны мне сказалі: «На пятнаццатым паверсе ў вас засталася кватэра нумар

пяцьдзясят тры. Мы яе набываем». І вывалілі мне з торбы, старой такой торбы, прагнілай, цэлы стос скамечаных банкнотаў.

Калі хлопец нахіляўся вытрасьці грошы на стол, я заўважыў у яго агідна тоўсты чырвона-сіні шнар на патыліцы, і яшчэ падумаў: з такімі шнарамі не жывуць.

Я праверыў дакумэнты, але насамрэч правяраць не было чаго, бо я і сам ведаў, што ў мяне засталася свабодная толькі кватэра пяцьдзясят тры.

Ну вось, я прадаў ім апошнюю кватэру. Выдыхнуў, супакоіўся, пачаў думаць, што і гэты офіс мне не патрэбны, і паркінг таксама… Думаю сабе, гладжу звыкла ў кішэні Джэка, і тут чую сьветлы, разумны голас у галаве: «Трэба табе, Адаме, зьяжджаць куды падалей, грошы на рахунку ёсьць, «Морам-Акіянам» няхай далей займаецца Януш!»

І на наступны дзень я перадаў усе справы Янушу, зрабіў яго аканомам, дворнікам (прыбіраць і так не было патрэбы, бо сьмецьце не зьбіралася), ахоўнікам і вахтарам.

Зьехаў я на радзіму, думаў, што на пару тыдняў, ажно захрас там да сёньня, бо займеў сям'ю.

– Мы з табой тут падобныя, мне таксама трэба было рызыкнуць, каб зразумець, што дома лепш!

– Не кажы, Томас, і вось калі я зьехаў, – Адам працягла каўтнуў палову ўжо цеплаватага грогу з паўлітровага куфля, і працягнуў: – Калі я зьехаў, на наступны дзень, а гэта значыцца, зноў на трэці…

Памёр першы пакупнік. Знайшоў яго мёртвым Януш, бо хадзіў па калідорах і заўважыў на дзьвярах нейкую цьвіль, пачаў адціраць, а цьвіль не паддаецца, да ўсяго яшчэ і прарасла неяк дзіўна, літарай Х…

Ну, Януш пачаў адскрабаць, налёг на дзьверы, а тыя адамкнуліся, і вось, карціна алеем: мярцьвяк.

Ты разумееш, блізкіх у яго няма, страхоўкі ніякай, толькі цела ў кватэры – акуратна адзетае, абутае, нібы гаспадар кватэры паклаўся, стомлены, у гарнітуры адпачыць. Нават дакумэнтаў не знайшлі… Але ж я і ня памятаю, каб ксэракапіяваў іх, усе дамовы запаўнялі на падставе таго, што даваў мне ў якасьці пашпарта кліент, і я, далібог, не магу згадаць, што дакладна бачыў.

Мэдычная экспэртыза выявіла спыненьне сэрца, якое, паводле патолягаанатама, было ў вельмі кепскім стане.

Я папрасіў Януша сьціпла і акуратна пахаваць майго першага пакупніка на гарадзкіх могілках, што ніжэй па схіле гары.

> Я ПАПРАСІЎ ЯНУША СЬЦІПЛА І АКУРАТНА ПАХАВАЦЬ МАЙГО ПЕРШАГА ПАКУПНІКА НА ГАРАДЗКІХ МОГІЛКАХ, ШТО НІЖЭЙ ПА СХІЛЕ ГАРЫ

І каб ні слова не пратачылася ў мэдыя! Каб ніводнай літары зь любога сказу, слова, радка пра тое, што адбылося, не зьявілася ні ў воднай газэце. Самі аплацім пахаваньне.

– Ды гэта неймаверная гісторыя. Адам, ты мне тут прыдумляеш, п'яны… Але добра, распавядай, я люблю такое слухаць.

– Вось бачыш, я і кажу, людзі любяць пра сьмерць слухаць, пагатоў вусьцішныя гісторыі, і ня толькі слухаць, але і зазіраць пад ложак, у шафу альбо ў чорны калодзеж, у спадзеве спужацца – але ня так моцна, каб адбіла ахвоту ўзірацца праз мяжу дазволенага.

Карацей, усё памкнулася, нібыта ў зваротным кірунку. Кожны трэці дзень Януш знаходзіць на дзьвярах імшыстыя крыж, а за дзьвярыма нябожчыка, нябожчыцу альбо адразу дваіх памерлых.

Я, каб не разьдзімаць з гэтага скандалу, на працягу двух гадоў выплачваў Янушу грошы, і той займаўся не ўладкаваньнем дамоў, але пахаваньнем за пахаваньнем.

Усё, што ў мяне засталося з той выспы, – а я ж паехаў толькі з дакумэнтамі, грашыма і спадзевамі, – мой Джэк. Я гэтак да яго прывязаўся, што нават памыў у пральнай машыне, зашыў і схаваў на кніжнай паліцы, пакуль падрослая старэйшая дачка не знайшла яго…

– Добра, добра, добра, Адам, а далей што?!

– Ну… Паліцыя толькі пацiскала плячыма: маўляў, самі вінаватыя, пазасялялі старых і нямоглых, яшчэ і на гушчары трох шыбеніц…

Ніхто нічога не хацеў ведаць, разважаць, шукаць адказаў, на мае дамы пачалі глядзець як на справядлівую кару.

– Ну ня ведаю – думаю, што ўсе гэтыя паліцэйскія дома ўвечары зьлівалі сваім родным інфармацыю пра сьмерці, пагатоў новых пахаваньняў не маглі не заўважаць у невялікім горадзе.

– Я мяркую, Томас, што я свой жылы комплекс пабудаваў дзеля таго, каб дапамагчы перапахаваць шыбенікаў у нармальных умовах, на могілках, бо іншага тлумачэньня ў мяне няма. А гэты Януш, хто б ён ні быў, надта ладна выканаў такую працу, яшчэ і Джэка мне стварыў. А сам, ведаеш што? – Адам відавочна быў нападпітку.

– Што?

– Зьнік ён. Разумееш, зьнік.

– Вось гэта гісторыя…

– Самая рэальная гісторыя, а то! Дарэчы, а як там гара тая, з шыбеніцамі?

– Ну як, я ведаю толькі, што пастаялі будынкі некалькі гадоў, потым улады абвясьцілі іх зонай карантыну, бо нейкая цьвіль пайшла па цэгле, вырашана было разабраць будынкі, бо высокія яны, і небясьпечна на гары.

– Гэта зразумела. Цікава, куды падзелі ўвесь матэрыял. Вядома, не адвозілі далёка, мо закапалі ў які катлаван.

– Я б у мора выкінуў, каб з канцамі. Але ведаеш, калі разабралі будынкі, цьвіль высахла, і нават амаль нічога не засталося, каб дасьледаваць і захоўваць карантын на гары…

– У мора, так, каб той жа Ктулху там пабудаваў дамы для тапельцаў, – і Адам засьмяяўся, а хутчэй захрыпеў, сумна і страшна. Потым рэзка сьціх. – Я сюды ня проста так прыехаў, бо колькі гадоў не дае мне спакою адзін і той жа сон – вось я ўздымаюся на гару, а там мяне сустракае навюткі, толькі пабудаваны комплекс «Мора-Акіян», увесь такі прыгожы, і з кожнага акна на мяне глядзяць яны, мае кліенты, жыхары… І я падымаюся на апошні паверх у сваім улюбёным трэцім корпусе, дзе месьціцца самы прыгожы, як на мой густ, пэнтгаўс. І шчасьлівы я ад гэтага, неверагодна… Нейкае нерэальнае шчасьце, такое, якога я ніколі не адчуваў, эўфарыя, словам. І вось я ў пэнтгаўсе, і мяне сустракае і абдымае надзвычай прыгожая, проста нейкая шалёна сэксуальная жанчына з кашэчымі вачыма, а я іду да яе і ў кішэні швэдра гладжу ляльку Джэка, а потым мне робіцца страшна, балюча шкада самога сябе і сьмерці… – стары апусьціў галаву на рукі, і на сэкунду здалося, што ён плача, але ён нешта прамармытаў пад нос і прыціх.

У МОРА, ТАК, КАБ ТОЙ ЖА КТУЛХУ ТАМ ПАБУДАВАЎ ДАМЫ ДЛЯ ТАПЕЛЬЦАЎ

А калі мінула хвіліна, я зразумеў, што мой наведнік сьпіць.

Я яшчэ пастаяў моўчкі, падумаў, што рабіць з Адамам, потым наліў сабе ўіскі ды замкнуў уваходныя

дзьверы – усё адно чакаць сёньня няма каго – і пайшоў у другую частку дому, жылую.

Мая памерлая жонка сядзела перад тэлевізарам з келіхам віна, у яе былі мокрыя валасы і адзежа.

– Даўно цябе не было.

– Справы.

– Там у бары заснуў адзін падарожнік.

– Ага.

– Што глядзіш?

– Нічога. Толькі ўключыла.

Я падышоў да валізкі побач з фатэлем, адчыніў, кінуў заробленыя сёньня некалькі паперак і жменю манэт, потым сеў у фатэль і выпраствў ногі.

– Ці доўга мне яшчэ зьбіраць грошы?

– Пакуль іх ня будзе дастаткова.

*Сакавік 2017 – кастрычнік 2018*
*Вісьбю, Готлянд, Швэцыя /*
*Вэнтсьпілс, Латвія*

# ЮГАСЯ КАЛЯДА

## ФАБРЫКА-КУХНЯ, МАСЬЛЕНІЦА-ПАМІДОР

Бабуля цяжка цягнулася да верху сэрванту: дрыжэлі рукі, і посуд на шкляных палічках дробна калаціўся.

– Гэта мой табе падарунак. Абавязкова вазьмі з сабой! Табе спатрэбіцца.

Так вялікі скарб перайшоў ва ўласнасьць Алісы: нязручная, яркая, з таўстасьценнага фаянсу, старая масьленіца ў форме памідора.

Да бабулі Аліса завітвала рэдка: яна цяпер жыла ў Менску, назаўжды.

А масьленіца яшчэ падыме накрыўку зь зялёным чаранком-ручкай і пакажа Алісе вантробы любові, гідоты й жаху.

* * *

На пятнаццаты год у Менску стасункі зь ім былі як шлюб па прымусе.

Штораніцу Аліса ішла між платоўсетак і сьмецьцевых бакаў, дэбаркадэраў раённых прадуктовых крамаў і паржавелых альтанак – ад дзіцячага садочку да прыпынку – і думала: « Я – не, а вось мая дачка любіцьме гэты маршрут, бо ён ёй будзе родны; а мне за што любіць усё чужое?»

Нешта ў горадзе Аліса любіла некалі, але тое зьнікла.

Першай пайшла плошча Незалежнасьці.

Пятнаццаць гадоў таму яе большую частку займала стаянка аўтамабіляў; а насупраць Чырвонага касьцёла былі кусты з лавачкамі на чырвоным жвіры.

І раптам замест плошчы выкапалі вялізную яму: у яе ўвайшоў бы і Чырвоны касьцёл, і гатэль «Мінск».

Адзін знаёмы пахваліўся быў Алісе, быццам неяк уночы, пакуль трывала будоўля, ён папісаў у гэты катлаван; і цяпер Аліса шторазу, стоячы ля парапэту гандлёвага цэнтру «Сталіца», уяўляла сабе траекторыю струменя, які падаў з-пад празрыстага купала, мінаючы тры паверхі ўглыб, на крышку мэханічнага раяля. Так яна помсьціла «Сталіцы» за зьнішчаныя лаўкі ў кустах на чырвоным жвіры.

Потым ад Алісы сышоў двор дома.

Калі зайсьці ў арку між Акадэміяй мастацтваў і інтэрнатам, то можна было трапіць у каралеўства бэзу і старых сараяў. Там, у завулку, яны зь сяброўкай здымалі кватэру на першым паверсе старога дому з эркерам.

У завулку жылося добра: вокны захіналі разлапістыя яліны, у вялікіх хмызах хаваліся лавачкі, як у альтанках, а за хмызамі ды каштанамі стаяў мур з чырвонай цэглы, стары мур.

Праз колькі гадоў Аліса, завітаўшы ў некалі свой дворык, не знайшла

яго: яліны з бэзам былі зьнішчаныя, закатаныя ў асфальт; мур з чырвонай цэглы зьнік; а на таемнай тэрыторыі, якую быў атачаў мур, паўстаў дванаццаціпавярховы гмах.

Ад трамваяў да праспэкту дворыкі зьнікалі адзін за адным. Аліса больш не хадзіла туды гуляць.

* * *

А аднойчы ў Алісы зь Менскам здарылася вялікая любоў. І скончылася дрэнна.

Яе начальнік знайшоў новы офіс. «Новым офісам» была старая фабрыка-кухня, пабудаваная ў 1936 годзе; дакладней, прыбудаваны да яе значна пазьней сарай ці барак, адным словам – офісны будынак. За Чырвоным касьцёлам спадала да Нямігі вуліца Берсана – тая, што зь іншага боку ператваралася ў Валадарскага – і таксама рэзка правальвалася ўніз, туды, дзе Гарадзкі вал уліваўся ў Нямігу. Над Нямігай, такім чынам, заставалася высокая паўвыспа, на якой стаяў Пішчалаўскі замак – і іх новы офіс.

ЗЬ ЛЕВАГА КРАЮ ТУРМЫ ТЫРЧЭЛА РУІНА НАПАЛОВУ АБВАЛЕНАЙ ВЕЖЫ – УСЕ СВАЕ ЧЫРВОНАЦАГЕЛЬНЫЯ ВАНТРОБЫ ДЭМАНСТРАВАЛА ВЕЖА ДЗЁННЫМ НАСЕЛЬНІКАМ ФАБРЫКІ-КУХНІ

Калі Аліса ўпершыню ўвайшла ў новы «дом», калегі весела расстаўлялі сталы, вырашаючы, хто дзе сядзецьме. Сталы яны чамусьці называлі нарамі.

– Аліска, мы табе лепшыя нары ля вакна падрыхтавалі! – калега Толік паказаў ёй рукой на стол у куце; на ім ужо грувасьціліся скрыні зь яе скарбам.

– Вы што, звар'яцелі, псіхі? – пацікавілася Аліса. – Якія нары?

Усе шматзначна пасьміхнуліся, маўляў, зараз убачыш сама. І Аліса ўбачыла.

Вялікае вакно глядзела ў глухі дворык, зарослы травою, дзядоўнікам ды старымі дрэвамі; у іх хаваліся старажытныя гаспадарчыя пабудовы; а атачаў дворык шэры мур, на версе якога віліся скруткі дроту.

І тут зрок абвастрыўся, і яна адрозьніла дэталі: ліхтары; вокны, забраныя кратамі; ды добра знаёмыя, але зь іншага ракурсу, вежы Валадаркі – Пішчалаўскага замку, які ніколі ня быў замкам, а толькі вязьніцай. Зь левага краю турмы тырчэла руіна напалову абваленай вежы – усе свае чырвонацагельныя вантробы дэманстравала вежа дзённым насельнікам фабрыкі-кухні. Ацалелую частку цыліндру перацягвалі стужкі зялёнага колеру.

– Як быццам ізалентай яе абкруцілі, праўда? – кіўнуў у бок вежы Толік, які таксама вывучаў схаваны раней гарадзкі пэйзаж.

– Мне падабаецца тут, – пастанавіла Аліса.

Схема пабудоваў была наступнаю: парадны фасад цягнуўся ўздоўж вуліцы Валадарскага, гледзячы на яе пустымі вялікімі пыльнымі вокнамі (ні фабрыкі-кухні, ні рэстарацыі «Папараць-кветка», ні нават начнога клюбу «Старз» тут ужо не было; толькі тры вакны займаў кабак «Дрожджы»). Для Алісы гэты двух- (а месцамі трох- і нават чатырох-) павярховы «офісны» будынак, прылеплены да фабрыкі-кухні ножкай літары «Т», ягоныя гарышчы з сутарэньнямі былі крыніцамі шчасьця.

Калі Аліса ўзімку, у накінутым на плечы паліто, перабягала з гарачым чайнікам двор, то пачувалася як у дэкарацыях фільма пра Сярэднявечча: не стасаваліся вантробы двара з тым, што завецца «сучасным бізнэсам».

Часта ў двары можна было сустрэць Якаўлеўну. Тая крычала, убачыўшы яе здалёк, – не Алісе асабіста,

а проста дзялілася бурлівымі эмоцыямі:

– Не, ну ты паглядзі на яго! Ляжыць там на дошках ды сьпіць! Схаваўся! Думаў, не знайду я яго! А працаваць хто будзе? – і Якаўлеўна абурана ўдарала рукой паветра, а Аліса разводзіла рукамі: ну як так можна?

Якаўлеўна лаялася на дворніка Васю: кволага мужычка, бездакорна ветлівага, але безнадзейнага алькаголіка. Васеў офіс, дзе ён захоўваў арсэнал мяцёлак, месьціўся празь сьценку ад іх, у «Булачках»: у спадчыну, відаць, ад «Папараць-кветкі» ці то ад самой фабрыкі-кухні застаўся гэты надпіс алеем на філёнчатых дзьвярах: калісьці там рабілі булачкі, а цяпер Вася на канапе слухаў радыё ў рэдкія гадзіны мэдытацыі, пакуль Якаўлеўна аслабляла свой кантроль.

Радыё слухалі, аднак, усе: улетку, калі адкрывалі вокны, – гэта было радыё, якое ўключала адміністрацыя турмы для вязьняў. Напрыклад, выпадковую песьню, якая раіла «ісьці дарогаю дабра»: выпадковая мэлёдыя лунала па-над дратамі, безуважная да лёсу зьняволеных слухачоў, калісьці пайшоўшых дарогаю зла.

З турэмнай завядзёнкі яны засвоілі й гук, які абвяшчаў адкрыцьцё турэмнай брамы: кароткую сырэну. Яна раўла – і ўсе ведалі: усярэдзіну ці навонкі едзе аўтазак.

Даляталі да офісу й званы зь Верхняга гораду: густы пераліў а шостай вечара нагадваў, што час ісьці дадому.

А запраўляла тут усім Якаўлеўна. Суворая ды крыклівая, яна выклікала анямельне толькі пры знаёмстве.

Крыху пазьней у Алісы зьявіцца нагода пранікнуцца да Якаўлеўны сапраўднай павагай, і ня жартам, – але пра тое пазьней. Тая нагода была ня надта вясёлаю.

Якаўлеўна любіла хадзіць у госьці да «арандатараў», як яна іх усіх пяшчотна называла, а «арандатары» любілі прымаць Якаўлеўну – бо праца спынялася, а пачыналася сьвята.

Якаўлеўна прыходзіла нібыта каб палаяцца.

– Валодзя! – пачынала яна крычаць на парозе. – Што гэта такое? Чаму ў цябе вешалка на адным цьвіку вісіць? Ты мужык ці ты хто? Ідзі ў Васі малаток вазьмі, каб за пяць хвілінаў усё было зроблена! Ай, Валодзя, сорам які! Скажу сваёй дачцэ, каб ня йшла замуж за цябе! – і адразу зьнікала, каб бегчы па іншых справах.

Якаўлеўне ўсё рупіла; уся гаспадарка трымалася на ёй. Дзе б Аліса ні хавалася з цыгарэтаю – пад брылём ля дошак, на якіх любіў мэдытаваць Вася ў алькагольным трансе; у высокай траве ля закінутага з даваенных часоў сарая, абцягнутага зялёнай сеткай; за пустым гаражом з паржавелай бляхі; пад вялікім дрэвам, на якім жылі чырвоныя жучкі, – абавязкова на даляглядзе намалёўвалася Якаўлеўна, якая бегла па важных справах. Якаўлеўна абавязкова пагражала ёй пальцам, а аднойчы ўлетку, калі трывала сьпёка, крыкнула:

– Ты глядзі мне тут падпал не ўчыні! Бо згарыць мур, як пабягуць адтуль зэкі, дык мяне з той Валадаркі да канца жыцьця ня выпусьцяць!

Энэргія Якаўлеўны была невычэрпнаю.

Абедаць, а часьцей – піць каву Аліса хадзіла ў «Дрожджы», пагатоў што й хадзіць ня трэба было, а толькі перабегчы двор. Тамсама часьцяком адбываліся сустрэчы з абранымі кліентамі, якіх саромеліся запрашаць у офіс.

Аліса любіла сядзець з кавай ля вакна ды абсмоктваць рэфлексіяй страшны, неспасьцігальны кантраст, які ўтваралі інтэр'ер з заваконным гарадзкім пэйзажам: позірк углыб – і нэонавыя блікі рытмічна міргаюць на цёмным дрэве, і ты як быццам ва ўтульнасьці, у прыгожым горадзе, які можна любіць; позірк навонкі – і ты

бачыш гмах Дома ўраду, і шэрая вільгаць віруе ды кубліцца ў пустым небе Менску.

Неспасьцігальны кантраст інтэр'ераў і вонкавага сьвету стварала ўся фабрыка-кухня, усе яе будынкі цалкам. У офісе Алісы рамонт быў звычайны; а вось суседзі спаборнічалі ў аздабленьні хто як мог. Аліса, калі праходзіла па калідоры, зазірала зь цікаўнасьцю ў дзьверы; і кожнае памяшканьне розьнілася ад суседзкіх, як асобная плянэта. Адныя паклалі драўляную падлогу ды паставілі скураную мэблю – ім толькі каміну не ставала; другія асьляплялі бялюткімі сьценамі ды празрыстымі перагародкамі; у трэціх кветкі зьвісалі з-пад столі; але дасьціпнейшымі аказаліся суседзі з правага боку: яны ўтварылі ў двух сваіх пакойчыках начны клюб у мініятуры і нават павесілі дыска-шар.

Аліса зразумела, чаму Якаўлеўна любіла хадзіць у госьці: яна як быццам вандравала ў космасе, трапляючы штораз на іншую плянэту.

А ў ісьце, думала Аліса, калі павыносіць мэблю, дэмантаваць шкляныя перагародкі, абдзерці шпалеры ды кілімы – застанецца тая самая фабрыка-кухня.

Раз на год усіх арандатараў раўняла ў эстэтычных правох зіма. Стыхія змагалася за роўнасьць адмысловым чынам: над галоўным уваходам (адзіным прыстойным) навісалі ледзяшы памерам з тры Якаўлеўны. Тады дзьверы заляплялі крыжам зь бела-чырвонай стужкі, а галоўным уваходам прызначалі дэбаркадэр другога паверху. Стромкі бляшаны ганак парэнчаў ня меў. Людзі, трымаючы адно аднога, караскаліся па бляшаным дэбаркадэры; і так – ажно пакуль з даху на маленькі ганак не абрынуцца ільдзяныя сталакціты.

ТАДЫ ДЗЬВЕРЫ ЗАЛЯПЛЯЛІ КРЫЖАМ ЗЬ БЕЛА-ЧЫРВОНАЙ СТУЖКІ, А ГАЛОЎНЫМ УВАХОДАМ ПРЫЗНАЧАЛІ ДЭБАРКАДЭР ДРУГОГА ПАВЕРХУ

Але аднаго разу лёд навіс і над дэбаркадэрам. Тады Якаўлеўна прыняла адзіна вернае рашэньне: абвясьціла збор грошай на кран з рабочымі, якія абаб'юць лёд з даху.

– А пакуль не здасьцё, – памсьліва дадала Якаўлеўна, – хадзеце праз падвал!

І не схлусіла: цяпер і бізнэс-ледзі ў футрах ды на абцасах, і сур'ёзныя мужчыны са скуранымі партфелямі, і ўсе астатнія «арандатары» – кожны пачынаў свой працоўны дзень з таго, што спускаўся па пакладзеных дошках у падвал, некрануты з моманту стварэньня будынка – з 1936 году; праходзіў даўжэзным скляпеньнем з важкімі дзьвярыма паабапал – і бег хутчэй ратавацца ў свой штучна створаны офісны сусьвет.

* * *

Аднак у хуткім часе адбыліся падзеі, якія атруцілі і фабрыку-кухню.

Увечары 19 сьнежня 2010 году, калі натоўп на плошчы Незалежнасьці стаяў яшчэ вельмі трывала, Аліса і трое яе калегаў аддзяліліся ад людзей ды скіраваліся ў офіс: наведаць прыбіральню і пагрэцца. Завітаць сюды яны плянавалі цягам усёй ночы, а далей – колькі спатрэбіцца.

Але чым бліжэй была мэта, тым болей яны разумелі, што ва ўласны офіс ня трапяць. Шлагбаўм падняты. Ахоўніка ў будцы няма. Але ўвесь двор – увесь родны ўтульны дворык – застаўлены аўтазакамі. А паміж машынамі – верагодна, не пустымі, а забітымі пад завязку, – хадзілі людзі ў чорных шлемах. Адзін з «касманаўтаў» заступіў ім дарогу:

– Туды нельга.

Анатоль завёўся з паўабароту, што было вельмі неабачліва для яго як для чалавека зь неабароненай галавой:

– Гэта наш офіс! Мы плацім за яго грошы! Мы маем права туды праходзіць і ўдзень, і ўночы! На якой падставе вы нас не пускаеце? Пакажыце дакумэнты!

– Туды нельга! – паўтарыў чалавек, твар якога быў схаваны за шлемам, і зрабіў крок наперад.

Аліса адразу павярнулася ды пайшла прэч. Ёй не хацелася даводзіць спэцназаўцу, што яна мае права ўваходу ва ўласны офіс. У той вечар – яна гэта цьвяроза ўсьведамляла – ня дзейнічала ніякае права. Пагатоў яны прыйшлі на плошчу – то трэба быць на плошчы.

Пасьля Новага году бізнэс звычайна ідзе ня надта актыўна, а ў той год – і тым больш, бо здарыўся нарэшце прапісаны ў кожнай дамове форс-мажор: ня ўсе яшчэ выйшлі з «сутак». Валодзя прасядзеў у турме пяць дзён, Анатоль – пятнаццаць, а Аліса ўцякла, яе не злавілі. І дворык быў апаганены чужымі.

Прыйшла вясна, і вось аднойчы ўдзень дзьверы офісу расчыніліся і на парозе паўстаў – не, ня Якаўлеўна, не кліент і не сусед, які прыйшоў па цукар, – ды не затрымаўся на парозе, а ўпэўнена прайшоў усярэдзіну, грукаючы цяжкімі ботамі, чалавек у чорным шлеме. Ён спыніўся ля Толіка (бо той сядзеў бліжэй да дзьвярэй), тыцнуў яму пад нос маленькі прадмет на далоні ды нешта загадна прабурчэў – словаў было не разабраць за шлемам.

Толік павольна павярнуў галаву ў бок няпрошанага госьця ды папрасіў паўтарыць.

– Фільмаў мне на флэшку закінь! – змушана падвысіў голас спэцназавец. – Фільмаў на флэшку! – і патрос перад тварам Анатоля раскрытай даланёй з дэвайсам.

– У. Мяне. Няма. Фільмаў, – адрубаючы кожнае слова, як мага спакайней адказаў калега Алісы ды адвярнуўся да манітору, ледзь не зачапіўшы далонь, якая тырчэла ў яго пад носам. Аліса заўважыла, як зьбялеў ягоны твар.

Спэцназавец выйшаў.

Аліса, счакаўшы дзьве сэкунды, кінулася да дзьвярэй ды замкнула іх на ўсе абароты.

– Быдла, – выдыхнуў Толя, – ненавіджу!

І тут Аліса закрычала, літаральна закрычала, закрыўшы адразу рот рукамі. Яе позірк трапіў за вакно: іх некрануты зялёны ўнутраны дворык быў поўны аўтобусамі ды аўтазакамі, між якімі хадзілі і спэцназаўцы ў шлемах, і звычайныя міліцыянты ў форменных кепках.

Усе ў офісе згрувасьціліся на падваконьні.

– Ну і што гэта такое? – пацікавіўся неабазнаны Максім.

– Дык серада ж, – здагадалася Аліса.

– А чаму яны сюды прыпёрліся? Зьбіраемся ж нібыта каля ГУМу.

Ніхто не адказаў.

Тым часам з аднаго аўтобуса выйшла тройка касманаўтаў ды бессаромна, нібыта іх не разглядалі дзясяткі вачэй, скіравалася да турэмнага муру, на якім – о дзіва! – пакінула тры вільготныя плямы.

– Можа, яны нас не заўважаюць? – выказала здагадку Аліса.

– А можа, яны на нас сцаць хацелі? – скрывіўся Анатоль.

Калі ў той дзень Аліса выйшла з офісу, каб ісьці – не, не дадому, – яна мімаволі здрыганулася ад гідоты: калі ва ўнутраным дворыку стаялі і аўтазакі, і звычайныя аўтобусы, то тут, каля ўваходу, – толькі аўтазакі; і, каб прайсьці да выхаду, трэба было праціскацца між браняваных машынаў

АЛІСА ВЫЙШЛА З ОФІСУ, КАБ ІСЬЦІ – НЕ, НЕ ДАДОМУ, – ЯНА МІМАВОЛІ ЗДРЫГАНУЛАСЯ АД ГІДОТЫ

і людзей у шлемах, якія не саступалі дарогу.

У наступную сераду Якаўлеўна прыбегла да іх з раніцы.

– Так, арандатары! Слухайце сюды! Сёньня працуем да чацьвёртай, а потым вымятайцеся! Я тут усё закрываю, замыкаю на ўсе замкі. Прыбіральні ўсе замыкаю ад мусароў гэтых паганых! І электрычнасьць адключаю! Ясна? Пасьля чацьвёртай каб я ня бачыла тут нікога!

І далей зашаптала:

– Вы б бачылі, у што яны мне мінулага разу прыбіральніператварылі! А за сараямі што нарабілі! Дык вось сёньня хай за сараямі ... і ..., а прыбіральні – пад замком!

І пабегла да суседзяў.

Аліса паглядзела туды, дзе яшчэ колькі сэкундаў таму стаяла гэтая энэргічная грубая жанчына. Хто б мог падумаць, што яна таксама ня любіць няпрошаных гасьцей.

А аднойчы ўвосень Якаўлеўна не прыбегла, а прыйшла, і не крычала, а моўчкі паклала на стол дырэктару ліст. І дадала, сумна ды спакойна:

– Месяц вам на высяленьне.

– Нам? За што? – Аліса, якая нічога ня ведала, акругліла вочы.

– Усім. Гаспадары высяляюць усіх. Рамонт рабіцьмуць. Ці будоўлю наагул.

Як можна «рабіць будоўлю» на месцы помніка архітэктуры, Аліса ня ведала ды ведаць не жадала. Менск каторы раз рабіў балюча. Ці гэта быў ня Менск, а нехта іншы? Той, хто гаспадарыць тут?

Наступны месяц размовы між суседзямі круціліся вакол адзінай тэмы:

– А ці знайшлі вы новы офіс? А дзе? А колькі за мэтар?

Але выяжджалі ўсё адно сьпехам, у апошнія дні. Выносілі скураныя фатэлі нафтавікі; валачылі празрыстыя мяхі, напханыя ліфчыкамі ды трусамі, аптавікі; дзяўчаты з кадравай агенцыі акуратна несьлі вазоны з кветкамі; а дыска-шар сьвяточных арганізатараў пабіўся ды ляжаў наверсе імправізаванага сьметніку, абсыпаючы сонечнымі зайчыкамі дворык, патанулы ў гармідары: надвор’е ў дзень глябальнага пераезду трывала добрае, бясхмарнае – дрэнная прыкмета.

І Аліса разам з калегамі пераехала; куды? – неістотна; у іншае месца, якое немагчыма было любіць.

* * *

Перабіраючы посуд у шафе, Аліса выцягнула з далёкага кута падарунак бабулі: масьленіцу ў форме памідора. Вырашыла памыць і яе таксама, хоць і не карысталася.

На донцы Аліса заўважыла сто разоў бачанае кляймо: марку завода-вырабніка.

– Эўрыка! – сказала Аліса. – Зараз я ведацьму пра цябе ўсё, памідорчык мой любы!

На гэтым, уласна, і скончылася генэральнае прыбіраньне кухні, прымеркаванае да адпраўкі дачкі да сьвёкраў на выходныя.

За паўгадзіны вывучэньня ў інтэрнэце форумаў антыквараў Аліса высьветліла ўсё. Па-першае, кляймо належала менскаму заводу парцаляны; па-другое, масьленіца-памідор была выробленая ў пяцідзясятыя гады; па-трэцяе, антыквары давалі за яе мала, і яшчэ адну кватэру ў Менску на гэтыя грошы набыць было немагчыма. Нават машыны за яе не атрымаеш, пральнай ці швейнай.

Але Аліса адчайвалася нядоўга: вось жа, і Менск здолеў стварыць рэч, якую яна любіла ўсім сэрцам! А хіба можа яна застацца няўдзячнай Менску за такі падарунак? А чым Менску можна адплаціць за любоў? Толькі любоўю наўзамен!

Доўгія гады пошукаў, думала Аліса, стаўляючы посуд назад у шафу, а любоў да Менску была літаральна ў яе руках!

Цяпер заставаўся апошні, галоўны крок: знайсьці гэты завод парцаляны, пайсьці туды ды зірнуць на яго хоць праз плот, хоць здалёк! І далей ужо спакойна жыць у Менску ды любіць яго, ведаючы, што горад прыхаваў для яе шмат цікавостак ды падарункаў, проста не сьпяшаецца аддаваць.

Аліса села шукаць у інтэрнэце адрас Менскага заводу парцаляны. Той знайшоўся хутка – і наступным крокам Аліса адкрыла спасылку, якая абяцала вялікую фотаэкскурсію па заводзе.

Зьнямеўшы, пракручвала Аліса адзін за адным фотаздымкі таго, што засталося ад заводу. Ад месца, дзе была вылепленая, абпаленая ды расфарбаваная самая любімая рэч Алісы.

Парцалянавы завод не існаваў ужо каторы год. І калі выявы пустых цэхаў яшчэ можна было стрываць, то відовішча падлогі, засыпанай бітымі чарапкамі, аказалася нясьцерпным. Аліса закрыла ноўтбук, адчуваючы нібыта апёк ад удараў на абедзьвюх шчоках.

Яна падышла да акна. Імкліва зьвечарэла. Далягляд шчыльна натапырыў краны над новымі будоўлямі.

– Не, ты ня Менск, – сказала Аліса чужому гораду за вакном, – ты забойца. Ты забіў свайго папярэдніка ды назваўся ягоным імем. Ты – злачынца. Цябе нельга любіць.

# ПАВАЛ КАСЦЮКЕВІЧ

## ХТО НЕ ЗДАЎ МАКУЛАТУРЫ?

*серыя «Настальгія па мезазоі»*

**1. Гэта ж так у стылі 90-х!**

…Рэспубліка Беларусь разваліцца, а ўсе мы памрэм. Вялікае Княства Літоўскае – калыска нашай дзяржаўнасці, аднак магнаты ў ёй нажываліся на храбціне прыгоннага сялянства. Свой гонар – мову – народ пранёс праз усе вякі, хаця нічога змястоўнага на ёй выказаць не-маг-чы-ма. Буда – красава, а Ісус пагана скончыў. Уся гісторыя – гэта змаганне за мажлівасць у камфортных умовах памыць боты ў акіяне. Кліо – а гэтак я назвала сваю сабачку, у гонар музы гісторыі, – дурная тварына, якая штогод хавае сваіх шчанюкоў. Крыжакі і татары ўсё пёрліся на нашыя балоты, ды не ведалі, што на Украіне ёсць чарназём. Вось, зірніце, дзеці, у падручнік: першадрукару Францішку Скарыне нядаўна споўнілася 500 гадоў, а ў яго на твары ніводнай зморшчынкі. Яўрэі кіруюць светам, а хто мяне такую, мацерадзіночку, палюбіць? Бачачы ўвесь працяг сцягвання чалавечай цывілізацыяй нас у бездань, я заклікаю вашых бацькоў на першых свабодных выбарах у гісторыі Рэспублікі Беларусь галасаваць за мяне, беспартыйнага кандыдата па Першамайскай акрузе горада Мінска. Вось пабачыце, дзеці, вы маладыя, а я ўжо бадай не заспею: прыйдзе Антыхрыст і на чале ў яго тры будуць шасцёркі: шасцёрка чырвовая, шасцёрка віновая і шасцёрка жалудовая...

– Ох, не падабаецца мне сёння наша гістарыца – надта нажорыста так трындоліць, – няголасна заўважыў на галёрцы Ліпман. – Яна што, праўда на выбары сабралася?

– Мы ёй падчас сняданку ў сталоўцы пургену ў кампот намяшалі, – шапнуў з задняй парты Вілкін. – Але няслаба перабаршчылі, і, відаць, ёй у мазгі таксама адстрэліла, галюцынацыі пачаліся.

І пасля паўзы дадаў:

–…І самае далёкае, куды яна сабралася, гэта туалет на трэцім паверсе, бо на нашым не працуе.

– Не, Марыхуанаўна сапраўды ідзе ў дэпутаты парламента, – шапнула Паняй.

Мама Тані Паняй была настаўніцай малодшых класаў і працавала ў той жа школе, таму Таня была ў курсе ўсяго, што тварылася з Марыяй Янаўнай па мянушцы Марыхуанаўна:

– А яшчэ яна ўчора ездзіла ў Беласток, вазіла на продаж гарэлку, а яе

на рынку там прыціснулі беластоцкія бандыты. А яшчэ ў яе муж, які нядаўна кінуў яе. І, відаць, ад усяго гэтага разам яе бедная галоўка і не вытрымала. А тут яшчэ першы дзень вясны.

– А мне якраз у жылу, так і трэба – больш нястрыманасці і агрэсіі, – таксама шэптам запярэчыў Ліпман. – А то ўсё нас, маладое пакаленне, лухтой кормяць: «Пaглядзіце, дзеці, гэта вось друкарка, на якой працаваў наш слынны пясняр Міхась Капацька, а тое – пісьмовы стол, за якім пісаў наш выбітны гусляр Антось Калаціцька». Дэпрэсняк! Хочацца спярша тую друкарку аб стол, а потым аб яго ж галавою…

Ліпмана было не стрымаць – з'ехаўся на сваю ўлюбёную тэму:

– Вось мы летась паехалі з бацькам у Баку-Тбілісі-Ераван на экскурсію, пайшлі ў музей армянскай літаратуры. Дык там экскурсаводка казала так: «Гляньце налева – гэта наган, з якога смаляў класік прыгожага пісьменства, празаік Авіціс Бадасян, і гляньце налева – гэта шабля, якой рубаў гонар армянскай паэзіі, паэт Карэн Карацекян…» Любата!

– А цяпер давайце расслабімся, – усё ж такі перарвала Ліпманаў шэпт Марыя Янаўна.

Хлопцы зарагаталі, а Вілкін уцешна шапнуў амаль уголас: «Зараз яна як расслабіцца!»

Гістарыца абмінула рогат увагай.

– Хто хоча пяцёрку? – запытала гістарыца і невідушча пaглядзела кудысьці скрозь стагоддзі, на супрацьлеглую сценку.

Клас гэтым разам знуджана-знядужана пазяхнуў – пяцёрку хацеў нешта не вельмі хто. Гарнула пакурыць і якому трэцякласніку даць млявага фофана.

– Вілкін, табе пытанне, – злавіла на мушку акуляраў гістарыца сваю першую на сёння ахвяру. І дадала шматзначна: – Пытанне на адзнаку.

Вілкін марудна-марудна падняўся: яго прашыб халодны пот і ён неяк зменшыўся ў памерах. Паволі глянуў за вакно. Калі б Лёша Вілкін чытаў кнігі і трохі ведаў гісторыю Беларусі, дык, можа быць, як самае натуральнае ў гэтых абставінах, яму б прыйшоў да галавы наступны верш аднаго асуджанага на смерць паўстанца:

*Марыська чарнаброва,*
*галубка мая,*
*Дзе ж падзелася шчасце*
*і ясна доля твая?*

Аднак Вілкін кніг не чытаў і гісторыі не ведаў, таму адзінае, што яму заставалася, – перыцца за вакно на спалены ўначы шапік і бяздумна чакаць прысуду.

– Што дала Рымская імперыя нашай цывілізацыі?

Прамовіўшы гэта, гістарыца стала сузіраць, як пажарныя за вакном разбіраюць шкілет спаленага камка.

Вілкін падняўся і ўмольна глянуў на Ліпмана.

«Водаправод», – драматычна шапнуў яму той.

«Які такі водаправод, можа, яны яшчэ ля вытокаў БТ стаялі?!» – прабулькаў па-чэрававяшчальніцку Вілкін у адказ.

«Зуб даю, вадаправод, – яшчэ больш горача зашаптаў Ліпман. – У каго з нас пяцёрка па гісторыі, у цябе ці ў мяне?»

– Водаправод… – неяк няпэўна вымавіў Вілкін уголас.

– Вілкін, што я бачу?! – гістарыца спляснула рукамі і ўпершыню зірнула на Вілкіна.

– Малайчынка! Акведукі і сістэма арыгацыі. Не чакала ад цябе… Я гляджу, ты сёння як след падрыхтаваўся.

– Дык усё для вас, Марыя Янаўна, рады старацца, – з зубялявай усмешкай сказаў Вілкін. Што й казаць – перамагаць ён умеў.

– Малайчына, Лёша, давай, развi тэму. Што яшчэ падарылі нам рымляне?

Нібы глядзячы па тэліку якую крымінальную зводку, гістарыца зноў палезла вачыма за вакно, дзе з рулеткамі

ў руках сноўдаліся міліцыянты ў новай зялёнай уніформе і рабрыстых фуражках, у якіх яны былі падобныя да нью-ёркскіх паліцыянтаў.

Вілкін патрабавальна зыркнуў на Ліпмана.

«Чыгунку», – скрозь зубы прашаптаў Ліпман.

– Чыгунку, – гэтым разам бясстрашна, на поўныя грудзі, выдыхнуў Вілкін.

– Чаго-чаго? – папярхнулася гістарыца, стрэльнуўшы на вучня вачыма – погляд, які мог запраста спапяліць другі кіёск, побач. – Можа, рымляне, Вілкін, яшчэ і ля вытокаў БТ стаялі?! Сядай, «тры».

Ліпман, усцешана рагочучы, спрытна палез пад парту. Вілкін з азвярэлай тупамернасцю пачаў пхаць яго нагамі. «Тройка» – найвышэйшая адзнака, якую хоць калі атрымліваў Вілкін па хоць якім прадмеце, аднак, акрамя элементу чыстай рэзультатыўнасці, быў закрануты вілкінаўскі гонар.

Ад ганебнай смерці пад партай Ліпмана выратаваў дырэктар Алесь Аляксандравіч, што неяк непрыкметна апынуўся ў класе:

– Дзеці, дзеці, дзеці!

Ужо даўно не дзеці перавялі позіркі на невыразнага нізенькага чалавека ў пушыстым сівым парыку. Твар амаль цалкам асланялі бранябойныя акуляры, з пад якіх, праўда, зіркалі ўчэпістыя вочы.

– Сёння вечарам мы ўсе пагалоўна здамо па два кілаграмы макулатуры! – неяк зарадасна паабяцаў дырэктар. – …Бо гэта вельмі адказнае мерапрыемства для нашага прадпрыемства…

Дарэктар запнуўся.

– То-бок, э-э, гэта вельмі выгадная прапанова для нашай установы…

Хоць дырэктар, аўтар паэтычнага зборніка «Ртуць», і выслаўляўся рыфмамі, але яго фразы бездаможна звісалі, не раўнуючы як гірлянда, што засталася на супрацьлеглай сценцы ад Новага году.

– Адны словам, яно так трэба… Макулатура неабходная нам, каб… – штосьці па-ранейшаму замінала казаць дырэктару гладка. – …каб надрукаваць вам новыя падручнікі.

– А ў нас яшчэ старыя ў туалеце не скончыліся, – імгненна адпаліла з апошняй парты волялюбная Паняй.

Але дырэктар нават не шпурнуў па сваёй старой камсамольскай завядзёнцы ў Паняй дзіркаколам ці якой чарнільніцай: відавочна, ён меў намер не адступацца ад свайго высакароднага намеру ўмовіць клас ахвяраваць сыравіну дзяржаве. Ягоны твар зрабіўся яшчэ больш кіслы, і дырэктар яшчэ больш мядовым голасам прамовіў:

– Здымак таго класа, які пераможа ў спаборніцтве па здачы макулатуры, павесяць у школьнай сценгазеце!

– …

– Усе атрымаюць па асобніку кнігі майго сябра паэта Міхася Капацькі «Не, жывая спадчына!».

– …

– …з яго дарчым надпісам!

– …

– …з яго друкаркай!

– …

– …з яго наганам!

– ???

– Жартую, жартую. Ну, трэба вас неяк раскатурхаць, – дырэктар яўна павесялеў і дадаў: – Клас, які здасць найбольш макулатуры, атрымае дармовыя квіткі ў Беларускі дзяржаўны цырк на дзённы сеанс!

– …

– Усе, хто не здасць па два кілаграмы макулатуры, не будуць дапушчаныя да выпускных экзаменаў.

– А так бы адразу і сказалі! – за ўвесь клас імгненна адгукнулася Паняй. – То дайце абдумаць крыху… – Яна вытрымала таленавітую паўзу і сказала: – Не – усё адно не панясем!

– Дзеці, а вы што, не камсамольцы?!

– Не! – у адзін гук адказаў ужо ўвесь клас.

– Ах так, так… Я зусім забыўся, – сплясну́ў рукамі дырэктар. – Усё ж адмянілі…

Аляксандр Аляксандравіч з зацятасцю зірнуў за вакно, дзе па-над будынкам гарана матляўся ўжо пасвяжэлы пад ранішнім ветрыкам бел-чырвона-белы сцяг.

– Семдзесят гадоў – і такое падзенне вялікай краіны! І цяпер гэтае сала-мяса-сала і конь з мечам над намі крукам згінаюцца…– голас яго зрабіўся ціхі і жаллівы, падобны да голасу бабулькі, якая перад уваходам на Камароўскі рынак заклікае-просіць, каб у яе купілі самаробныя ваўняныя шкарпэткі.

– Прашу вас як магу, дзеці. Прыйдзіце а шостай вечара з двума кілаграмамі макулатуры да кабінета заўхоза. Проста па-людску прашу.

І дадаў, ні на каго не гледзячы:

– Вось у школе №73… там вашы аднагодкі, адзін клас, сабралі ажно пяць тонаў.

***

Тым жа адвячоркам да вакна заўхоза на першым паверсе, не зважаючы на дырэктарскую антырэкламу, усё ж сёй-той прыйшоў – неяк так выйшла.

Яшчэ дома рамантычная Лена Стружэльчык, закаханая ў Пашу Пракапеню, гледзячы на сябе ў люстэка, паставіла рукі ў бокі: «А чаму б не? Можа, і ён туды прыйдзе». І захапіла старую падшыўку «Вясёлкі» і «Весёлых картинок». Прышчавы Паша Пракапеня, закаханы ў Дашу Смірнову, скасавурыўся на прышч на носе і сказаў: «Чхаць – жыццё пачалося!» І пайшоў у сутарэнне па дзедаў поўны збор твораў Смелякова. Дэпрэсіўная Даша Смірнова, якая ўжо была села ў ліфт, што мусіў падняць яе на апошні паверх, з якога яна планавала выкінуцца праз вакно гарышча, раптам выйшла з «каробкі» і вярнулася ў кватэру. З парога адпіхнула маці-алкагалічку і палезла на антрэсолі па падшыўкі газеты «Правда» і часопісаў «Здоровье», прыгаворваючы: «Трэба здаць, трэба здаць, каб ні праўды, ні здароўя пасля маёй смерці на гэтым свеце не засталося». Гуляшчая ж Тоня Налівайка падумала: «Якраз здам падшыўку «Работніцы і сялянкі» і потым пра цяжарнасць бацькам скажу». Непаўналетні таксікаман Пеця Шаховіч запланаваў: «Якраз нюхну і па прыколе пайду здам макулатуру».

Што сказаць – нечакана ля школы было людна і святочна: хтосьці, выканаўшы план па нарыхтоўцы паперы, курыў, хтосьці проста хадзіў, іншы, успомніўшы дзетсад, катаўся на саначках, на якіх і прыгнаў два кэгэ макулатуры. Рамантычная Лена Стружэльчык нарэшце нагаварыла ўсяго Пашы Пракапені, але, як тое вядзецца, не таго, і цяпер маляўніча качалася па снезе і рыдала. Але прышчавы Паша Пракапеня на яе не глядзеў, скіраваўшы вочы ўгору, дзе на даху суседняга дамка дэпрэсіўна-дзёўбнутая Даша Смірнова неяк так неінтэнсіўна, але дужа грацыёзна паграphysically жала ўсім кінуцца на заснежаны асфальт. Непаўналетні таксікаман Пеця Шаховіч факаў куплены ў «Тышчыках» клей «Мамент» разам з гуляшчай Тоняй Налівайкай. Тоня адначасова ванітавала, абдымала Пецю і смяялася сваім дробным смехам.

Антарктычнае-антарктычнае сонца садзілася за дрымучыя вершаліны Парка палярнікаў-захраснікаў Чалюскінцаў. Вечар абяцаў заседжаны попс мінскіх дыскатэк. Падваротні зазыўна дыхалі даступным гоп-стопам. Стравацаць не было чаго – як і рабіць, і тут сказаў рабятам нехта Бора проста так: «Гайда збіраць па прыколу макулатуру далей!»

***

Тыя, хто адчыняў дзверы на просьбу аб здачы макулатуры, моцна дзівіліся. Маўляў жа, усе сувязі распаліся – ды што там сувязі! – краіна патрушчылася ў друз на вачах. А вось бачыш – яшчэ засталося нешта нейкае нязменнае

і сталае, такое, як збор макулатуры. Таму людзі, што адчынялі школьнікам, здавалі макулатуру ахвотна. Па 400, 500 грамаў, нават па кілі: старыя газеты, часопісы, зборы твораў класікаў камунізму-ленінізму – усё, што заваляласа за часы кніжнага буму.

Жыхары вуліц Кузьмы Чорнага, Якуба Коласа і Францішка Скарыны радасна размаўлялі са школьнікамі, цішком з цікаўнасцю аглядаючы новае пакаленне і патроху зацягваючыся ў вір іхняга імпэту.

Некаторыя ўладальнікі кватэр прапанавалі школьнікам замест макулатуры здаць бутэлькі або слоікі з-пад маянэзу, што загрувасцілі балкон. Другія наадварот – самі спрабавалі ўвапхнуць падлеткам па ўзаемавыгадных коштах іншую сыравіну – марошку і коштметалы. Былі і тыя, хто проста запрашалі да стала: пасядзець, выпіць, пагутарыць.

– Слухайце, ну гэта ж смешна: амаль дваццаць першае стагоддзе, у Іраку варочаецца «Бура ў пустэльні»: лазерныя бомбы і кропкавыя цэлі, Ай-Бі-эМ са сваімі высокімі тэхналогіямі лютуе, Фрэдзі Мерк'юры ўжо ўсё зрабіў і памёр, – пачаў быў ганьбіць працэс макулатураздачы Ліпман, калі яны ўтрох з Паняй і Вілкіным паселі на лаваччы каля школы поруч з набікаванымі паперай і кнігамі санкамі. – А мы тут саўковы сэканд-хэнд цягаем…

У ІРАКУ ВАРОЧАЕЦЦА «БУРА Ў ПУСТЭЛЬНІ»: ЛАЗЕРНЫЯ БОМБЫ І КРОПКАВЫЯ ЦЭЛІ, АЙ-БІ-ЭМ СА СВАІМІ ВЫСОКІМІ ТЭХНАЛОГІЯМІ ЛЮТУЕ, ФРЭДЗІ МЕРК'ЮРЫ ЎЖО ЎСЁ ЗРАБІЎ І ПАМЁР

– І, ёлы, класна цягаем. Нішцячны занятак! – не зразумеўшы, да чаго хіліць Ліпман, дадаў Вілкін.

А Паняй падумала сабе, што 10-му ж «В» праз гэтыя адведзіны было таксама весела і цікава. З'явілася нешта такое, чаго ніколі раней не было. Школьнікі прасякнуліся гэтай новай і дзіўнай для іх справай: калі ты ў прынцыпе і не абавязаны, але хочаш сам. І гэтае тваё жаданне – не банальныя пляшка піва ці пару соцень на касету, а… а… ну, няважна… проста нешта новае з'явілася ў мутарным менскім паветры, нешта, што прымушала дыхаць лёгкія на поўныя застаўкі, а розум – моцна цешыцца свайму знаходжанню ў гэтым самым месцы, у гэтым самым горадзе, у гэты самы час.

Жыццё, зануранае ў сябе і абыякавае да цябе, цяперака павярнулася да іх нейкім іншым бокам – дзверы выявіліся не дзяржмежамі, што ахоўвалі чужы прыват, а шлюзам, які вёў да прасторы, дзе разняволена бавілі свой час непадобныя ні да чаго – а таму і жывыя – лёсы. Лёсы, а таксама іх уладальнікі, што захоўвалі па два, тры, а то і па пяць кіляў каштоўнага грузу. Ну, хай сабе паўкаштоўнага. «Ну добра, – прызналася сабе Паняй, – для шаснаццацігадовага чалавека, якога раздзіраюць гармоны і агіда да дарослага свету, грузу цалкам бескарыснага». Аднак чаму ж ідэя пра друк чарговай партыі пад-ручнікаў цяпер не падавалася Паняй такой ужо бязглуздай?

– Дык давайце, хлопцы, першы раз у жыцці ў пятніцу вечарам не будзем піць піва, а проста паразмаўляем, – голасна запатрабавала Паняй.

Наступным ранкам 10-ты «В» прынёс дзвесце кіляў, а ўвечары ўсе трыццаць чалавек, увесь клас пагалоўна ізноў выправіўся на збор макулатуры. І тут усё закруцілася.

**2. Буда, цара храні!**

*«Яць» ды іншыя іерогліфы*

Званок азваўся туманнай мелодыяй, у якой пачулася водгулле пракаветных напеваў ці то кашмірскіх,

ці то чарнагорскіх манахаў. Дзверы адчыніліся, і на парог выступіла абсалютна сівая бабуля ў пазалачоным сары. На тканіне сары былі выяўленыя ўсе шэсцьдзесят імперскіх чыноўнікаў, узятых са шматфігурнай карціны Іллі Рэпіна «Урачыстае паседжанне Дзяржаўнай рады 7 мая 1901 года ў гонар стогадовага юбілею з дня яе заснавання». Рукі бабулі да самога локця абвівалі пластмасавыя, аздобленыя хахламскім і гжэльскім роспісамі бранзалеты, а на пераноссі на індыйскі манер бялела кропка. У кропцы здзіўлены аматар гісторыі Ліпман выявіў блакітны крыжык і белае поле андрэеўскага сцяга. Уцепленыя авечым футрам кеды, насунутыя на кашчавыя ногі, выдавалі ў старой духоўна нябедную асобу. Вілкін, які ніколі не верыў у дабрыню менскіх бабулек, абгледзеў, каб жа гэтая піліпаўна з канапель не хавала за спінаю які абрэз. Але твар бабулі выпраменьваў адно рахманасць і ўсіхлюбоўе, а ў яе левай руцэ, як пацеры, круцілася толькі пара фальшывых яек Фабэржэ. Яйкі наводзілі думку на, можа быць, трохі пакручасты і прыцягнуты за вушы, але дужа аптымістычны і міралюбны лагічны ланцуг: «яйка=›птушка=›голуб=›мір».

Сівая бабуля ў маляўнічым сары з царскай дзяржрадаю малітоўна склала рукі перад сабою ў далёкаўсходнім вітанні і адначасова зрабіла зямны паклон. Школьнікі зайшлі ўсярэдзіну.

На тле пакоя, ладна закіданага дыванкамі і дэкаратыўнымі падушэнцыямі, цылінгала нетаропкая эзатэрычная музыка – ушчыплены за струны сітар пад дробны бразгат бомаў выдаваў варыяцыі на тэму расійскага (райскага?) гімну «Божа, цара храні!». У паветры кватэры важка плылі аблачыны дыму – то курэў кальян, зроблены проста ў корпусе самавара. У покуці тулілася метровая статуя Буды, усмешлівага мужчыны без узросту, з бакенбардамі ды вусамі, праз якія прасвечвалася па-дзіцячаму шчырая ўсмешка. Паняй са здзіўленнем пазнала ў Будзе перадапошняга расійскага імператара Аляксандра III. На нізкім кухонным стале замест абруса была пасцеленая паркалёвая мапа Расійскай імперыі ў межах 1913 года, улучна з Польскім каралеўствам і Фінляндскім герцагствам. Саматканая мапа была вытрыманая ў растаманскіх жоўта-чырвона-зялёных адценнях. На мапе пакоілася складаная канструкцыя: вялікая разьбяная чарапаха з дрэва, што несла трох слонаў, якія ў сваю чаргу трымалі на сваіх спінах аднаго двухгаловага арла. Каранаваны арол замест скіпетра і дзяржавы ва ўчэпістых кіпцях сцяў сандалавыя палачкі, з якіх тачыўся водар…

«Ну, рыхтык пах «Смірнофкі №5» на выдыху», – спрактыкавана адзначыў у думках Вілкін.

На сценцы насупраць серванта вісела будыйская шоўкавая харугва з разлапістым іерогліфам «ѣ».

– Хай манаршы спакой будзе з вамі! – цяпер ужо голасам павіталася будыйская манархіня. – Вы, спадзяюся, не піонэры-бязбожнікі?

Гук «о» ў перадапошнім слове з бабульчыных вуснаў зляцеў гэтак брыдка вуху, што ў сваёй агіднасці мог спаборнічаць адно з гукам «з» у апошнім слове. «З» у сваю чаргу гучала хутчэй як «с», а ён дадаваў да словазлучэння адценні злавеснай чартаўні – «бес-божнікі».

– Найн, мадам! – па-нямецка-французску адказаў Вілкін. – Мы тут з іншай аказіяй.

– Клічце мяне, мон шэр, проста Любоў, – ухвальна заківала сівой галоўкай бабуля. – Ці прасцей Любоў Каксон. Ці найпрасцей Любоў Карлаўна Каксон.

Вілкін пайшоў на таран:

– Ці маеце вы, Любоў Каксонаўна, макулатуру?

– Пардон?

– Старыя газеты, там, кнігі, часопісы.

– Мне цяжка сказаць, мон шэр. «Минскій Вестнікъ» я аддаць не магу, бо калі цяперашняя рэінкарнацыя Буды, Мікалай II, у другі раз вернецца на зямлю, дык перад яго мілосным абліччам трэба будзе на рэчдоках давесці, што ты заўсёды верыў у адзінапамазанага. Таму дзеля пэўнасці я захоўваю прэсу тых часоў. А савецкія газеты я берагу для страшнага суду над бальшавікамі. У сваёй мілоце Буда-Аляксандр сігналіць мне праз думкі, што на тым усяленскім працэсе мне дастанецца пракурорская прамова.

– А беларускія газеты?

– Ці не жадае маладое пакаленне жэнь-шэневага спірту? – тэхнічна памяняла тэму гутаркі Любоў Карлаўна.

Пад чарку бабулька расчулілася і распавяла, што ў нябесным царстве Буды Першага прыгонніцкае права яшчэ не скасавалі, але размовы пра рэформу ўжо лунаюць і вярэдзяць неўміручыя душы, а таксама даверліва паведаміла, што каты-апрычнікі яшчэ трыста гадоў таму вынайшлі будзільнік.

Калі на Ліпмана і Паняй прамовы будысцкай манархіні нагналі нуды, дык Вількін, здавалася, пачуваўся тут цалкам натуральна. Усяляк праяўляў цікаўнасць, засыпаючы бабульку практычнымі пытаннямі па структуры нябесна-манаршага радаводу.

Увогуле варта заўважыць, што Вількін, які прыехаў два гады таму ў Менск з далёкага Яраслаўля, быў чалавек кампанейскі і вельмі хутка асвойтваўся, абціраўся ў любой новай кампаніі. Ды што там кампаніі – у сваёй новай краіне Вількін вельмі хутка зрабіўся сваім, за што меў моцную павагу сярод сваіх менскіх сяброў. Гэтую ягоную здольнасць прыстасоўвацца да новай рэчаіснасці і асабліва такой суворай, як беларуская, засведчыла тая гісторыя са смагай.

*Паўлітра смагі*

Вількін – страшэнны аматар алкагольных аповедаў. Што, колькі, з кім і як балела галава на ранак – Вількін заўжды ахвотна дзяліўся перажытым з сябрамі. «Узялі мы з Мікрафонам у бабак-самагоншчыц з Трэцяй Пасялковай па слоіку першача, бухнулі на яго хаце – бацькі ж у вёсцы, – чувіх прывялі, потым мы з імі гэта самае, потым пайшлі пасядзелі на лавачцы – пакурылі, разышліся па дамах, я дома пахаваў, паглядзеў па відзіку «Індыяну Джонс», а зранку прачнуўся з Мікрафонам у ліфце незнаёмага пад'езда на Серабранцы».

Адметнасцю Вількінавых аповедаў была канцоўка. Няважна, што паводле сюжэта Вількін са сваім вельмі кучаравым і вельмі непадстрыжаным сябрам, чыя галава здаля нагадвала мікрафон, бралі на грудзі. Ці па слоіку самагонкі, па флянцы спатыкача або па цыстэрначцы бражкі (у гэтым аспекце аповеды Вількіна былі невычарпальнай крыніцай ведаў пра размаітыя ёмістасці і гатункі самаробнага алкаголю). У дадатак было абсалютна неістотна, як прайшла пачостка: ціха, мірна або суправаджалася бойкай з меснымі ці брэюшчымі залётамі да чувіх. Галоўнае – у Вількінавым сюжэце ўсё жалезнымі абцугамі сціскалася вакол няўмольнага прачынання з Мікрафонам у незнаёмым ліфце ў далёкай Серабранцы.

НЯВАЖНА, ШТО ПАВОДЛЕ СЮЖЭТА ВІЛКІН СА СВАІМ ВЕЛЬМІ КУЧАРАВЫМ І ВЕЛЬМІ НЕПАДСТРЫЖАНЫМ СЯБРАМ, ЧЫЯ ГАЛАВА ЗДАЛЯ НАГАДВАЛА МІКРАФОН, БРАЛІ НА ГРУДЗІ

Вількінаўскія гісторыі ўганялі Паняй у перадсуіцыдальны ступар. Яна крычала Вількіну забіць зяпу, яна прасіла прынамсі заканцаваць п'яную гісторыю ў Мікрафонавай хаце, яна заклінала яго проста маўчаць... Аднак

Вілкіна было не суняць. Не дапамагалі нават шпількі кшталту: «А што, спартовая дысцыпліна па засынаннях у ліфце ўжо алімпійскі від спорту ці яшчэ не?» «А ты ўжо атрымаў «Майстара спорту эРэФ» па прачынаннях у ліфце з перашкодамі ці ўсё яшчэ ў КэМээСах цягаешся?»

Вілкін упарта гнуў на свой капыл.

Урэшце алкагісторыі дасталі Паняй так, што аднаго разу, яшчэ нават на пачатку чарговай алкагольнай гісторыі, не вытрымаўшы дыктату запраграмаванага канца, яна груба перарвала Вілкіна:

– Вілкін, а ты калі-небудзь піў *СМАГУ*?

Учуўшы цалкам незнаёмае слова, яраслаўскі хлопец Вілкін павёў галавой, як баксёр пасля накдаўна, аднак, хутка даўшы рады беларускай непанятцы, абсалютна спакойным голасам адказаў:

– Ага, было раз. На мінулым тыдні мы з Мікрафонам узялі на Трэцяй Пасялковай па паўлітровіку *СМАГІ*, прыйшлі ў гараж, бухнулі, па дарозе дадому на раёне нікога не сустрэлі, чувіх не чаплялі, разышліся па дамах і на ранак прачнуліся ў незнаёмым ліфце на Серабранцы.

*Чароўныя гуркі*

Між тым Любоў Карлаўна Каксон, якая толькі што скончыла аповед пра опцінскіх старцаў, якія вынайшлі кунг-фу, падбадзёраная прыязным позіркамі і пытаннямі Вілкіна, прапанавала зладзіць спірытычны сеанс і выклікаць дух Пятра Вялікага.

Яна паставіла на стол адкаркаваную пляшку жэнь-шэневага спірту, дастала паштоўку з выявай Полацкага Сафійскага сабора. Падпаліла паштоўку з трох бакоў і пачала казаць свае старарэжымныя заклёны.

Пётр Першы з’явіўся ў смузе, празрысты, бы туман. Як трэба: у батфортах і з вусамі. Гайдаючыся ў эфіры, усё роўна як напоўнены лёгкім газам цэпелін, нават разочак гулліва падміргнуў з сваёй вышыні. Потым манарх завіс па-над адкаркаванай пляшкай жэнь-шэневага спірту. Запанавала мілотная паўза. Знянацку спірт з пляшкі, насуперак усім законам фізікі, тонкім цурком, не раўнуючы як праз невідочную саломку, проста па паветры заструменіўся ўгору, напрасткі ў адтуліну, якая ў Пятровай здані была на месцы рота.

– Фінскі заліў, – шматзначна сказаў Пётр Вялікі і, як змог, усміхнуўся ротам, напоўненым спіртам.

Дарма, што Пятра было складана назваць матэрыяльнай субстанцыяй, спірт з ягонага астральнага цела не праліваўся, а толькі раўнамерна расцякаўся па тым, дзе б у Пятра-чалавека мог быць страўнік.

Рухі здані зрабіліся яшчэ больш хаатычнымі, і пачуліся словы нейкай зухаватай салдацкай песні. У паветры запахла… пах быў… як калі ў грэцкіх багоў быў бы перагар ад амброзіі.

Па нейкім часе Пётр Вялікі пагрозліва закруціў вачамі і вусішчамі, згушчаючы свой дымны шлейф.

– Яшчэ адзін Пецярбург у Менеску будаваць надумалі?! Другую Русь? Белую ды чыстую, без Масквы-матухны і Санкт-Пецярбурга-бацюхны? – неспадзёўкі залямантаваў высокім п’яным голасам ён, насцярожана аглядаючы ерогліф «ѣ» і ўсярускі абрус. – Скулля вам, ліцвіны!

Нечакана з месца, дзе меўся быць рот, вылецеў струмень спірту, пляснуў на свечку і па ўскоснай далей на паркет. Хлопцы кінуліся тушыць агонь, але яшчэ тысяча такіх самых знічак ушпіляла падлогу – сітуацыя рабілася крытычнай. Тым жа часам адухоўленая бабуля, седзячы па-турэцку на дыване спасярод пакоя, пашылася ў глухі транс. Не рэагуючы на вонкавыя раздражняльнікі, яна адно выводзіла скіфскія мантры, круцячы строга па гадзіннікавай стрэлцы ў руках два яйкі Фабержэ.

Не дачакаўшыся дапамогі ад гаспадыні, хлопцы пачалі шпурляць

у Пятра попельніцамі, Будааляксандрамі, паліваць імператара палівачкай, то-бок карыстаць усё, што траплялa пад руку. Але, дарма што ўнутры царскай здані мог заставацца спірт, усе іншыя прадметы ды вадкасці прашываліся Пятра наскрозь і, не маючы перашкодаў, вольна праляталі ды сутыкаліся толькі са сценкай за яго спінай.

– Шалееце, нячыстыя?! Манаршы агонь затушыць хочаце, сатрапы? – з'едліва папытаўся Пётр І, працягваючы кружляць каля жырандолі. – Першаму граду Пятроваму жыць, а другому не быць! Не пацярплю!

Тут Вілкін, пляснуўшы сябе па ілбе, схапіў адкаркаваны трохлітровік з агуркамі і кінуў у Пятра слоікавым змесцівам. Гэтым разам салёны агурок, праходзячы праз Пятра, дзіўным і незразумелым для хлопцаў чынам захрас у астральным целе, у тым месце, дзе ў імператара (калі б той быў чалавекам, а не прывідам) мог быць страўнік і ўжо плёхаўся выжлуктаны Пятром спірт. Ліпман і Паняй далучыліся да кемнага Вілкіна, напаўняючы зыбкую матэрыю невыносным цяжарам салёнай гародніны.

– Езуіты! – дыхавічным голасам заблагаў Пётр, але з асалодай паляпаў сябе на набітым гуркамі, цяпер толькі напалову празрысты жываце.

Па каторым часе і без таго досыць туманны абрыс імператара задыміўся яшчэ больш і пад цяжарам патрапленых у яго нутро агуркоў, не раўнуючы падбіты аэраплан, з сірэнным рокатам пайшоў на стромы спуск.

Але яму не далі. Таксама сатканыя з паветра кучаравыя арапы, падобныя да херувімаў на старажытных візантыйскіх абразах, у белых кашулях з чырвонымі крыжыкамі на бялесых шаломах, падхапілі здань Пятра пад рукі і паспяхова адымчалі ў напрамку чорнай адтуліны, што раптам уфармавалася проста ў паветры ля самай столі, гэтакім парадкам заканцаваўшы спірытычны сеанс.

Па ўлёце імператара ў пакоі застаўся пах свежасагнанага спатыкача і фаерверку.

– Вон! – хутчэй заплакала, чым закрычала на хлопцаў Любоў Карлаўна Каксон, якая да таго часу выйшла з трансу, а яе вочы і сівыя валасы сталі дубам і загайдаліся, як злавесныя каласы невядомага гатунку злакавых кобраў. Яе голас пачаў дужэць, сары заварушылася – і хлопцы з жахам згледзелі, што да крыку далучаюцца ўсе шэсцьдзесят членаў царскай Дзяржаўнай рады з рэпінскай карціны. А з аднаго яйка Фабержэ, якое круцілася ў руках Любові Каксон, вылупілася гідкае нешта-нейкае: малое, зялёнае, крылатае і агнядыхлівае. Другое ж яйка падазрона круцілася вакол сваёй восі, не раўнуючы як нейкі звар'яцелы метэарыт, і па ім ішлі чорныя расколіны.

ЯЕ ГОЛАС ПАЧАЎ ДУЖЭЦЬ, САРЫ ЗАВАРУШЫЛАСЯ – І ХЛОПЦЫ З ЖАХАМ ЗГЛЕДЗЕЛІ, ШТО ДА КРЫКУ ДАЛУЧАЮЦЦА ЎСЕ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ЧЛЕНАЎ ЦАРСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ РАДЫ З РЭПІНСКАЙ КАРЦІНЫ

Ліпман і Паняй выбеглі як ветрам гнаныя, Вілкін жа стараўся захаваць твар, падаючыся задам, як рак, пры гэтым мармычучы: «Пардон, мадам, шчыры пардон». Услед школьнікам паляцелі складная чарапахаслонаарловая канструкцыя разам з яшчэ дымнымі сандалавымі палачкамі, якія балесна апалілі Паняй левую руку. Пульхны томікі Блавацкай і фаліянтам з назвай «10 найвялікшых жыдамасонскіх змоваў» на супервокладцы выцяў Ліпмана ў спіну. Усё гэта Вілкін гаспадарліва падабраў і закінуў у супольны мех макулатуршчыкаў.

# ВІКТАР МАРЦІНОВІЧ

## ЧАРЦЁЖ

*Ніжэйнаступная сукупнацсь словаў з'яўляецца плёнам фантазіі. Палітычны і гістарычны кантэкст, месца дзеяння, а таксама канкрэтны выраб, які ўзгадваецца ў ім, – плён гульні запаленага ўяўлення аўтара. Усе супадзенні з сапраўднымі падзеямі і лёсамі выпадковыя.*

Паважаны Уладзімір Сцяпанавіч! Тут ты здрыганешся, не знайшоўшы звыклага табе «тата». Адразу паведамлю табе, для пачатку, што «татаў» больш не будзе ніколі. У меня няма бацькі. Цікава, як адчуваеш сябе, калі сын звяртаецца да цябе праз імя па бацьку? Дык вось, Уладзімір Сцяпанавіч. Гэты тон, як Вы ўжо, пэўна, здагадаліся, халадзеючы і прысеўшы на стул побач са сталом, на якім я пакінуў гэты ліст, быў запазычаны мной з адной незвычайнай знаходкі, якую я адкрыў на дыску D:\Work у субдырэкторыі з цікавай назвай Prototip_0623. Так, так, цяпер я ведаю, чым ты такім незвычайна таямнічым займаўся гэтыя паўгода, калі хаваўся ў сваім пакоі. І калі ты нарэшце ўцяміш, што наша прозвішча – надзвычай хуёвы пароль для файлавага архіва? Нарэшце, я ведаю, што за чарцёж ты рабіў, мой дарагі і паважаны бацька. Слова ж якое, праўда, – чарцёж? Нібыта чэрці кінуліся ў скокі. Шабаш чарцей. Чарцёж. Я ведаю ўсё, тата. А зараз прымі «Валідолу» і падрыхтуйся слухаць.

Да свайго ад'езду ў Амерыку я перабяруся пажыць у сяброў. Валізы ўжо сабраныя за тыя пяць дзён, што я з табою не размаўляў, нічога табе не тлумачачы. Не шукай мяне, не шукай. Так, ты ведаеш час і дзень майго вылету, але я ўмаўляю цябе не прыязджаць у аэрапорт. Я сам знайду цябе, калі адчую, што гатовы цябе ўбачыць яшчэ раз перад маім ад'ездам.

Спачатку аб маіх навінах. Як ты выдатна ведаеш, у нас з Дашай праз тры тыдні павінна было адбыцца вяселле. Затым мы ўдваіх планавалі з'ехаць у ЗША, дзе ў мяне двухгадовы кантракт з Microsoft. Пашпарт і візы былі падрыхтаваныя.

Мы ўладкоўваліся перад кампом, я адкрываў галерэю інтэр'ераў кватэр Нью-Ёрка і рабіў для яе экскурсію па нашых амерыканскіх apartments. Дзверы ў нас будуць вось такія, белыя, з латуневай ручкай. Заходзім, з правага боку – вось гэтая зала, яна глядзіць на захад, мы будзем зваць яе блакітнай гасцёўняй, па-за вакном – парк, па-над якім садзіцца сонца. А яна

перапыняла, яна заўжды са мною спрачалася, перапыняла і казала «неге», гэтая зала – з правага боку ад уваходу, глядзіць яна на ўсход, а выгляд з вакна – на негрыцянскі квартал, на сцяну, на якой метровымі літарамі напісана FUCK, і зала гэтая будзе прысвечана выключна fuck, і зваць мы яе будзем «факзалай», а затым мы доўга смяяліся, а затым заводзіла ўжо яна, складаючы з малюнкаў з Сеціва самае неверагоднае жытло. Мы жылі ў закінутых катухах, у шахтах ліфтаў, у неадчыненых шопінг-молах, і нідзе мне не было так утульна, як у гэтым свеце яе фантазій. У адным мы з ёю сышліся – у спальні ў нас абавязкова будзе столік, куды кожныя тры дні я буду ставіць свежыя кветкі. Тата, у кватэры, што я выбраў праз Інтэрнэт учора, – выдатны арэхавы столік, і я буду, я буду ставіць на яго кветкі… На памяць пра Дашу… Пра маю Дашу…

Дык вось, тата, я шаную тую марнасць, якую ты стварыў з падрыхтоўкай імпрэзы, і адказваю на тваё першае пытанне: чаму вось ужо месяц я, па тваім афарыстычным выразе, «паклаў» на вяселле «з прыборам». Паведамляю табе, тата: усё таму, што вяселля не будзе. Даша не выходзіць за мяне. Я еду ў Амерыку адзін. Яна застаецца тут. Прычына – у яе «загадкавай» для цябе адседцы.

Тут ты зноў пахаладзеў, праўда? Чэрці з твайго чарцяжу, тата, танчаць вакол цябе ў карагодзе. І будуць танчыць да канца тваіх дзён, яны не адвяжуцца ад цябе. Тата, калі ты не выпіў яшчэ «Валідолу», абавязкова зрабі гэта. Таму што далей будзе горш.

Такім чынам, Даша вельмі змянілася пасля таго, як у гэтым сакавіку, падчас падзей, якія ты за вячэрай звычайна з усмешкай называў «недарэвалюцыяй», прабыла трое сутак у намёце. І справа не толькі ў тым, што прабыла, а ў тым, што на трэція суткі намёты зруйнавалі бульдозерамі, яе разам з астатнімі кінулі ў аўтазак, адвезлі ў СІЗА і па прысудзе выпісалі 15 сутак. Яна спала на дошках, тат, разумееш? Мая Даша 15 сутак спала на дошках. Нахуй гэты газетны стыль, тата, я распавяду табе пра тое, што зрабіў з ёй гэты арышт! Тата, мочкі вушэй маей Дашы пахлі бэзам! Гэты пах узмацняўся падчас дажджу, а я бегаў за ёю з парасонам, каб вільгаццю не змыла гэты пах, а яна ўчыняла гонкі, яна вішчэла: твой пах, ты і сцеражы яго! І збягала ад мяне ў таўханіне ля ГУМа. А я бег з заскрытым парасонам і ўвесь час імкнуўся зберагчы бэзавы пах мочак яе вушэй ад вады. Яна бегла з усёй моцы, я ледзьве паспяваў за ёю, задыхаўся, наскокваў на людзей, парасон заламваў свае металічныя локці, а яна час ад часу абарочвалася, і нашы позіркі сустракаліся. І зараз я ўсё разумею, што ўвесь гэты час, увесь наш час, я бегаў за ёю з раскрытым парасонам, імкнучыся схаваць яе, абараніць, захінуць. А яна збягала ад мяне, і па яе спіне я бачыў, як яна смяецца. Калі яна ўсміхалася, усміхалася нават яе падбароддзе, тата! Я не здолеў зберагчы яе там, у намётавым мястэчку.

ТАТА, МОЧКІ ВУШЭЙ МАЕЙ ДАШЫ ПАХЛІ БЭЗАМ!

Ты ведаеш, як я да гэтага ставіўся. Ведаеш, што я заўжды быў супраць. Але зрабіць я нічога не мог. Яна хадзіла па гзымсе па-над безданню. І мой парасон да яе больш не дацягваўся. Але мы працягвалі ўсміхацца адно аднаму, нас раздзяляў адзін скачок – у абдымкі, у блізкасць, у нашу адну на дваіх усмешку. Гэты скачок ніводны з нас так і не зрабіў.

Не буду ўтойваць, усе тры дні я плыў на саленаватых хвалях лёгкай крыўды. Я не мог уцяміць, чаму мне нашага шчасця было даволі, а ёй раптам закарцела шчасця для ўсіх прамоклых незакаханых статыстаў у шэрых плашчах, якія стаялі на маім

шляху, калі я ганяўся за ёй. Але ў яе ледзянелі вочы, калі я ўгаворваў яе сысці. Гэта мая Даша, тата. Яна гэткая, і кропка. Я распавядаў ёй, што думаю пра нашу апазіцыю, а ў яе ледзянелі вочы і выдаваліся скулы. Здаецца, яна шукала справядлівасці, а справядлівасць заўсёды на баку пакрыўджаных. Падумай, калі ў цябе з'явіцца час падумаць аб гэтым, а не аб тым, што ты нарабіў. Ёсць людзі, звар'яцелыя на справядлівасці, яны губляюць здольнасць размаўляць, калі бачаць, што з гэтай справядлівасцю робяць іншыя.

Калі Дашу выпусцілі, мочкі яе вушэй больш не пахлі бэзам. Я імкнуўся іх панюхаць, а яна скручвалася ўся, нібыта перад ударам. Хоць яна нічога не ведала пра твой учынак, тата. Не ведала і не даведаецца: я ёй не скажу, бо вам жыць у адным горадзе.

Я пасадзіў яе за камп'ютар, гуляць у «амерыканскія інтэр'еры», я нагрувасціў анфіладу з барочных зал, якія былі аплявухай той гарэзлівай Дашы, я ўжываў словы «ракако», «мезанін», «ляпніна», я чакаў, што зараз яна дакладна паселіць нас у каналізацыі пад Гарлемам, а яна – яна не глядзела ў экран, думала аб нечым сваім, і нават сэрца, здаецца, у яе больш не білася.

Тое, што я назіраў у ёй і раней, – тое, што выцягнула яе на плошчу, пачало расці ў ёй, нібыта рак душы, пераўтварылася ва ўсю яе сутнасць, заглушыла маю пяшчотную, мілую Дашу. Яна распавядала аб тым, што было ў СІЗА, якія мілыя былі ахоўнікі, як яны іх падтрымлівалі, як яны перакідваліся жартамі з дзяўчатамі, аб гэтых дошках, тата, абасцаных, абсалютна спакойна. Але, галоўнае, да таго самага дня, калі я сустрэў яе ля брамы, яна перайшла на беларускую мову. Яна размаўляла няўмела, з памылкамі, але ўпарта, і я не адважыўся яе запытаць чаму. Калі мы сустрэліся з ёй у другі, апошні раз, яна сказала, што застаецца ў Беларусі. Што калі я сапраўды яе кахаю, я павінен застацца з ёю. Што яна не з'едзе нікуды, таму што гэта будзе здрадай. Гэтая краіна, Уладзімір Сцяпанавіч, зрабілася яе полем бою, і аднаму Богу вядома, колькі ран яна яшчэ атрымае ў гэтай бітве. Я з задавальненнем застаўся б ваяваць з той Дашай, якую я кахаў і над якой трымаў свой парасон. За той Дашай я пайшоў бы ў турму і на катаргу. Але тая бедная, кволая і заблытаная істота, якая маўчала побач са мной каля камп'ютара, не мела больш ніякага дачынення ні да кахання, ні да мяне, ні да нашага гарэзлівага былога, ні да нашай амерыканскай будучыні. Я згубіў яе назаўжды.

Зараз ад рэштак маёй беднай Дашы вернемся да вас. Упершыню я ўбачыў новы аўтазак ноччу напярэдадні выбараў. Іх тады ўрачыста і павольна выкацілі на плошчу, каб усе бачылі і баяліся. І, шчыра кажучы, тата: у цябе ўсё выдатна атрымалася – я баяўся. Я бачыў гэты фабраваны ў хакі назграбны гмах, падобны да танка, і карчанеў. Надта страшэнная штука, гэты аўтазак. Ён падобны да барабанага дробату перад вешаннем. Да чэхаўскай стрэльбы, якая абавязкова стрэліць. Да выканання дзяржаўнага гімну, які ты, тата, так не любіш, аўтаматнымі чэргамі. І ведаеш, што запытала Даша – тады яшчэ тая, мая, жывая Даша? «Якія людзі зрабілі гэты агрэгат? Яны ж жывуць з намі ў адным горадзе! Яны ж усё бачаць і ўсё разумеюць!» Як у ваду глядзела, хіба не, Уладзімір Сцяпанавіч? Вы ж у нас усё разумееце! Паслухаць толькі вашы каментары, калі ўвечары глядзіце навіны, вы практычна гатовы апазіцыянер! І ўсё адно малявалі, чарцілі свах чарцей, за зачыненымі дзвярыма, пад святлом настольная лямпы, клацалі мышкай, выводзілі контур за контурам, рашэціну за рашэцінай.

Тата, я не ведаю, за якую частку гэтага праекта адказываў менавіта ты. Магчыма, ты рабіў кабіну, дзе сядзеў

чалавек, які вёз маю Дашу ў СІЗА. Мабыць – кузаў, дзе яна трапятала ад страху, упэўненая чамусьці, што вязуць яе страляць. Я моцна хачу запытацца цябе, тата: аб чым ты думаў, га? Чым тлумачыў сабе гэта? Ты ж чалавек, які стажыраваўся ў Вугоршчыне, чытаў Салжаніцына (памятаю, як ты мне яго ўрачыста паклаў на стол), выдатна разумеў, для якой мэты патрэбнае тваё стварэнне, замоўленае табе акурат напярэдадні «недарэвалюцыі»? Што казаў ты сабе дзеля апраўдання? Што гэта машына, каб перавозіць зняволеных з турмы ў турму? Тата, расплюшчы вочы, навошта гэты падобны да кліна рассякацель наперадзе, браняваная кабіна? Навошта дробныя краты на шкле кіроўцы?

Тата, я распавяду табе! Рассякальнік – каб, калі гэты «чарцёж» уразаецца ў натоўп, маса людзей не замінала руху. Краты і браніраваную кабіну вы, Уладзімір Сцяпанавіч, зрабілі, каб людзі каменнем не прабілі шкло і не выцягнулі кіроўцу і вызвалілі маю Дашу, пакуль нават толкам не затрыманную! Ты ведаў, што робіш сродак барацьбы з маніфестацыямі? Ведаў, што ты, як увогуле любы чалавек у гэтай дзяржаве, акрамя Дашы і мяне, таму што хутка мяне тут не будзе, з'яўляешся слупом сістэмы? Ведаў, але бурчэў, калі слухаў навіны. Перакрыўляў вядучых. Надзвычай смела, тата! А памятаеш, як мы размаўлялі з табою аб тым, як магло здарыцца агульнае шаленства ў Нямеччыне, як мірныя бюргеры зрабіліся крыважэрнымі жывёламі, якія патапілі ў крыві палову Еўропы? Тата, усё проста! У кожнага з іх была субдырэкторыя Prototip_0623 на дыску D:\Work!

ТЫ ВЕДАЎ, ШТО РОБІШ СРОДАК БАРАЦЬБЫ З МАНІФЕСТАЦЫЯМІ?

Тут я забяспечу табе некаторы feedback, водгукі карыстальнікаў аб тваім вынаходніцтве. Па-першае, тата, верхняя прыступка. Вельмі няўдала ты прыдумаў – зрабіць верхнюю прыступку такой высокай. Таму што ў аўтазак людзей не запрашаюць, а закідваюць. З некаторым паскарэннем у спіну. Якое, падчас сутыкнення з прыступкай, вядзе да свабоднага падзення тварам уніз, на падлогу. І інерцыі хапае на тое, каб праехаць па падлозе каля метра, што, у сваю чаргу, вядзе да абдзірання мяккіх тканак, udараў, расколінаў і бурнага крывацеку. Даша кажа, што падлога твайго чарцяжу была ў крыві і ад гэтага, тата, было вельмі слізка. Ведаеш, чалавечая кроў – надзвычай слізкі матэрыял. Падлогу трэба было рабіць з гумы. Альбо, раз прататып ужо запусцілі на канвеер, накрыць яго гумовымі палавікамі.

Другая прэтэнзія – недахоп месцаў для «пасажыраў». Дваццаць адно месца, тата? Аб чым ты думаў, калі маляваў чарцеж? Аб тым, што на дэманстрацыі сапраўды ходзіць сто чалавек, як аб гэтым кажуць па тэлебачанні? Спытайся ў Дашы, колькі вязняў было запіхана ў кузаў у тую ноч, – цябе прыемна здзівіць фактычная змяшчальнасць броняжвічка. А лепш не пытайся. У Дашы, ведаеш, з'явілася дурная ўласцівасць пачынаць смяяцца, а потым адразу плакаць – і ўсё гэта дробна трасучыся, калі яна ўзгадвае пра тыя некалькі гадзін, якія прабыла ў тваім стварэнні.

А яшчэ паліца для захавання шлемаў АМАПу, які, зразумела, павінен быў суправаджаць вязняў з турмы ў турму. Дык вось, размясціў паліцу ты, тата, так сабе. Даша кажа, што побач з ёй на лаве напаўляжаў хлопец, якога, па яе выразе, «адхуярылі» так, што той быў без прытомнасці. Галава хлопца, якую Даша пабаялася прытрымліваць, таму што ў цемры была ўпэўнена, што яго забілі, глуха білася аб паліцу. Гэты драўляны грукат, па яе словах, увеў яе ў стан такой

унутранай цішыні, пасля якой усё, што было далей (стаяць на каленях на марозе, мачыцца пад сябе – ты ўсё гэты чытаў у Інтэрнэце, ты ў нас цікаўны), ужо было бяссэнсоўна. Яна кажа, тата, што нешта памерла ў ёй ад гэтага грукату.

Нарэшце, апошняе – размяшчэнне кратаваных браніраваных вокнаў. Высока ўзяў, татачка! Дацягнуцца да іх можна было хіба стоячы на дыбачках, самымі кончыкамі пальцаў. Ты гэта спецыяльна, так? Каб арыштанты не ўбачылі горада ў апошні для іх раз, а горад – горад не ўбачыў іх. Каб гораду не зрабілася сорамна, так? Я ўяўляю цябе, тата, як бы ты выпадкова апынуўся ў раёне хапуну. Уяўляю, як праз вынадзеныя табою краты на цябе глядзіць хлопец кшталту мяне. Не, тата, ты гэта адразу ж выключыў. Яны маглі бачыць толькі кавалачак неба, як потым, у турме. І вось тут мы падышлі да адной акалічнасці, пра якую я якраз хацеў табе расказаць.

Дык вось, я хадзіў вакол гэтых чатырох карабоў і клікаў яе, пыкаючыся ад жаху, як звар'яцелы, і яна адказвала мне, я чуў яе голас у агульным стогне. Яна імкнулася супакоіць мяне, ціха і спакойна паўтарала: «мілы, мілы», і я не ведаю, чаго каштаваў ёй гэты спакойны тон, калі яна была ўпэўненая, што іх вязуць забіваць. А яшчэ – яна заспявала нашу песеньку пра казу і ваверку, якую мы разам склалі, вяселую такую песеньку, мы спявалі яе ў ложку. Блядзь… Я не расказваў табе ўсяго гэтага для таго, каб ты не перажываў, каб мой добры бацька, аматар рыбалкі і кіно «Масква слязам не верыць», не пакутаваў. Шчыра табе скажу: я хваляваўся, што ты зробішся, як Даша, калі я распавяду табе, як яно было. Я не ведаў, што табе зараз ніколі не быць такім, як Даша. Ты непахісны – на процілеглы бок. На бок тых, хто пхаў яе ў аўтазак.

Я бадзяўся паміж гэтымі чатырма турмамі пад пранізлівым ветрам

А ЯШЧЭ – ЯНА ЗАСПЯВАЛА НАШУ ПЕСЕНЬКУ ПРА КАЗУ І ВАВЕРКУ, ЯКУЮ МЫ РАЗАМ СКЛАЛІ, ВЯСЕЛУЮ ТАКУЮ ПЕСЕНЬКУ, МЫ СПЯВАЛІ ЯЕ Ў ЛОЖКУ. БЛЯДЗЬ…

Калі ў тую ноч я, трасучыся і загаворваючыся (тры разы імкнуўся вымавіць таксоўшчыку: «Кастртртртрычніцкая плошча»), прыехаў да палаца прафсаюзаў, я ўбачыў толькі чатыры машыны. Чатыры твае «чарцяжы». Людзей ужо не было, толькі груды смецця ў тых месцах, дзе калісьці стаялі наметы. Міліцыянт з акружэння ўбачыў мой стан, зразумеў, што я – не з імі, прапусціў мяне да машын, дзякуй яму за гэта! Я хадзіў вакол гэтых чатырох жалезных карабоў і траціў прытомнасць – бо ведаў Дашу, разумеў, што з яе характарам з аўтазака яна выйдзе ўжо зусім іншай істотай, так яно і сталася, бо я ведаў Дашу, ведаў яе таму, што кахаў, і кахаў таму, што ведаў.

у сваім шэрым плашчы, накінутым на саколку з кароткім рукавом, у кедах на босую нагу, не адчуваючы ні холаду, ні першых подыхаў завірухі. Я тады наўрад ці разумеў, чаго імкнуўся дабіцца, калі скрэбся ў браніраваны бок аўтазака, ламаючы пазногці, прыстываючы да яго шчакою, імкнучыся адчуць сваю Дашу праз жалеза, пачуць, у якім з іх – яна. А зараз, тата, я разумею ўсё надзвычай ясна, чаго я жадаў. Мне патрэбна было ў апошні раз убачыць яе твар. Твар той гарэзлівай Дашы, Дашы, якую я кахаў. У нас хапіла б моцы, каб усміхнуцца адно аднаму. Развітаўшыся так, я, напэўна, здолеў бы пачаць забываць яе. Забіваць яе ў сабе. Паліць лісты і гімны ляноце, якія мы з ёю пісалі. Але ўсё,

што я бачыў, кідаючыся паміж гэтымі браневікамі, – толькі кончыкі пальцаў, тырчэўшыя пад дахам кузава. Яны варушыліся, як у стужках пра зомбі. Нібыта аўтазакі былі панабіваныя жывымі трупамі і сярод гэтых мерцвякоў спявала нашу недарэчную песеньку пра казу і вавёрку Даша. Я глядзеў на гэтыя кончыкі пальцаў, разумеў, што адна з гэтых далоняў – маёй Дашы, і мне задавалася, што ім там не хапала паветра, я ўжо тады разумеў, што там няма вентыляцыі, парна, і мне здавалася, што ўсе яны, і сярод іх мая Даша, дыхаюць праз рукі, праз кончыкі пальцаў, што гэта адзіная іх магчымасць дыхаць.

Я так і не знайшоў яе, тата. Я пераканаў сябе ў тым, што яна была ў апошнім аўтазаку, і верыў у гэта тыя 15 сутак, што яна сядзела. Калі яна выйшла, сказала, што – у сярэднім. Наша непаразуменне пачалося з той ночы, калі я яе не знайшоў. Мы не знайшліся з-за высокіх вокнаў твайго чарцяжу, тата. З-за гэтых высокіх вокнаў я не здолеў у апошні раз зазірнуць у вочы маёй утульнай і гарэзлівай Дашы, якую я кахаў і якую буду кахаць да канца жыцця. Ты мне не дазволіў сказаць «бывай», нават позіркам. За гэтае і толькі за гэтае я праклінаю і зракаюся цябе. У цябе больш няма сына. Будзь ты пракляты.

Што было далей, ты ведаеш. Я, здаецца, распавядаў табе, як занёс ёй у перадачы яе любімую белую гарбату з ледзве раскрытмі лісцікамі, белымі знізу, зеленавата-попельнымі зверху, «белыя вейкі», у якіх, калі прыгледзецца, можна знайсці кавалачак сну (о, як яна любіла спаць!), а ў спісе прадуктаў, якія дазвалялася перадаваць арыштантам, – чорны хлеб і сала, тата. Сала. І я пхаў гэтую белую гарбату ў рукі афіцэру ў вакне прыёму і ашалела паўтараў, што Дашы патрэбна піць белую гарбату, што яна не вытрывае без белай гарбаты, мая Даша, і яна сапраўды не вытрывала, нягледзячы на тое, што гарбату ўсё ж такі забралі, але я так і не даведаўся, ці трапіла яна да Дашы. Дашы больш няма. Я застаўся адзін.

Тут я спынюся. Я не ведаю, як ты адолееш тое, што прачытаў. Я адчуваю, што ўва мне зараз куды больш нянавісці да цябе, чым я здольны ўтрымліваць. Я ведаю, што так нельга, што я сам не вытрымаю, парвуся, прарвуся, вярнуся з Амерыкі, кінуся перад табою на калені. Бо ты – мой бацька. Але я больш не хачу цябе бачыць. Прабач мяне за тое, што я тут напісаў.

Тата, тата, ну што ты нарабіў! Ну навошта ты ў гэта ўсё палез? Чаму ты не адмовіўся, мой добры бацька? Ён жа будзе ездзіць па тваіх сненнях, замінаючы табе спаць, гэтак жа сама, як зараз ездзіць па маіх. У дольнай скрыні камоды – шклянка віскі. Выпі і кладзіся спаць, раніцай пойдзеш на працу і табе зробіцца лягчэй. Паспрабуй усё забыць. Будзь шчаслівым. Бывай назаўсёды.

Твой сын.

*Пераклаў з расейскае*
*Максім Шапялевіч*

# ПІСТОНЧЫК

## З «ГІСТОРЫЙ О'ВАСІ, ДУБЛІНСКАГА БАЛАБОЛА»

*У Васі Рудашчокага было шчасьлівае дзяцінства, новы лісапед і 19 пальцаў. Са школьных гадоў ён езьдзіў па барах і клянчыў у бармэнаў грамульку. Там – піўком пуза наросьціць, там – стапаром віскі пячонку разьмягчыць, там – самагонам горла памучае. Усе мясцовыя калдыры і гуляшчыя бабы ведалі хлапца, любілі і чакалі. Бо ён умеў расказаць гісторыю харошую, а такіх жа людзей на сьвеце ой як мала – як мандавошак у машонцы сьвятога Патрыка. Васю заўсёды зь нецярпеньнем чакалі, таму і празывалі «О, Вася!».*

*У чаканьні О'Васі булдосы за барнай стойкай нервова грызьлі ногці на сваіх і нават чужых руках і нагах, піць пілі, але нават не бляvalі. Бо выбяжыш у сарцір, павэкаеш у дзюрку, вернешся, а тут – хопа! – канец гісторыі. І значыць, цябе да наступнага разу будуць зваць лахом, а то і вапшчэ – англічанінам.*

*Найбольш О'Вася любіў травіць сюжэты пра сьвятых і розных герояў, але былі ў яго байкі і пра звычайных рабочых, якія сабачку ад жывадзёра абароняць, а сябе ад багацея-кравапіўцы – не, бо сцыкатна. Вось адна з іх.*

**Пра сцыклівага мэнэджэра**

Аднойчы сцыклівы мэнэджэр МакМаксімчык пайшоў пасцаць у кусты і знайшоў там канюшыну з чатырма пялёсткамі. Падумаў і загадаў стаць героем ірландзкай нацыі. Чык-чырык – і вось ён ужо ў дасьпехах і з кладзянцом сядзіць на кані. Закіпелі ў башцы мэнэджэра мазгі ад перспекціў шырокіх, і паскакаў ён у свой офіс. Пасёк у вінігрэт і бухгалцерыю, і начальніка свайго. Потым выпусьціў кішкі суседу, які ў школе пастаянна пстрыкаў у яго казюлямі з носа. Да МакМаксімчыка выслалі паліцыю, але ня бралі яго ані кулі, ані гранатамёты. Бо ён жа, бляць, Герой!

Далей мэнэджэр пайшоў на Лондан, паадрубаў бошкі ўсялякім лордам, пэрам, сэрам, мэрам і прочам высакамернай шлаэбені. А калі дайшла чарга да масакры ў каралеўскім сямействе – прынцам з прынцэсамі гарлянкі паўскрываў, а саму каралеву ня змог чыкнуць, а толькі пусьціў сьлязу па сваёй сцыклівай шчацэ. МакМаксімчык падумаў «А каралеву за што? Яна ж старая жэншчына, дзеці і ўнукі – піздаболы, міністры – хлышчы хітрадупыя. Хуйня гэта, а не жысьць каралеўская. Ды і сцыкатна яе рэзаць, яна ж божая асоба, а не мармышка капеешная». Карочэ, пасадзіў яе на конскую сраку і адвёз у дом прэстарэлых.

Вярнуўся Герой дадому, а там яму ўжо і помнік адгрохалі з вензелямі

і жывым аркестрам. Узяў мэнэджэр у жонкі Марынку з дрэўняга роду Цыцкормікаў, якая ўсім паказвала і нікому не давала. Збацалі вясельле, на якое папрыходзіла купа людзей і нечысьці. Лепрыконы прынеслі ў падарунак залаты ўнітаз з сярэбраным ёршыкам. Гномы прыйшлі ўжо ў гаўнішча і шчупалі за ляжкі дабрадушных сялянак. А эльфы тупа ўсё сьвята прасядзелі на даху, назіраючы за феерычнай папойкай.

А тым часам каралева пазваніла сваім шпіёнам за акіян, ціпа тут такая хуйня, імперыя пад ударам, гідра прасталюдзінская падняла сваю голаву, мы не далжны праглаціць абіду і ўсё такое. Шпіёны, каб не спаліцца, прыехалі ў Дублін у касьцюмах вадаправодчыкаў, падсыпалі Герою ў суп пургену, а пакуль той сымаў брукі – насадзілі на кол. МакМаксімчык круціўся-вярцеўся і праз гадзіну здох. А аслупянелы ад такога павароту народ запакавалі і рассувалі па зонах.

УЗЯЎ МЭНЭДЖЭР У ЖОНКІ МАРЫНКУ З ДРЭЎНЯГА РОДУ ЦЫЦКОРМІКАЎ, ЯКАЯ ЎСІМ ПАКАЗВАЛА І НІКОМУ НЕ ДАВАЛА

Вось так сцыклівасьць прывяла да нацыянальнай трагедзіі. Вось так каралева паказала, што старасьць ня толькі ня радасьць, але і бляцкая шырма, за якой хаваецца хітры дзьябал.

**Пра Брунгільзу**

У настаўніцы ірландзкай мовы Мэгі Жалезная Рука быў муж-сталевар Якуб Валасатыя Плечы. Доўгімі ірландзкімі вечарамі яна даставала рашчоску і рабіла мужу на плячах красівую прычоску, а Якуб браў томік з дрэўняй паэзіяй і заплетаюшчымся языком дзекламіраваў.

Вёска, у якой яны жылі, піла так, што і есьці развучылася.

На школьных занятках Мэгі абапіралася п’яным носам аб вучыцельскі стол, расказвала дзецям параграф і адрубалася. Так праходзіла ў вёсцы школьная юнасьць.

А сталевар Якуб піў яшчэ больш за жонку. Аднойчы ён з бадуна хлебануў з каўша гарачанькага металу, пасля чаго язык стаў жалезным і Якуб навучыўся лоўка і громка стучаць ім па стале, трэбуючы ад жонкі дастаць з серванта чэкушку.

Карочэ, вы зразумелі, што ў вёсцы гэтай усё было хуёвым. Але людзі былі расчудзесныя. Бо гэта ж Ірландзія – краіна простых людзей са складанай бажэсьцьвенай місіяй.

Найгалоўнейшым бажэсьцьвеным знакам у сяле было тое, што дзеці тут нараджаліся часьцей, чым сьпіваўся чарговы прыежжы дохтар. А дахтароў прыходзілася выпісваць з гораду кожныя панядзелак, сераду і суботу. Апошняга, сэра Сільвера Штофа, прыйшлося вызываць з самога Лондана. Бо з раёну і вобласьці сюды ехаць ужо баяліся, а з Дубліна прыходзілі тэлеграмы, ціпа: «Ідзіце нахуй. Мы п’ем яшчэ больш. Падымаем бакалы за ваша здароўе». Ну і, вопшчэм, прыехаў той Штоф, малады, няп’юшчы, з біцэпсамі і медзіцынскім чамаданам. Пасадзілі за стол, каб прыезд адпразнаваць. Наліваць не налівалі па яго просьбе. Усе ўжо ў гаўнішча, дзеўкі маладыя хіхікаюць, мухі з падаконьнікаў блююць вінігрэтам. Адзін урач сядзіць як дзібіл. Хацеў было адной брунэтке камплімент зрабіць джэнтэльменскі. А тая кажа – хуй табе, эскулап. У нас у сяле такі закон – дзеўкі даюць толькі п’юшчым. Вось так і сьпіўся малады сталічны сэр.

Але нешта я не пра тое вяду. Я ж пра дзяцей пачынаў. Дык вось. Нарадзілася аднойчы ў Мэгі і Якуба дзевачка. І назвалі яе ў чэсьць прадзеда Брунгільзай, бо прадзед Брун быў на вайне і прывёз адтуль мяшок

гільз, з якіх бабка потым саарудзіла красівую люстру. Паглядзець на яе нават прыяжжалі з Обшчэства ветэранаў і шчоўкалі на фота для каляровага ваенна-патрыятычнага часопісу «Імперскі аганёк».

І вось незадоўга да нараджэньня Брунгільзы случылася ў вёсцы страшная напасьць. Па начах да непаслухмяных дзяцей стаў прыходзіць Англічанін і забіраць іх у чорным экіпажы хуй знае куды. Спачатку у Салівана Губашлёпа прапаў сямілетні сын, які адмаўляўся мыць раз у месяц ногі. Потым на суседняй вуліцы зьніклі тры младзенца жэнскага полу, якія так доўга не хацелі нараджацца на сьвет, што баця са злосьці ўсіх трох назваў Сіланціямі.

> СПАЧАТКУ У САЛІВАНА ГУБАШЛЁПА ПРАПАЎ СЯМІЛЕТНІ СЫН, ЯКІ АДМАЎЛЯЎСЯ МЫЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ НОГІ

Брунгільзу Англічанін выкраў, калі ёй стукнула трынаццаць. Акурат у той час пацаны ў школе пачалі яе шчупаць за ягадзіцы, запрашаць пакурыць у туалеце і пагуляць пад начным небам. Бацькі закрывалі дзеўку у хаце, а тая ўцякала. Ну, вось і даўцякалася.

Англічанін запіхнуў Брунгільзу ў мяшок, кінуў у капот экіпажа, а нараніцу дзеўка прачнулася ў халоднай цюрме. Дзяцей там было сотні, а то і тышчы. Англічанін карміў іх гнілой бульбай, біў і пастаянна казаў, што ўсе яны быдла, а ён – эталон вышшай брытанскай расы. У выніку Брунгільза падгаварыла ўсіх на бунт. Англічаніна дзеці парвалі на брытанскі сьцяг, а потым арганізавалі Ірландзкую Рэспубліканскую Армію. Праўда, у кніжках пішуць, што армію гэтую прыдумаў мужык, але вы ня верце. Асабліва кніжкам, напісаным выпускнікамі брытанскіх універсіцетаў. Бо верыць можна толькі тром крыніцам – Старэйшай Эддзе, Малодшай Эддзе і мне.

# ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

## МАЎЧАННЕ МАНДРАГОРЫ

Мандрагора крычала.

З крылцаў матылёў сцерушыўся каляровы пылок, і няшчасная жамяра пападала на зялёную траву праклятымі анёлкамі. Каб так умеў гарлаць ягоная мосць канцлер Астафій Валовіч альбо ягоная мосць Мікалай Радзівіл Руды, ганебны Люблінскі сойм прыпадобніўся б зграйцы прусакоў, якія ўцякаюць ва ўсе шчыліны варыўні ад трапнага кідка гаспадарскага чаравіка.

Але сойм адбыўся, ліцвіны патрапілі пад залачоны абцас Кароны, а асабліва наравістыя з дэпутатаў зарабілі выгнанне і блыталіся па свеце, як ваўкі, якім на шыі ўздзелі маністы са званочкаў.

Ды мізэрныя сутнасці, кшталту бруднага карэньчыка са звяглівым характарам, часам здольныя змяніць рух груваcткіх механізмаў цэлых дзяржаў. Варухнуцца лейцы – і зорнае кола выцісне іншую каляіну на чорнай далані вечнасці.

Хударлявага старога ў манаскай расе звалі Мнішак, і не быў ён ні італійцам, ні мніхам. Ён асцярожна выцягваў з чорнай зямлі белы падвойны корань, што пачварна нагадваў чалавечую фігуру. Учэпістыя жоўтыя пальцы старога, упэцканыя ў перагноі, не дрыжэлі ад вар'яцкага крыку. А што ж, васковыя коркі для вушэй выпрабавалі яшчэ арганаўты, ратуючыся ад заваблівых спеваў сірэн.

Вучань старога чарнакніжніка Грэгар, нізкарослы і трапятлівы, як сітаўка, падставіў скураны мяшок. Туды і адправілася чароўная расліна, якая вырасла пад шыбеніцай. Праўда, ад тае шыбеніцы цяпер застаўся толькі згнілы слуп. Але аднойчы пасеянае зло не перастае прарастаць стагоддзямі.

Грэгар хуценька завязаў мех, быццам баяўся, што мандрагора выскачыць, выслізне, як ласка альбо гадзюка. Мнішак выпрастаўся, трымаючыся за паясніцу, асцярожна дастаў з вушэй васковыя коркі і шпурнуў у траву.

– Хутка вы зможаце схіліць да сябе любое сэрца і павесці за сабой любое войска, найяснейшы князь Вольша!

Малады рыцар у блакітным жупане, вышытым срэбрам, таксама вызваліў ад воску вушы – мандрагора, якую выцягваюць з зямлі, магла не толькі пазбавіць слыху, але й давесці да вар'яцтва. Зялёныя, як смарагд, вочы князя – адначасова жорсткія і наіўныя, як у дзікуна, – уважліва вывучалі аскетычнае аблічча старога.

– Спадзяюся, ва ўсім гэтым няма ўдзелу нячыстай сілы і згубы для душы?

Мнішак адрывіста перахрысціўся ўпэцканай у чарназём рукою.

– Хоць мая манаская раса падманвае, бо я не мніх, але жыццё я прысвяціў Госпаду... і спазнанню таямніцаў ягонага свету. Тынктуру з мандрагоры робяць ва ўсіх кляштарах, і брыгіткі, і дамініканцы, і францысканцы, і спадчыннік прастолу святога Пятра такую ўжывае... Ні вашай душы, ні целу нічога не пагражае! Галоўнае, адпіваць трэба непасрэдна перад важнымі перамовамі, іначай настой траціць сілу...

У абыякава сінім небе кружляў сокал, падобны знізу да літары, з якой пачынаецца слова Вікторыя. Але да перамогі было далёка... Быў час паразы. Час, калі моцныя схіляюць галаву на плаху, каб не схіліць калені, а слабыя паміж вастрыём і дзяржальнам мяча ката абіраюць дзяржальна і самі караюць былых паплечнікаў. Час крыві, час Фартуны і прагі да ўлады.

Вольша адкінуў пяцярнёй валасы з ілба. Пальцы – арыстакратычна тонкія і моцныя, як належыць вою, – былі знізаныя пярсцёнкамі. Нобіль і ў выгнанні павінен захоўваць гонар роду. Валасы светлыя, выбеленыя сонцам некалькіх краін, але некалькі жорсткіх войнаў яшчэ не ўпляліся ў іх сівізной... У зялёных вачах маладога князя гарэла тая апантанасць, з якой і будуюць, і руйнуюць Вавілонскія вежы.

– Я адпомшчу за сваіх бацькоў і за братоў! Збяру войска, і вернецца залаты век княства!

Пальцы, знізаныя пярсцёнкамі, сціснулі маленькую шкляніцу, што вісела на шыі на тонкім срэбным ланцужку. Шкляніцу, падобную да ледзяша на краі даху, упрыгожвалі срэбныя карункі ў выглядзе анёльскіх крылаў. Вадкасць у ёй не была атрутай. Такія шкляніцы-слёзніцы ўвайшлі ў моду ў Вялікім княстве дзякуючы каралеве-італійцы. У моманты найвялікшага гора ў гэтыя сасуды збіралі ўласныя слёзы – жонкі, каб паказаць, як гаравалі ў расстанні па сужонцах, удовы – у доказ гора, палкія кавалеры – дзеля сведчання кахання... Праўда, што насамрэч калбацілася ў шкляніцах апошніх – слёзы альбо падсоленая вадзіца – паспрабуй правер... Было і яшчэ адно прызначэнне слёзніцаў – назапашваць слёзы гневу і роспачы, што могуць быць аплачаныя толькі крывавай помстай. Князь Вольша не плакаў, нават калі, ачуняўшы ад ранаў, даведаўся, што бацька і два браты забітыя, а ўладанні сканфіскаваныя на карысць Кароны – за «здраду». У шкляніцы са срэбнымі анёльскімі крыламі гарчылі слёзы Вольшавай маці, што яна паспела выплакаць, пакуль не згасла сама, як забытая на падваконні свечка...

Тынктура мандрагоры, змяшаная з такімі пякучымі слязьмі, неадменна надзеліць уладальніка нечуванай уладай над душамі, якую мелі Аляксандр Македонскі, Барбароса, Карл Вялікі, па адным слове якіх тысячы радасна беглі ў безнадзейную бойку, як мурашы на сцябле, нахіленаму над ручаінай, не зважаючы, што сцябло занадта кароткае і напрыканцы чакае адхон і згубная вада... Кідаліся, рушылі, ірваліся, высцілалі сваймі трупамі дарогу для таварышаў – і перамагалі... Няма ў ліцвінаў такога правадыра, патрапіла калісь маланка ў вершаліну гонкай сасны, і застаўся толькі каржакаваты, абсечаны наверсе ствол...

Нічога, князь Вольша можа такім правадыром стаць. Галоўнае, мандрагору знайшлі!

Стары Мнішак пастараўся, каб малады гаспадар не заўважыў у ягоным позіркy цень горкай насмешкі. Колькі разоў бачыў стары, як рука, якой замахнуліся на Галіяфа, усяго толькі збівала шапку з галавы якогась з ягоных незлічоных слугаў... Колькі разоў адмыслова выкаваны меч, якім рыхтаваліся здабыць карону, назаўсёды тупіўся аб карчомны стол альбо страчваў бляск у п'янай бойцы...

Мандрагора варухнулася ў скураным мяшку, як аглушаная, але яшчэ жывая змяя.

У мястэчку ля разбуранага замка, што калісь належаў продкам Вольшы, была ўсяго адна карчма, адна царква, адна сярэдняй злавеснасці вядзьмарка і адна прыгажуня, пад вакном якой шляхцюкі скрыжоўвалі шаблі ды спаборнічалі ў куртуазных прамовах. Так што падваконны дыярыуш з цукру вуснаў, зораў вачэй ды шоўку валасоў мог прагаўкаць на памяць нават мясцовы сабака...

Князь Вольша, пабываўшы ў карчомцы, не мог прамінуць куртуазны турнір – так, дзеля забавы, як, ідучы дваром, сарваць з куста гронку парэчак. Цёмныя, крыху санлівыя вочы мясцовай Чароўнай Дамы зірнулі з вакна з аблезлымі чырвонымі ваканіцамі, і сэрца рыцара не працяла ані маланка, ані залатая страла, хіба кальнула голка крыўды. Дачка нейкага войскага, які мусіў развозіць позвы мясцовай шляхце, адварочваецца ад маладога гожага князя, няхай і апальнага! Сведкі паблажлівыя ўсмешкі хаваюць. Стрэмка маленькая, але ж смыліць...

ЦЁМНЫЯ, КРЫХУ САНЛІВЫЯ ВОЧЫ МЯСЦОВАЙ ЧАРОЎНАЙ ДАМЫ ЗІРНУЛІ З ВАКНА З АБЛЕЗЛЫМІ ЧЫРВОНЫМІ ВАКАНІЦАМІ, І СЭРЦА РЫЦАРА НЕ ПРАЦЯЛА АНІ МАЛАНКА, АНІ ЗАЛАТАЯ СТРАЛА, ХІБА КАЛЬНУЛА ГОЛКА КРЫЎДЫ

Як заваёўваць трон, калі зваліўся са звычайнага зэдліка? Вольша намацаў на грудзях слёзніцу з тынктурай мандрагоры... Адна кropля – і дзеўка гатовая будзе русявымі косамі яму боты выціраць, а нахабныя местачковыя шляхцюкі – укленчыць перад будучым каралём...

Можа, так і сталася б – але не лёс быў князю Вольшы прамовіць ані слова, узмоцненага сілай мандрагоры, бо паслізнуліся ягоныя саф'янавыя боты на каменным выступе пад прыгажуневым вакном. І, здаецца, і не высока падаць – але гахнуўся няспраўджаны кароль проста скронню аб лаўку, нацёртую да бляску азадкамі кавалераў, і зялёныя, як смарагд, вочы ўтаропіліся ў ліцвінскае неба здзіўлёна-разгублена: няўжо гэта ўсё? І поўз па мёртвай руцэ з пярсцёнкамі час, як матыль, з крылцаў якога абсыпаўся пылок.

Чарговая экскурсія заявілася ў правінцыйнае мястэчка на Кузьму ды Дзям'яна, што апякуюцца кавалямі ды швачкамі.

Але развучыліся маладыя кабеты ў гэтым мястэчку шыць жупаны, світкі ды андаракі. На мясцовы рыначак кожную суботу прывозілі дробныя гандляры транты, пашытыя ў Турэччыне ды ў Кітаі. Кофты з нашытымі бліШчынкамі, нагавіцы з чорнай матэрыі, што агідна патрэсквала, калі пацерці, кажухі, якія з другога канца вуліцы ды ў прыцемку можна прыняць за зробленыя з сапраўдных скураў. І кавалі перавяліся. Няма каму служыць вогненнаму богу Жыжалю.

Засталася адна царква, адна рэстарацыя для вяселляў, хаўтураў ды турыстаў, адна мясцовая краязнаўка, што матавілам матала нервы начальству наконт захавання «культурнай спадчыны», ды замак, адну вежу якога паднавілі настолькі, каб вадзіць перад рэстарацыяй турыстаў. У вежы зладзілі музей, куды згрувасцілі ўсё, што змаглі: выпрашаныя ў сталіцы пару карцін з выявамі былых уладальнікаў замка, калаўроты-ручнікі, сабраныя па хатах. А галоўнае – рэчы са старой аптэкі, што яшчэ за палякамі працавала ў мястэчку. Маленькія вагі, ступкі, рознакаляровыя бутэлечкі для мікстураў, пушкі

з пігулкамі, якія даўно страцілі лекавыя якасці...

– Гэтыя шпалеры былі моцнай атрутай, – танклявы голас старога загадчыка музея дрыжэў, быццам кола па брукаванцы, жоўтыя ўчэпістыя пальцы асцярожна трымалі за краёчак рарытэтны папяровы ашмётак. – У віктарыянскую эпоху ўвайшоў у моду зялёны колер, смарагдавы, малахітавы... А яго дасягалі з дапамогай мыш'яку, альбо, як называлі яго раней, аршэнніку. Гасцёўня, абклееная такімі шпалерамі, ператваралася ў смяротную пастку, загадкавыя смерці абсякалі адзін род за другім. Гаварылі пра фамільныя праклёны, помслівыя прывіды, зачараваныя дамы... А смерць хавалася ў прыгажосці шпалераў, парцьераў, дываноў... Нават альбом з каляровымі малюнкамі ў эпоху каралевы Вікторыі мог забіць – столькі ў ім утрымлівалася мыш'яку!

Малады чалавек з вачыма гэткімі зялёнымі, быццам іх колер утварыўся не без дапамогі мыш'яку, з моднай хіпстарскай светлай бародкай уважліва азіраў прылады і сасуды, што грувасціліся на вузкіх сталах уздоўж сценаў, удаючы кабінет алхіміка. Раптам зялёныя вочы апантана бліснулі.

– Выбачайце, што гэта такое?

Экскурсавод змоўк, удзельнікі невялічкай экскурсіі – з дзясятак студэнтаў-медыкаў, якія не змаглі «адмазацца» ад пазнаваўчага падарожжа, – незадаволена азірнуліся на аднакурсніка. Але ўслых абурацца не сталі: Алег Корвускі – хлопец гарачы, ды й завязваць з ім размовы небяспечна. Завядзе ўлюбёную гаворку пра слаўныя часы Вялікага Княства Літоўскага, каланізацыю ды тыранію, сам пад падазрэнне падпадзеш. Чаму такім, як Корвускі, вечна трэба больш, чым іншым! Колькі разоў ледзь не адлічылі за ўдзел у розных там пікетах...

Стары загадчык, аднак, не залаваў, пільна зірнуў на дзёрзкага наведніка, чый палец паказваў на мізэрны шкляны прадмет, падобны да ледзяша ў пацямнелых карунках аправы. Лядзяш быў пачэплены за ланцужок на звычайны цвік.

– Гэта слёзніца, малады чалавек, – нетаропка прагаварыў стары, яго аскетычны твар нібыта хаваў напружанае чаканне і надзею. – Адзін з самых цікавых экспанатаў. Шаснаццатае стагоддзе. У такі сасуд збіралі слёзы, пралітыя з нейкай важнай прычыны.

– Значыць, там па-ранейшаму – нечыя слёзы? – нецярпліва перапытаў малады чалавек, адкінуўшы з высокага лба валасы проста пяцярнёй, на якой так і мроіліся пярсцёнкі. У шкляніцы сапраўды спачывала мутнае рэчыва.

Загадчык пакрывіў бледныя вусны ў падабенстве ўсмешкі.

– Невядома. Сасуд не адкаркоўвалі некалькі стагоддзяў, і мы не сталі. Ён герметычны, вялікая верагоднасць пашкодзіць каштоўную рэч. А зараз, – гід павярнуўся да іншых наведнікаў, – я пакажу вам сапраўдны атанор, алхімічную печ. Яна знойдзеная ў ацалелых сутарэннях замка.

Гоман сціх дзесьці ўнізе. У пакоі застаўся адзін зеленавокі юнак. Усё выявілася надта простым. Стары нават не зрабіў спробы змусіць нахабу пайсці з групай, хаця і кінуў на развітанне вострым позірк на маладзёна, які ўдавана ўважліва вывучаў металёвую прыладу для фармавання лекавых свечак. Чаму слёзніца ніяк не ахоўваецца? Усё-ткі рарытэт... Можа, відэакамеры? Хаця ў правінцыйным музейчыку з аблезлым пластыкам і ад рукі напісанымі цэтлікамі – адкуль ім з'явіцца? А, усё роўна... Ужо ўвечары Корвускі апынецца вельмі далёка, некалькі важных перамоў – і імя новага нацыянальнага лідара хутка пачуе ўвесь свет! І вернецца слава народу, які гатовы адрачыся ад волі і імя. Бо ніхто не зможа не паслухацца чалавека, які пакаштуе тынктуру мандрагоры, настоеную на слязах!

Студэнт таропка дагнаў сваю групу. Сэрца калацілася, як меч аб чужыя даспехі. Слёзніца з чужымі слязьмі халадзіла пад кашуляй ільдзінкай.

Да цягніка заставалася паўтары гадзіны, і зеленавокі пайшоў у вакзальны буфет... Не забыўшыся замовіць там прадавачцы на беларускай мове «філіжанку кавы», каб атрымаць асалоду ад разгубленасці і раздражнення яшчэ адной «не панімаю, гаварыце на чалавечаскім языку».

А вось дзяўчына, што пацягвала гарачы шакалад, стоячы за столікам побач, на забаўны інцыдэнт не ўсміхнулася. Дзеўка як дзеўка, на вуснах размазаліся кроплі шакаладу, чырвоная, трохі палінялая куртка-пухоўка, санлівыя цёмныя вочы, русявыя валасы па-старасвецку заплеценыя ў касу. Корвускі сустракаўся з куды больш прыгожымі і ўжо, вядома, разумнейшымі, якія маглі паразважаць і пра віталізм расстралянага крытыка Адама Бабарэкі, і пра апошні фільм Алекса Ванвармердама, і самі маглі з прыдыханнем папрасіць у кавярні філіжанку кавы.

Але гэтая дзеўка толькі слізнула па зеленавокім студэнце санлівым позіркам і адвярнулася... І на спробы загаварыць адмоўчваецца. Ды грэбліва адсоўваецца – ну так, Корвускі выпадкова скінуў локцем на марморовую падлогу купленую ў буфеце канапку са склізкім салёным гурком і вяндлінай... Ведала б дурніца, хто з ёй побач! Чыё імя хутка стане вядомым усяму свету! Рука сама намацала пад кашуляй шкляніцу на пацямнелым срэбным ланцужку... Урэшце, трэба ж праверыць, ці праўда тынктура ў слёзніцы мае абяцаную моц, ці голас чалавека, які выпіў яе, здольны падпарадкаваць любога? Адна кропля... Для пробы... І выпраўляцца ў шлях без агіднага адчування паразы. Дробнай, нічога не вартай – але ж паразы!

Кропля была салёнай, як сапраўды сляза... Пʼянкое адчуванне ўласнай моцы змусіла выпрастацца, ганарыста расправіць плечы, пацягнуцца...

ВЕДАЛА Б ДУРНІЦА, ХТО З ЁЙ ПОБАЧ! ЧЫЁ ІМЯ ХУТКА СТАНЕ ВЯДОМЫМ УСЯМУ СВЕТУ!

Гэта была не вельмі добрая ідэя. Чаравік паслізнуўся на салёным гурку і вяндліне з канапкі, скінутай на падлогу, рукі нязграбна ўзмахнулі, а скронь паляцела насустрач металёвай ножцы стала, выкаванай у выглядзе вычварнай расліны...

Хто наступіў на шкляны лядзяш, які вісеў на ланцугу на шыі няшчаснага маладзёна, цяжка сказаць: цікаўнага народу збеглася шмат. Празрыстая лужынка, усыпаная шкельцамі, высыхала на вачах.

Мандрагора маўчала.

2015

# ІЛЬЛЯ СІН

## LIBIDO

*(урыўкі)*

Марыя доўга разглядае зморшчыны на азызлым пасьля сну твары. Цяпер яна магла б патрапіць хіба ў раздзел «сьпелыя», прасьлізнула думка. Але там заўсёды вялі рэй дагледжаныя немкі ды француажанкі, а месца «рускіх» было толькі ў супрацьлеглай катэгорыі «лаліты».

У ранішнія часы розум нібы выскоквае па-за межы цела, нібы аддаляецца ад яго некуды па сваіх справах.

Цела Марыі цьвёрдае і сухое, быццам счарсьцьвелы кавалак велікоднага пірага.

Цела, дотык да якога прыносіць адно нэрвознасьць, а калі цёплым альбо гострым, тады рэфлектарнае ўздрыгваньне.

Цела, якое здаецца ёй адзінай уласнасьцю, і менавіта таму яно стала чужым.

Яно даўно ўжо не прыдатнае да спажываньня. Яно проста функцыянуе.

Марыя разглядае ямінкі, складкі, варыкозныя прожылкі, шчылінкі, бугарочкі, валасінкі, чырвоныя плямкі. Смочкі апушчаны долу – ня тое што раней.

Праз адчыненае вакно чуваць выбух. Гэта ўпершыню, таму Марыя палохаецца. Фортка грукае аб сьцяну, шкло трасецца ад вібрацыі, але не разьбіваецца. У дзясяткаў машын сынхронна спрацоўвае сыгналізацыя – у кожнай на свой капыл, – і ў гэтым гармідары першапачатковая прычына неяк хутка забываецца.

Марыя апранае халацік, запальвае і падыходзіць да вакна. Ля пад’езду бязладная гамана. Усе паказваюць у бок цагельнага завода. Відавочна, снарад пацэліў менавіта туды.

Марыя згадвае апошнія навіны на мясцовым радыё, але тут жа лічыць за лепшае іх забыць.

* * *

Гэта нічыйная тэрыторыя, невялікая пустка паміж аўтамагістральлю ды жылымі кварталамі. Вось ужо колькі дзесяцігодзьдзяў яна трывала выключана з цывілізацыйных працэсаў, стаўшыся для ўсіх лішняй. Яе прынята прамінаць па датычнай, на ладнай хуткасьці ды гледзячы выключна перад сабою.

Дзякуючы гэтаму лапік зрабіўся сапраўдным запаведнікам для сьмецьця. Людзі рэгулярна выкідаюць туды самыя розныя рэчы, і ніхто іх ніколі не прыбірае.

Гэтыя рэчы мэталічныя, плястмасавыя, скураныя, кардонныя. Чырвоныя,

жоўтыя, парудзелыя, асклізла-шэрыя. Некаторыя зь іх даволі буйнагабарытныя, а некаторыя нават цяжка і ўгледзець у траве.

Позірк факусуецца на нейкіх дробных дэталях, кшталту паўсьцёртай наклейкі на кодабе дзіцячага грузавіка.

Марыя здатная бачыць пэўнае хараство ў выпадковых спалучэньнях прадметаў, арганізаваных паводле сваіх натуральных законаў – нібы непадуладная чалавечай рэгуляцыі экасыстэма.

Найперш гэтае хараство ў ненаўмыснасьці. Ніводзін дызайнэр альбо мастак ня здолеў бы стварыць такую інсталяцыю.

Толькі вецер, павеў якога раптам кудлаціць яе валасы.

Марыі здаецца, што гэта месца, куды людзі адносяць свае ўспаміны і нерэалізаваныя жаданьні, каб пастарацца назаўсёды ад іх пазбыцца.

У сьпякотныя дні лета высокая трава, якую няма каму касіць, выгарае на сонцы, становіцца зжаўсьцьвелай, нібы з плястмасы. Цяпер позьняя восень, трава мокрая і аблезлая. Пад падэшвамі хлюпае.

Марыя забрыла сюды выпадкова і бяз дай-прычыны. Ёй ня надта карціць вяртацца дахаты і зноў бачыць чужы твар па той бок кухоннага стала.

Напэўна, па начах тут усё жыве сваім жыцьцём, думае яна. Рэчы цяжка ўздыхаюць, вохкаюць, жаляцца ды паўтараюць, бы мантры, свае даўно абрыдлыя суседзям гісторыі.

Але цяпер дзень, і шызаватае сьвятло агаляе іх банальную сутнасьць.

Яна адчувае сябе выпадковай сьведкай, міжвольнай вуаерысткай, якой собіла падглядзець недатычныя яе праявы чужога жыцьця

ПАНТОФЛІКІ АНЯ КУПІЛА АКУРАТ НАПЯРЭДАДНІ ІХ СПАТКАНЬНЯ – І, ШТО ЎЖО ТУТ УТОЙВАЦЬ, МЕНАВІТА ЗЬ ЯГО НАГОДЫ

Марыя зь цікаўнасьцю ўздымае зь зямлі ўшчэнт прагнілы ружовы пантофлік на невялічкім абцасе. Прыкладна 36-ы памер. Ён вельмі нагадвае рэквізыт тых фільмаў, дзе ёй даводзілася здымацца. Нешта па-дзявочаму наіўнае. Такое заўсёды вабіла мэтавую аўдыторыю – асабліва тых, хто з залысінамі, лішняй вагой і валасамі на пузе.

Марыя адкідае пантофлік ды рушыць далей. Ступае асьцярожна, вывяраючы кожны крок. Ёй ня хочацца парушаць натуральны ход падзеяў у гэтым запаведніку сьмецьця.

Мэтраў праз дваццаць вяртаецца, зноў падымае пантофлік. Ёй здаецца, што гэтая вартая жалю рэч раптам пачынае да яе прамаўляць.

Адной цудоўнай раніцай Пол знайшоў яго на падлозе сваёй разьдзяўбанай «бэмкі» і пэўны час ня мог згадаць, каму б ён мог прыналежыць. А згадаўшы, тут жа палічыў за лепшае забыць. Пагатоў, далёка ня ўсе эпізоды яго начных прыгодаў былі прызначаныя для доўгатэрміновага захоўваньня ў памяці.

Пол паціснуў плячыма, вылаяўся ды выкінуў знаходку праз фортку – пакуль мама не заўважыла ды не ўчыніла чарговы скандал.

Пантофлікі Аня купіла акурат напярэдадні іх спатканьня – і, што ўжо тут утойваць, менавіта зь яго нагоды.

Аня была пульхнаватай і бязь меры наіўнай. У краме ёй нават не прадавалі піва, пакуль яна не пакажа дакумэнты.

Рабаціністы твар, сьветлыя валасы, сьмешны даўгаваты нос, падобны да неразьвітай дзюбы.

Яе міміка. Дзіўныя ўздрыгваньні правай рукі як рэакцыя на пачуты жарт.

Бачыш, кажа Аня, яно ўсё стала зусім іншым. Гэтае сізаватае сьвятло летняга золку, гэтыя правады, лаўка,

закінуты запарожац ля ўзбочыны, мае прожылкі, што праглядаюцца праз белую скуру запясьця, яно ўсё стала зусім іншым, калі ты побач.

Аня кажа гэта сваім целам, пакуль Пол расьцірае пальцамі правы локаць. Ён доўга ляжаў у адной позе, і цяпер яму трохі муліць.

Яна кажа гэта, калі ўсё ўжо адбылося. Адбылося амаль як у тых фільмах, якія сёньня Пол назваў бы старамоднымі, але тады глядзеў ледзь ня суткамі.

Я стала часткай цябе, я зрабілася вадкай, падатлівай і амаль празрыстай, кажа Аня. Я пранікла праз тваю скуру, мой любы, і цяпер паволі расьцякаюся па тваіх артэрыях.

Голас Ані гучыць, перакрываючы тлум дыскатэкі, п'яныя крыкі на вуліцы, навязьлівы шум у галаве. Гучыць і неўзабаве змаўкае.

У тую летнюю ноч Аня прыйшла дахаты басанож і схлусіла маме, што аддала ружовыя туфлі сяброўцы на выпускны.

Потым былі дні колкага чаканьня, калі кожны званок мабільніка прымушаў яе ўскалыхнуцца, бы сырэна паветранай трывогі.

Потым былі незьлічоныя зімовыя раніцы, падобныя адна да адной. Сон падступна абуджаў надзею, але першыя ж промні няўпэўненага дзённага сьвятла раскрышвалі яе на дробныя і гострыя аскепкі.

Аня цяпер працуе раздатчыцай у сталоўцы. Яна тоўстая, нязграбная, апранутая ў зашмальцаваны фартушок. Твар чырвоны. Дае аплявуху, калі хтосьці дзеля жарту хоча яе ўшчыкнуць за лытку. А па вечарох плача, выключыўшы тэлевізар пасьля чарговага сэансу мыльнай опэры.

Ружовы пантофлік на тонкім абцасіку ніяк бы ўжо не налез на яе тоўстую цэлюлітавую нагу. Яна б проста яго растаптала.

Рэчы застаюцца, калі зьнікаюць пачуцьці, кажа Марыя. Рэчы можна памацаць, патрымаць у руках, паднесьці да носа. А потым зноў выкінуць у мокрую траву.

Пантофлік з шоргатам туды апускаецца, Марыя выцірае з пальцаў гразь.

Рэчы надзейныя і непарушныя, нават калі яны аддадзеныя пад уладу гніеньня. Людзі перастаюць быць значна хутчэй – спачатку адно для аднаго, а потым і для сябе саміх.

Марыя ўяўляе ўсю гісторыю толькі як сукупнасьць рэчаў. Трывалых, маўклівых, непадуладных эмацыйным паевам. І думае пра тое, што застанецца ў выніку ад яе.

У сьне Пол яшчэ неаднаразова дакранаўся да твару Ані і што*разу* зьдзіўляўся яго ўласьцівай хіба камяням халадэчы.

* * *

Марыя, не распрануўшыся, плюхаецца ў ложак, на брудныя прасьціны, якія яна ніколі не прыбірае. Стома чамусьці даецца ў знакі куды болей, ніж голад. Стома, нібы нецярплівы мужчына, навальваецца на яе і авалодвае, лёгка пераадольваючы млявы супраціў.

У кватэры ўжо паўзмрок, але яна не запальвае сьвятло. Подзьмухі ветру адсланяюць фіранку, і ў пакой трапляюць водблескі фар выпадковых машын.

Паверхам вышэй хтосьці глядзіць футбол, чуваць таксама грукат посуду. «Да ацтань, ня буду я твае катлеты. Апяць булкі дахуя налажыла».

Марыя перакочваецца са сьпіны на жывот і ўтыркаецца тварам у падушку. Заплюшчвае вочы. Прыемная нерухомасьць.

Ёй хочацца засьпяваць для яго песьню, і яна ўяўляе, як песьня злучае іх, утварае ў іх целах скразныя адтуліны і робіць іх нечым адным.

Цела Марыі цяпер ужо не здаецца ёй такім маналітным, як гэта бывае звычайна. У ім адкрываюцца поры, праз якія трапляе паветра. Яна можа адчуваць сваім целам паўзмрок, што пануе ў пакоі, выгіны кветак на падваконьні і нават дождж, які пачнецца

за вакном яшчэ толькі праз пару хвілінаў. Цяпер яна можа сьпяваць сваім целам.

І вось песьня ўжо гучыць у яе ўяўленьні. Ён таксама ў яе ўяўленьні, і песьня робіць яго там прысутным. Яна здатная нават чуць гэтую песьню яго ўяўленьнем.

І няма нічога страшнага ў тым, што гэтая песьня пра сьмерць.

Марыі хочацца прамаўляць гэтае слова на музычны лад, цягнуць яго сваім прыгожым сапрана, якое было дадзена ёй таксама толькі ва ўяўленьні.

Сьмерць ва ўсе часы была найлепшай тэмай для песень.

Сьмерць – гэта зусім не яе цяперашняя рэальнасьць.

Сьмерць бывае адно ў шумерскіх паданьнях альбо на карцінах прэрафаэлітаў.

Сьмерць ніколі ня прыйдзе ў яе аднапакаёўку з выцьвілымі кветачкамі на шпалерах і лінолеўмам на кухні – узбухлым, як ёй падаецца, ад сьлёзаў.

Тут, сярод аднолькавых пашарпаных пяціпавярховак, проста ня можа быць сьмерці. Тут ёсьць польская сантэхніка, эўрарамонт. У кожнай зь ячэек цепліцца сваё жыцьцё, мілае знутры, але бясконца панылае для адчужанага поглядуназіральніка.

Сьмерць заўсёды ўяўлялася ёй нейкай атрыбутыўнай прыкметай часу, але тут час застыў, бы кавалкі тушаніны ў бляшанках на забытым стратэгічным складзе

СЬМЕРЦЬ ЗАЎСЁДЫ ЎЯЎЛЯЛАСЯ ЁЙ НЕЙКАЙ АТРЫБУТЫЎНАЙ ПРЫКМЕТАЙ ЧАСУ, АЛЕ ТУТ ЧАС ЗАСТЫЎ, БЫ КАВАЛКІ ТУШАНІНЫ Ў БЛЯШАНКАХ НА ЗАБЫТЫМ СТРАТЭГІЧНЫМ СКЛАДЗЕ

Аднак Марыі цяпер дадзена адчуваць час, прычым зусім не як непазьбежнасьць альбо імпэратыў. Але таксама і зусім не як сьмерць.

Яе цяперашнім часам раптоўна становяцца панчохі, зьнятыя пасьля насычанага ўражаньнямі дня і пакладзеныя на ўскраек гатэльнага ложку, складкі на якім будзяць прыемныя ўспаміны. Альбо замілаваньне, калі ў парку спасярод вялізнага горада яна раптам убачыла вожыка. Альбо той выпадак, калі яе папрасілі трохі патрымаць на руках пяцімесячную дзяўчынку, і немаўля пасьпела насікаць Марыі на сукенку.

Марыя хоча занурыцца ў кожны з гэтых момантаў і навекі зрабіць яго сваёй рэчаіснасьцю. Як быццам паставіць на паўзу фільм на самым прыемным ягоным кадры – перад тым як здарыцца непазьбежны ў драматургіі канфлікт.

Разуменьне таго, што гэта немагчыма, накотваецца, бы лавіна цэмэнту. Сваімі абгрызенымі пазногцямі Марыя ўтыркаецца ў мяккія тканкі ля запясьця.

Затым устае з ложка, чамусьці ідзе ў вітальню, вяртаецца, уключае тэлевізар, некалькі разоў шчоўкае пультам, калі бачыць на кожным канале выявы свайго няроднага горада. Урэшце трапляе на прагноз надвор'я па «Эўраньюс» і пакорліва выслухоўвае, колькі градусаў заўтра будзе ў Мантэвідэа, а колькі ў Бэйруце.

Затым выключае тэлевізар і зноў кладзецца ў ложак. Затым устае, каб памыць яшчэ заўчарашні посуд, але замест гэтага чамусьці з усяе моцы б'е нагой парожнюю бутэльку ад піва, што стаяла пасярод кухні. Затым ізноў уключае тэлевізар, і ён узрывае паветра злавеснымі гукамі калыханкі.

Поры цела Марыі паступова закрываюцца, быццам бронезаслонкі ў кулямётнай амбразуры, і ўжо неўзабаве яна ня можа адчуваць зусім нічога.

Цела Марыі – гэта яе абалонка, якая абараняе і аберагае.

# МАКС ШЧУР

## КІНАРАМАН

*(урывак)*

– Неяк я захацеў пазнаёміцца зь дзяўчынай... – На халеру? – Проста, спадабалася. Сядзела ў парку і чытала. – Мала ж трэба, каб табе спадабацца. – Мала. – Пазнаёміўся? – Не адразу. Першы раз не наважыўся. Другі раз таксама. Трэці... – Ведаю я гэты анік. Не прайшло і паўгода, і яна была тваёй? – На чацьвёрты раз да мяне дайшло: яна нездарма ўвесь час там сядзіць. Кожны дзень у адзін і той жа час. – Ясна: цябе чакае. – Ну, і я падумаў: нешта тут ня тое. Падыходжу, пытаюся. – Чакай, я ўгадаю: «Спадарычна, а што гэта вы чытаеце?» – Ціпа таго. Ну, слова за слова. Кніжкі люблю, тыры-пыры. А чаму менавіта тут? Яна так на мяне паглядзела: а я тут жыву. – Дзе тут? – У парку. – У дупле, так? – На зэдліку, «у дупле». Яшчэ з сабачкам і хлопцам. – Сынам? – Партнэрам. – Ну, дзякуй богу. Не шанцуе табе. – Прычым маладая дзяўчына, гадоў дваццаць пяць максымум. І ўжо бяздомная. – Далёка пойдзе. – Наркотыкі? – Ты слухай. Я кажу: як такое магло здарыцца? – А сам ужо прарэх на радасьцях расшпільваеш. – Дзяўчына абсалютна нармалёвая, апранутая прыстойна, чыста, сама не нападпітку там і г. д. Яна кажа: вам якую гісторыю, кароткую ці доўгую? – Кароткую! Ты сказаў «кароткую», праўда ж? – Доўгую, кажу. – Бля... – Усё пачалося з таго, маўляў, што мы працавалі на біржы. – Мы? – З хлопцам. – І сабачкам. – Так. Глядзелі фільм «Бойлер рум»? – Джавані Рыбізі, Бэн Эфлэк, Він Дызэл. – Ён. Дык вось у такім «бойлер-руме». Па тэлефоне ўцюхвалі багатым кліентам усякія левыя акцыі. Між іншым, гэты фільм ім на біржы паказвалі ў якасьці інструктажнага. – Хуясе. – Калі ня блытаю, у самім гэтым фільме глядзяць «Ўол-стрыт»? – Так, ведаюць яго напамяць. – Як мы «Палп фікшан». – А які фільм глядзяць у фільме «Ўол-стрыт»? – Там чытаюць Эйн Рэнд, напэўна. – Карацей, вось што дзяўчына кажа: тэмп і напружаньне працы там такія, што вытрымаць іх можна толькі на какаіне. – Хачу-хачу! – Яна, між іншым, лічылася адной з найлепшых працаўніц. – Нюхала больш за ўсіх! – Яе мянушка была «Спаліцелька трупаў». Колькі вы думаеце яны з хлопцам зараблялі? – Ну, па дзьве штукі баксаў на месяц. – Па дзесяць. – Разам? – Кожны. – А туды яшчэ бяруць? – Праз паўгода дзеўка аблысела. – Кляты Чарнобыль. – Ад нэрваў і наркаты, павыпадалі валасы. – Гэта

модна. – Чакай, ты што, хочаш сказаць, што маімі асабістымі акцыямі й мільёнамі на біржы варочаюць не банкіры, а нейкія наркаманы? – Да цябе як да жырафа. – Наркотык багацеяў. А ты сабе піўко смакчы. – Мда. Дзякуй. Яшчэ адзін куфаль, калі ласка. – Стала ясна, што трэба шукаць іншую працу. Яны пастанавілі зрабіць свой бізнэс, куплялі нерухомасьць. Прагарэлі. Пачалі браць пазыкі. Усякія там экспрэс, пад вялікія працэнты. Хлопец пайшоў падпрацоўваць начным бармэнам. Працягваў ужываць. Ну і гэтак далей. Адным словам, праз два гады пасьля таго, як яны сышлі зь біржы – апынуліся на ходніку. – А бацькі, сябры? – Не хацелі ім казаць. Сорамна. Ганарыстыя: мы ўсё самі. – Здаецца, пра гэта недзе пісалі. – Я ж і пісаў. – Малайчына! А мог бы зьняць. – Я не Тржэшцікова. Была думка... Але здалося, што важней, каб пра гэта напісалі неадкладна. Каб людзі ведалі, што кіно ў асобных выпадках – гэта ня проста кіно. – Нават галівудзкае. – Але рэакцыі мяне дабілі. Усе віншавалі мяне з удалым «апавяданьнем», прыкінь! Маўляў – вось гэта сюжэт ты прыдумаў! Маклеры на тратуары! На зэдліку ў парку! Броўкерз ар броўк! Ёсьць справядлівасьць! Наколькі мазгі ў людзей забітыя бяздарнай бэлетрыстыкай. Я кажу: сябры мае, нічога я не прыдумаў. Дый я сам бы да такога сюжэту не дадумаўся. – Вядома, ты б туды яшчэ прыплёў дэтэктыўную лінію. – Або містычную. Мы ж у Празе. – Абавязкова. – Дык а чым скончылася? Ты дзяўчыну так ці не? – Яшчэ адзін. Якая розьніца! – Як якая розьніца? А мараль? У чым тады мараль? – Скажам так: паўгода яшчэ не прайшло. – Не, ну я так не гуляю...

ДАКУМЭНТАЛЬНАЕ І МАСТАЦКАЕ. Дакумэнтальныя фільмы адрозьніваюцца ад так званых мастацкіх перадусім прамовамі герояў: інтанацыяй, вымаўленьнем, тэмпам; у іх пасьля рэплік амаль няма паўз, таму што ў жыцьці людзі звычайна абдумваюць свой адказ падчас слуханьня, а не пост-фактум, да таго ж, несупынна перабіваюць адны адных. У мастацкіх фільмах («сінэма», як іх называе Брэсcон), наадварот, «драматычныя паўзы» пакідаюць пасьля кожнай выразна вымаўленай рэплікі для таго, каб гледачы ўзважылі і асэнсавалі пачутае. Рэлікт тэатру.

Што цікава, падобным «акторскім» спосабам прамаўляюць і некаторыя аўтары прозы, якія хочуць, каб іхныя «карцінныя», штучныя, вымудраныя фразы, што называецца, «прагучалі».

*«Пустая ідэя «мастацкага кіно». Мастацкія фільмы – якраз тыя, дзе мастацтва найменей».*

*Рабэр Брэссон*

*

Свой першы кінасцэнар я напісаў гадоў у шаснаццаць-сямнаццаць, і прызначаўся ён майму малодшаму брату ў школу. Настаўніца літаратуры прыдумала дзецям заданьне: «экранізаваць» – то-бок фактычна апавесьці ў некалькіх асноўных сцэнах, як комікс, – нейкае сучаснае апавяданьне, ня памятаю ўжо, чыё ані пра што. Каб завочна зьдзівіць настаўніцу, я намаляваў сапраўдны сторыборд (адкуль гэта толькі ўзялося? клянуся, што я ніколі раней ня бачыў сторыбордаў), які ішоў зьверху ўніз, як табліца, і ў акенцы побач з кожным намаляваным кадрам быў прапісаны ўзяты з апавяданьня закадравы тэкст або дыялёг. Памятаю, што ў маёй табліцы нават чаргаваліся агульныя пляны з дэталямі, як належыць, і нават былі пазначаныя месцы, дзе павінна гучаць музыка.

Гэта быў першы й адначасова апошні сцэнар, даведзены мною да ладу, а таксама адзін зь першых, зробленых мною для брата. Нашмат пазьней, амаль адразу пасьля майго ад'езду за мяжу, брат пайшоў працаваць

на рэгіянальнае тэлебачаньне, дзе праз пару гадоў выбіўся на пазыцыю сьпярша мантажыста, пасьля рэжысэра, а неўзабаве пачаў здымаць уласныя кароткамэтражныя фільмы, адзін зь якіх быў адзначаны на нейкім нацыянальным конкурсе. Урэшце брата ўзялі на працу на адно сталічнае тэлебачаньне, дзе ён і сёньня працягвае займацца любімай справай, час ад часу здымаючы кароткамэтражкі «для душы». Што праўда, ніводны з маіх аматарскіх сцэнараў ён так і не экранізаваў. Робячы гэтае горкае прызнаньне, я ўяўляю сябе кімсьці накшталт Рыкардо Броскі, які ўсё жыцьцё прысьвяціў таму, што пісаў для свайго геніяльнага малодшага брата пасрэдную музыку. Нават гэтая мая ўява запазычаная з кіно, з улюбёнага фільма пра Фарынэлі – хаця ў нашым з братам выпадку кастратам відавочна ёсьць не сьпявак, а якраз кампазітар.

*«У фільмах нашай маладосьці гучала амэрыканская ангельская, французская, італьянская. Мы былі шакаваныя, калі Інгмар Бэргман увёў у кіно мову, якой ніхто ня ведаў.*

*З майго гледзішча, зьяўленьне польскай мовы ў кіно міжнароднага ўзроўню было для нашай краіны самай важнай культурнай падзеяй пасьляваеннага часу».*

*Анджэй Вайда*

АЎТАР:

Пакуль я тут сабе ўжо другі год шрайбаю гэтую кніжку, якую тысячу кілямэтраў адсюль, зусім побач, калектыўна перажывае найлепшыя часы сваёй гісторыі так званы «мой народ». Згадваючы яго цяпер у сувязі з кіно, я думаю: чаму мой народ, як і яго літаратура, як і сам я разам зь ім – усяго толькі сымулякр?

Мне здаецца, што я знайшоў адказ: у нас не было ў ХХ стагодзьдзі ўласнага кінагенія.

У нас абавязкова трэба дадаваць: «То-бок, магчыма, быў – але мы пра яго ня ўведалі, ані ён сам пра сябе ня ўведаў, бо застаўся ляжаць у брацкай магіле інтэлігенцыі, разам з расстралянай у 30-я гады літаратурай. Хутчэй за ўсё, гэта і быў нехта з забітых паэтаў ці празаікаў».

Магчыма. Але факт ёсьць факт.

Нагадаю, у ХІХ стагодзьдзі, стагодзьдзі нацыяналізмаў, кожны народ з амбіцыямі на культурнасьць і ўласную дзяржаўнасьць быў абавязаны мець як мінімум свайго паэта-рамантыка і свайго кампазітара-рамантыка ўсясьветнага ўзроўню (гл. тандэмы Маха-Дворжак, Пэтэфі-Ліст, Ібсэн-Грыг, Міцкевіч-Шапэн). Чамусьці менавіта іх двух (ні філёзафы, ні пісьменьнікі, ні мастакі, ні нават навукоўцы «не лічыліся») было цалкам дастаткова для прызнаньня народа народам: паэт забясьпечваў такое прызнаньне «зь сярэдзіны», а кампазітар, як майстар найбольш унівэрсальнага з мастацтваў перадусім за мяжой.

Тым часам у стагодзьдзі ХХ-м, візуальным, стагодзьдзі відовішчаў і паказухі, каб быць успрыняты ў сьвеце сур'ёзна, пацьвердзіць нацыянальны атэстат сталасьці й г.д., зрабілася неабходным (пажадана, у дадатак да ўласнай дзяржавы) мець для ўнутранай легітымацыі Празаіка зь вялікай «П» (якога-небудзь як мінімум Джойса ці Борхэса), а для вонкавай – свайго Кіношніка зь вялікай «К». Менавіта кіношніка, рэжысэра, кінагенія, – а ня проста якуюсьці там умоўную «нацыянальную кінэматаграфію», якую так ці іначай займелі ўсе, і ў якой нават нам сёе-тое ўдалося, перадусім у вобласьці кіно для дзяцей.

Натуральна, у ХІХ ст. наш народ «свайго» геніяльнага паэта-рамантыка ўсясьветнага ўзроўню меў – Міцкевіча, які, што праўда, не напісаў на роднай мове і двух вершаў. З кампазітарам было цяжэй: можна было б лічыць такім Манюшку, але гэта

ўсё-ткі, як ні круці, не Шапэн. Што ж, тады ў XX ст. наш народ канец канцоў паднапружыўся і выдаў зь сябе ўсё-ткі геніяльнага беларускамоўнага паэта ўсясьветнага ўзроўню: Багдановіча (а вы каго падумалі?) – але ягоны прыход быў, на жаль, запозьні й нікога асабліва не зацікавіў: быць добрым паэтам у XX ст. не было ўжо такім дзівам, як у папярэднім, – зрэшты, як і добрым музыкам.

З празаікамі справа была значна лепшая, і зь некаторых зь іх выйшлі выдатныя ўнутраныя папулярызатары й легітыма... – адным словам, я маю на ўвазе Быкава або Караткевіча, – якіх, між іншым, экранізавалі на «Беларусьфільме», часам нават пры іхным удзеле як сцэнарыстаў.

як мог уцюхваў малодшым. Менавіта гэтаю любоўю былі прадыктаваныя нехлямяжа зарыфмаваныя вершы Стральцова – замест якіх, я пэўны, ён мог бы зьняць не адзін добры фільм, калі б яму былі толькі дазволілі ці прынамсі падказалі.

Вось цікава: што, апроч дзяржавы й войска, спатрэбіцца ў XXI ст. для прызнаньня народа народам, а не сымулякрам? Блогер усясьветнага ўзроўню, рэпэр у.у., дыджэй у.у., скейтбардыст у.у., графітыст у.у., гулец у покер у.у. (такі, здаецца, ужо ёсьць, і не адзін), гулец у комп у.у. (гульца мо і няма, але ёсьць гульня), яшчэ хтосьці у.у.? Ня ведаю. Ведаю толькі, што доўгачаканая Нобэлеўская прэмія па літаратуры, – трасца бяры,

## МЕЦЬ ДЛЯ ЎНУТРАНАЙ ЛЕГІТЫМАЦЫІ ПРАЗАІКА ЗЬ ВЯЛІКАЙ «П» (ЯКОГА-НЕБУДЗЬ ЯК МІНІМУМ ДЖОЙСА ЦІ БОРХЭСА), А ДЛЯ ВОНКАВАЙ – СВАЙГО КІНОШНІКА ЗЬ ВЯЛІКАЙ «К»

Што да ўласна кіно, то – глядзі вышэй: ніякіх табе Дрэераў, Гітчкокаў, Бэргманаў, Бунюэляў, Сабо, Параджанавых, Вайдаў, Ёсэліяні, Форманаў, ды што там, нават Альмадовараў ані фон Трыераў. Ніякіх «новых» ані «старых» хваляў. Галяк. Цішыня. Драматычная паўза.

Вядома, кінагенія мог бы лёгка замяніць усясьветна вядомы порнаактор... Другая драматычная паўза.

Калі сур'ёзна, то з увагі на ролю літаратараў у кінамастацтве мне чамусьці думаецца, што задаткі кінагенія несумненна былі прынамсі ў аднаго нерэпрэсаванага беларускага пісьменьніка: Стральцова. Пра гэта сьведчыць ужо сам стыль ягонай прозы, з асабліваю ўвагай да дэталяў і псыхалёгіі пастацяў. Невыпадкова, што ён і сам цікавіўся кіно; кажуць, любіў Фэлліні. Але ж яшчэ болей ён любіў бальшую русскую ліціратуру, – гэты экспартны флягман расейскага імпэрыялізму, які старэйшы брат

што не за мастацкую й не на сваёй мове, – прыйшла зноў запозна, і ніякай легітымнасьці апрычонаму існаваньню майго народа ўжо быццам і не дадае. Пакуль што ў нас, калі не лічыць спартоўцаў, толькі адзін таварыш у.у. – дыктатар у.у. Але і той – прынамсі, спадзяюся, – да пары.

І што мы будзем рабіць далей?

Ну як што: зноў дасьледаваць прозьвішчы й радаводы чужых геніяў і спрабаваць знайсьці ў іх нашыя карані! Гэта мы ўмеем рабіць лепш за ўсіх астатніх.

То-бок, сябры мае, калегі-літаратары, у мяне для вас радасная навіна: мы з вамі ня ў тым бізнэсе. І вы, сябры-кіношнікі, ужо таксама.

Аднак што нам, маладым, нейкія там стагодзьдзі: мы самі сабе сусьвет, і гэта ў прынцыпе ня так і блага. Менавіта таму ў нас акурат на пачатку трэцяга тысячагодзьдзя назіраецца ну папросту росквіт ня толькі дубляжу на родную мову ўсякай галівудзкай папсьні, але і ўласнай незалежнай

ШТО ПРАЎДА, З ТАК ЗВАНАЙ «БЕЛАРУСКАСЬЦЮ» ГЭТАЕ КІНО ПЕРАВАЖНА НЯ МАЕ НІЧОГА СУПОЛЬНАГА – ТО-БОК НЯ МАЕ НІЧОГА НАЦЫЯНАЛЬНА АДМЕТНАГА

прадукцыі, падтрымліваны адразу некалькімі фэстывалямі: фільмаў у Беларусі цяпер не здымае толькі гультай – а гультаёў, балазе, хапае. Што праўда, з так званай «беларускасьцю» гэтае кіно пераважна ня мае нічога супольнага – то-бок ня мае нічога нацыянальна адметнага, за выключэньнем пары-тройкі «Гудбай, бацькаў» і «Масакраў». Бо кіно – гэта ж обшчачалавечаскае, а яно павінна быць у першую чаргу на ўсяму чалавечаству панятнам языке.

Адным словам, раз беларусы нікога ня... Маюць! Кінакрытыкаў! Вось і мне таксама, хоць я і ня крытык, – абы крытыкаваць.

А пры гэтым літаральна ў нас пад носам квітнее яшчэ адзін сымулякр, што гераічна імкнецца замяніць сабою нацыянальнае кінамастацтва: беларуская літаратура! Працяг будзе.

*«Не, сёньня ў кіно мне не выпадала ісьці: я даўно адчуваў, што перарос усё гэта. Аставаўся рэстаран».*

*Міхась Стральцоў*

ШОЎ НОТ СПІК. У кіно лепш відаць схематычнасьць дзеяньняў і характараў, якая ў літаратуры (і нават у тэатры зь яго овэрэктынгам) здавалася б нам «пераканаўчай» – проста таму, што на яе было б патрачана шмат словаў. Мы наіўна верым мове, сказам, выказваньням, показкам, казкам, пісьму, апісаньню, «прыгожаму» пісьменству і яго штукарскім ілюзіям – насамрэч нашмат больш, чым ілюзіям кіно. Калі б які-небудзь «The Room» быў кнігай, то знайшліся б выдаўцы, якія з дапамогай сваіх сяброў-крытыкаў і прадажных аўтараў («апініян-мэйкераў») зрабілі б зь яго ледзь не псыхалягічны трылер-бясцэлер.